

*Шампанскае — гэта напой для ўсіх. А для рызыкоўных людзей — асабліва.*

8-я — 9-я стар.



*Палёт насустрач Жыццю, сустрэча Любові, сустрэча Смерці — адбітак разумення такіх простых рэчаў праз творчасць Валянціна Елізар'ева прывёў да сусветнага прызнання беларускага балета.*

15-я стар.



*Лютуе крызіс, але шчыруе сонца. Наша цудоўная палова рыхтуе летнія строі.*

16-я стар.


**28** мая
аўторак, №№ 131-132
(22934 — 22935)





# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● цана 1000 рублёў


## ВАЙНА НЕ СКОНЧЫЛАСЯ, ПАКУЛЬ НЕ ПАХАВАНЫ АПОШНІ ЗАГІНУЎШЫ...

**Наша зямля амаль штогод адкрывае такія тайны, што сэрца скалынаецца ад болю і журбы. А для кагосьці і ад надзеі: раптам будзе знойдзены апошні прытулак роднага чалавека — дзеда, бацькі, брата, сястры. Невядомыя дасюль брацкія пахаванні — гэта як экзамен на чалавечую годнасць. Для ўсіх нас. Жывых. Сённяшніх.**

**«Звязда» працягвае публікацыю матэрыялаў пра лагер смерці «Дразды» і звяртаецца да ўладаў зрабіць рэальныя захады, каб увекавечыць памяць загінуўшых.**

*(Чытайце 10-ю стар.)*

## ДЫРЭКТАРА «НОВАЙ ГЕНЕРАЦЫІ» ПРЫЦЯГНУЦЬ ДА АДКАЗНАСЦІ

Днямі ў Мінску быў арыштаваны Яўген Кажурэнка — былы дырэктар таварыства з абмежаванай адказнасцю «Новая генерацыя». За паўгода свайго існавання таварыства заключыла тысячы дагавораў на суму 17 мільярдаў рублёў. Да жніўня 1995 года, калі была ўзбуджана крымінальная справа, «Новая генерацыя» ўжо паспела пералічыць у Прыбалтыку больш за 80 тысяч долараў ЗША. 2 мільярды беларускіх рублёў былі «падараваны» наяўнымі прадстаўнікам Эстоніі.

Трэба зазначыць, што ад махлярскіх афер фінансавых «пірамід» у нашай краіне пацярпелі дзесяткі тысяч людзей. Наўрад ці «адшуканы» дырэктар зможа вярнуць укладчыкам іх грошы. А вось адказваць за свае махлярствы яму, відаць, давядзецца.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## АБ СЯРЭДНЯМЕСЯЧНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ

Мінстат Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у красавіку 1996 года склала 1.143.002 рублі (у сакавіку была 1.142.032 рублі). У студзені—красавіку 1996 года яна склала 1.099.323 рублі і ўзрасла ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 2 разы.

## Увага! Сумесная акцыя газеты «Звязда» і Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля»

# ВЫРАТАВАННЕ



**«Звязда» і Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля распачалі сумесную акцыю па выяўленню і адпраўцы на аздараўленне за мяжу дзяцей, у першую чаргу з глыбінкі, якія атрымалі захворванні ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС і зусім альбо ў апошнія год-два не прайшлі лячэння.**

Паглядзіш на здымак — і ўсе дзеці, здавалася б, аднолькавыя. Ды толькі варта завастрыць позірк, як становіцца ясна, што і сум у вачах, і дарослacць, дакладна адлюстраваная на твары, — усё гэта розніць нашага, беларускага падлетка ад яго замежных сяброў. Відаць, што і гульні ў іх адны, і словы ім запалі ў памяць чужыя, раней незнаёмыя. І ўсё ж балючая рознасць ёсць, існуе. Дрыготка-трапяткая рознасць. Як яе зменшыць? Як скараціць узровень болю? Як прымусіць жыццё не ўскладваць на плечы нашага юнага суайчынніка цяжкія пакуты? Як абмежаваць, як адштурхнуць Чарнобыль ад нашага заўтра? Ад нашай будучыні...

І хаця сёння зусім не да пераканаўча-аптымістычнага настрою, не да таго, каб нечым цешыць, у галаву прыходзяць і наступныя развагі. Боль мы можам адолець толькі разам з усім светам. І калі там, за межамі нашай Айчыны, наша сэрцабіццё пачулі, то мы не павінны сядзець безуважна, а аб нечым рупіцца. Хаця б заявіць (і свету таксама!) аб сваіх дзецях, аб тым, што іх трэба ратаваць.

**ПІШЫЦЕ НА АДРАСЫ**: ***220029, Мінск, вул. Старавіленская, д. 14, Беларускі дзіцячы фонд «Дзецям Чарнобыля» альбо 220013, вул Б. Хмяльніцкага, д. 10а, «Звязда».***

***Званіце па тэл: 68-28-72, 32-14-52.***

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**
**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

*Генадзь ГРУШАВЫ:*

## «БЕЛАРУСКІ ДАБРАЧЫННЫ ФОНД «ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ» БЯРЭ НА СВАЕ ПЛЕЧЫ ЧАСТКУ ДЗЯРЖАЎНАЙ САЦЫЯЛЬНАЙ НОШЫ...»



***Адзванілі жалобныя званы, адгрымелі прамовы на мітынгах. Прайшлі хвіліны смутку, жалобы. А Чарнобыль застаўся з намі. І хіба можна сцвярджаць, што пасля мітынгова-чарнобыльскага красавіка 1996 года людзям стане жыць лягчэй? Магчыма, правільней было б са старшынёю Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля», вучоным і грамадскім дзеячам Генадзем Грушавым пагутарыць недзе напярэдадні 26 красавіка. Ды толькі не хацелася раней, няма ахвоты і зараз разглядаць наш дыялог як гутарку, прымеркаваную да даты. Да таго ж у пярэдадзень трагічнага юбілею Генадзь Уладзіміравіч быў заняты іншымі, больш практычнымі справамі. А 26 красавіка наш суайчыннік выступаў з дакладам ад імя Беларусі ў нямецкім бундэстагу. Таму і размаўляем з адным з пачынальнікаў дабрачыннага чарнобыльскага руху ўжо ў маі, пасля дзесятых угодкаў вялікай бяды.***

**— Баючыся, што першае маё пытанне прагучыць крышачку трывіяльна, усё ж хацеў бы спытацца пра пачатак. Як вы асабіста прыйшлі да чарнобыльскіх клопатаў?**

— Толькі ў 1989 годзе я зразумеў, што праблема Чарнобыля — маральная, палітычная праблема. Па прафесіі, па прызванню я акадэмічны чалавек, дакладней — чалавек ад навукі. І гавару па шчырасці, што сам момант чарнобыльскай катастрофы прагледзеў, празяваў. Мусіць, як і мільёны маіх суграмадзян. А цікавасць жа сур'ёзную адчуў у канцы 1988 года, калі ў друку з'явіліся першыя праўдзівыя публікацыі. Якраз толькі тады да мяне пачалі даходзіць першыя ўзрушальныя факты, звязаныя з аварыяй, яе наступствамі.

Фонд я пачынаў ствараць з вялікім жаданнем. Меркаваў, што дзякуючы гуманітарнай дапамозе шмат каму здолею дапамагчы. Сустрэчы з людзьмі-ахвярамі пераконвалі, што нельга так падманваць народ. Амаральна хаваць небяспеку, прыгладжваць яе. Амаральна пакідаць жыць у зоне, блізкіх да яе раёнах людзей, дзяцей у першую чаргу. І гэта тады ўжо, як людзі добра разгледзелі бяду. Летам 1989 года я пабываў у сумна вядомых Чудзянах. Узровень радыяцыі — 160 кюры... Зайшоў у хаты, у дзіцячы садок наведаўся. Жах ахапіў! Захацелася пратэставаць. Ды разумеў, што сам па сабе пратэст нічога не дасць. Але і мірыцца з тым, што лёс незваротны...

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

*СІТУАЦЫЯ*

## ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА ДОКТАРСКАЙ ДЫСЕРТАЦЫІ

**Усё мае пачатак. А ў дадзеным выпадку — зварот доктара педагагічных навук Віктара Навумчыка ў Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь. Што ж так абурыла вучонага, што адважыўся ён турбаваць вышэйшы эшалон улады?**

Дазвольце цалкам працытаваць гэты гнеўны ліст: «...Звяртаюся да вас з просьбай разабрацца ў сітуацыі, звязанай з не зусім благавіднай дзейнасцю нам. міністра адукацыі і навукі А. У. Казуліна.

Як мне стала вядома, кандыдат фізіка-матэматычных навук А. У. Казулін збіраецца за межамі рэспублікі абараніць дысертацыю на атрыманне вучонай ступені доктара педагагічных навук. Яго дысертацыя грунтуецца на выдадзеным у Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі, дзе дырэктар А. Жук, друкаваным выданні пад назваю «Педагагічныя асновы дзейнасці навучальных устаноў новага тыпу» і надрукаваным пад прозвішчам Казулін А. У. Ва ўводзінах сам жа «аўтар» паведамляе, што гэта работа — вынік калектыўных даследаванняў, каторыя, дарэчы, шмат гадоў праводзіліся на дзяржаўныя грошы групай вучоных-педагогаў. Тым не менш гэты ж змест, уведзены ў дысертацыю, становіцца ўжо толькі асабістай працай А. У. Казуліна. На мой погляд, гэта бессаромнае выкарыстанне службовага становішча. Разгляд дысертацыі па-за межамі Беларусі фактычна выключае магчымасць яе публічнай абароны і аб'ектыўнай адзнакі. У сувязі з вышэй выкладзеным прашу вас даць распараджэнне разабрацца».

Працытуем кавалачак прадмовы да манаграфіі Аляксандра Уладзіслававіча: «Сапраўдная манаграфія падрыхтавана на аснове рэзультатаў заказанага Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь даследавання, выкананага навуковымі супрацоўнікамі лабараторыі педагагічнай творчасці Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі (далей ідзе пералік прозвішчаў. — **А. К.**) ...пад агульным

**(Заканчэнне на 14-й стар.)**

# ДОСЛЕД ЛЁСУ НА ЗАКОН ПРОЦІДЗЕЯННЯ



ПРА ЦЁЦЮ ШУРУ я хацела напісаць ужо даўно, як толькі пачала займацца журналістыкай. Вельмі ўжо цікавая ў яе была прафесія — а працавала яна ў Мінску, у доме дзіцяці, даглядала самых-самых немаўлят, толькі з радзільнага дома. Пасля мой энтузіязм астыў: даведалася, што пра Аляксандру Іванаўну Марэцкую, пра яе шчырую і старанную працу неаднойчы пісалі раней калегі па пяру. Але ўсё ж карцела даведацца пра нашу суседку (у вёсцы ў Марэцкіх дача) больш. Мо таму, што бачу яе, у адрозненне ад тых калег-журналістаў, не на рабочым месцы, у чысценькім беленькім халаціку, а сярод вечных вяскова-сезонных дачных клопатаў, у сялянскай «уніформе»... Карацей, звычайная вясковая кабета. Але падабенства з вясковай крыклівай цёткай адразу заканчваецца, як толькі цёця Шура пачынае гаварыць. Памятаю, мы, дзеці вёскі, звыклыя да традыцыйнай, натуральнай, але часцей зусім не злоснай грубасці сваіх бацькоў, а нярэдка і да лейцаў ці бізуна, разявіўшы раты назіралі, як цёця Шура заве сваіх унукаў, якія загуляліся дапазна. «Насцечка, Дзімачка, я вас чакаю. Ідзіце, калі ласка, дамоў». Малыя весела адказвалі: «Зараз, бабуля», — і беглі ў хату... І да суседзяў, да суседак — гэтак жа ласкава: «Людачка, Лёнечка...» І гэта зусім не тое, што завецца нахабнай вясковай лісլівасцю, саладкаватай, праўда, але непрыемнай, часам нават агіднай. Гэта — шчыра. Ад сэрца, ад розуму, ад душы? Не ведаю дакладна. Чалавек проста не можа інакш. Чалавек добры. Чалавек любіць людзей.

Чула я, што ў нашай суседкі было вельмі цяжкае, сіроцкае дзяцінства. І верылася і не верылася: адкуль жа, здавалася, як не з выхавання, не з прыкладу самых блізкіх людзей складаецца характар чалавека, яго светаўспрыманне. Рызыкнуўшы адарваць Аляксандру Іванаўну (для мяне яна, праўда, цёця Шура, гэтак жа як я для яе — Леначка) ад штохвіліннай веснавой мітусні і пагутарыўшы з ёй, падумала: не, ёсць, пэўна, акрамя выхавання, яшчэ нешта, што не паддаецца раптоўнаму разуменню. Можа, здараецца так, як у тым сусветным законе: дзеянне роўнае процідзеянню?

«У вас, напэўна, вельмі добрая і клапатлівая была маці?» Спыталася, убачыла цень даўняй, з дзяцінства яшчэ, незабыўнай і непазбыўнай тугі на твары жанчыны, зразумела: не тое, не так трэба было пачынаць... «Што ты, Леначка, я маці сваю і не помню нават. Памёрла яна, мне два годзікі было. Расказвалі мне пасля: мама ў труне ляжыць, а я хаджу, спяваю і ў ладкі пляскаю. Не разумела ж яшчэ нічога...»

Сіроцтва звычайна няшчаснае. Бываюць, праўда, выключэнні. Але выключэнні — яны рэдкія. У маленькай Сашы сіроцтва было па правілах. Па цётках, па бабках, разам са старэйшымі братамі. Здаецца, родныя людзі, кармілі, даглядалі. Але... не шкадавалі. І не любілі. Ці не так, як ім, дзецям, патрэбна было, любілі... Пасля было бацькава вяселле. Адзінае, што помніцца з яго — смак гарэлкі, якую шасцігадовая дзяўчынка, што блыталася пад нагамі без нагляду, употай пакаштавала. «Блага мне вельмі было, а тут яшчэ чужая цётка ў хаце».

Мачахі — яны звычайна злосныя. І падчарак і пасынкаў сваіх не любяць. Бываюць, праўда, выключэнні. Але выключэнні — яны рэдкія. У малой Сашы мачаха не была выключэннем. Яна не любіла дзяцей свайго мужа. У хлопцах бачыла толькі істотную падмогу па гаспадарцы, у малой дзяўчынцы, якой самой яшчэ больш за ўсё хацелася цяпла і ўвагі, — няньку для малога. Заставаўся, праўда, бацька, які зрэдку пяшчотна гладзіў па галаве адзіную дачку. Але гэтага было вельмі-вельмі мала... А праз колькі гадоў бацька пайшоў на вайну...

«Ведаеш, самы яскравы ўспамін з вайны — як хаваліся ад немцаў у блакаду. Партызаны пойдуць у лес глыбей, у балота, а мы ў лагеры застаёмся. Залезем у зямлянку, закрыем уваход выкапанай елачкай і сядзім. А карнікі прама над галовамі тупаюць...» Бацька быў у арміі, таму заставацца ў вёсцы было небяспечна і мачаха з дзецьмі падалася ў партызанскі лагер пад Плешчаніцамі. Дванаццацігадовую дзяўчынку не раз пасылалі ў мястэчка як сувязную. Некалькі разоў яна выводзіла адтуль сем'і, якім пагражала небяспека. «Ці страшна было? Вельмі страшна. Ды што ж зробіш — іду... Ведаеш, якое самае моцнае з дзяцінства, асабліва з вайны, адчуванне, пачуццё? Непатрэбнасці нікому. Я ішла і разумела, што нават калі мяне заб'юць — ніхто не пашкадуе. Гэта, пэўна, вельмі страшна — у дванаццаць гадоў такое разумець».

Адзіны чалавек, які шкадаваў, — бацька, быў на фронце. У сорак чацвёртым ён вярнуўся дамоў. Вярнуўся, каб памерці ад ран у плешчаніцкім шпіталі на руках у дачкі. Літаральна. У прамым сэнсе. «Я ля яго ложка дзень і ноч сядзела. Ён амаль не гаварыў, а тут адкрыў вочы і шэпча: «Саша, папраў мне падушку». Я яму пад плечы рукі падсунула, а ён на іх адкінуўся, наваліўся, вочы адкрытыя, а сам не дыхае. Я стаю, плачу горка, а рукі дастаць з-пад яго не магу...»

Трынаццацігадовая дзяўчынка засталася адна ў вялікім жорсткім свеце. Жыла з мачахай, потым са старэйшым братам, пасля пераехала да дзядзькі ў Мінск. У вялікім пасляваенным разбураным горадзе няпроста было знайсці занятак, які б даваў магчымасць зарабіць на хлеб. «Пасля школы ў хатнія работніцы пайшла. Не з маім характарам было на некага спіну гнуць, але гэта праца давала магчымасць здымаць пакойчык, жыць самастойна. Ды не доўга я так вытрымала».

Лёс прывёў дзяўчыну на курсы медсясцёр, потым — на працу ў дом дзіцяці. У дом дзіцяці пачатку 50-х. Холад, голад... «Дзеці ў нас вельмі часта паміралі. Мы іх цельцы складвалі зімой на гарышчы. Ах, як цяжка глядзець, як памірае малое дзіця! І ты не можаш нічога зрабіць. Страшней няма відовішча». А ратавалі малых як маглі. Нярэдка давадзілася сярод ночы, загарнуўшы хворае дзіця ў коўдру, прыціскаючы яго да сябе, бегчы па гурбах амаль праз увесь горад — у чацвёртую бальніцу.

Спачатку маладая медсястра даглядала самых старэйшых дзетак (а ў доме дзіцяці яны выхоўваюцца да трох гадоў). А потым аднойчы давялося папрацаваць на падмене з самымі маленькімі — ад тыдня да шасці месяцаў. Назаўтра Шуру выклікала тагачасная загадчыца і прапанавала перайсці ў малодшую групу. «Я адмаўлялася, нават плакала, так баялася. А яна мне гаворыць, маўляў, я бачыла, як да цябе маленькія хінуцца. Ты зможаш з імі працаваць. Ты ім патрэбна». Апошняя фраза вырашыла ўсё. Патрэбна — значыць усю мацярынскую пяшчоту, якая невядома адкуль раптам узялася, якой ніколі не хапала самой, — ім, маленькім, бездапаможным...

«Я не злуюся і не наракаю на лёс. Нібы кампенсацыю за пакуты ў дзяцінстве, ён даў мне любячага, клапатлівага мужа, харошых, разумных дзяцей і ўнукаў. Я іх усіх вельмі люблю». Дэфіцыту любові ніколі не адчувалі ні родныя, ні тыя, маленькія, пакінутыя бацькамі, у казённых аднолькавых люльках. «Асабліва запала ў сэрца адна дзяўчынка. Такая яна харошанькая была і гарнулася да мяне вельмі. Я, як на ноч з імі застануся, дык маёй «дачушцы» самую прыгожую распашонку апрану, шапачку. Яна спіць, а я на яе наглядзецца не магу. Вельмі хацелі мы з мужам яе ўзяць да сябе. Але яна не падкідыш была — маці яе, студэнтка, кожны дзень прыбягала. Прытуліць малую да сябе, а я на яе і з зайздрасцю гляджу, і з павагай, што дзіця не кінула. Я такіх вось адзінокіх маці, што аддавалі дзяцей да нас, пакуль самі на ногі станавіліся, ніколі не асуджала...» Нядаўна цёця Шура гуляла на вяселлі ў сваёй «дачушкі». На пачэсным месцы другой мамы.

Праца ў самай малодшай групе дома дзіцяці — няўдзячная. Немаўля ва ўзросце шасці месяцаў не запомніць твар першай жанчыны, што замяніла маці, не пранясе яго ў памяці з удзячнасцю праз усё жыццё. «Але затое як цікава і прыемна, калі прыходзяць нашы выхаванцы, ужо дарослыя, называюць імя і прозвішча, потым называюць тваё прозвішча (даведаюцца перад гэтым, хто быў першай «нянькай») і шукаюць вачыма... А калі скажаш, што гэта ты, — столькі падзякі, столькі шчырых слоў! Пачынаюць распытваць пра свае першыя месяцы жыцця... Ці расказваю? А як жа. Я ўсіх помню. Кожны быў нечым адметны»...

З уласнага вопыту ведаю: павіншаваць Аляксандру Іванаўну з днём нараджэння па тэлефоне немагчыма — увесь час занята. Званяць калегі, сябры, выхаванцы. Усе, каго цёця Шура любіць і каму яна патрэбна.

У Аляксандры Іванаўны рэдкая па нашым часе працоўная кніжка. У радках, дзе значыцца месца працы, — усяго два запісы: прынята на працу ў дом дзіцяці і пайшла на пенсію ўсё з таго ж дома дзіцяці. Затое там, дзе ўзнагароды і заахвочванні, — ніводнага пустога радка.

Здараецца ўсё ж, як у тым сусветным законе: дзеянне роўнае процідзеянню. У добрым сэнсе здараецца. І, дзякуй Богу, нярэдка...

Можа, яно і так — не выхаванне галоўнае. А нешта такое, што не паддаецца раптоўнаму разуменню. Хаця... Калі чую, як старэйшая ўнучка цёці Шуры кліча дадому брацікa, не сварачыся, што загуляўся доўга, а ласкава, якраз як бабуля: «Ясік, цябе ўсе чакаюць, ідзі, калі ласка, дадому», — чамусьці ўпэўненасць аднекуль бярэцца: добрыя людзі з гэтых дзяцей атрымаюцца.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# ...З НАДЗЕЯЙ, ШТО БУДЗЕМ ЖЫЦЬ

**Я памятаю вас, мае настаўнікі: настаўнік песня, настаўнік слова...Толькі дзе вас шукаць зараз, калі ваш адрас паранейшаму не дом і не вуліца? Быццам бы ўсё як і раней, амаль нічога не змянілася. А свая родная краіна быццам бы і саромеецца паслухаць пранізлівую калыханку. Як і раней.**

«А Я СЫГРАЮ,»— кажа адзін чалавек, Уладзімір Пузыня, якога добра слухаюцца музычныя інструменты- - як дзеці свайго бацьку. Давайце, майстар! І мы глядзім, хаваючы здрадніцкае пачуццё адасобленасці ад таго, што адбываецца навокал. Сорамна за сябе, бо побач чалавек, які ведае, што і дзеля чаго робіць. А для яго, аказваецца, зусім не цяжка гадамі шукаць патрэбны гук даўно забытага на Беларусі інструмента. Трапляеш ў пяшчотныя абдымкі ліры — ці яна сама абірае цябе, каб душою пачуў стомлены ад забыцця голас? Знясілены пошлым голасам камп'ютэрнай музыкі, мы палохаемся, бо ўшчэнт разбіта наша ўяўленне пра мастацтва. Наша беларускае мастацтва захавалася дзякуючы апантанасці і самаахвярнасці адзінак. Некалі. А цяпер ізноў — апантанасць і самаахвярнасць людзей, якія па архівах і пажаўцелых кнігах імкнуцца спасцігнуць душу беларускай музыкі. За дзяржаўную зарплату. Але калі меркаваць па грашах, то быццам бы дзяржаве гэта і не патрэбна.

Свет не змяніўся за стагоддзе. Таленавіты чалавек, майстар так і застаецца на зямлі ўсяго толькі вытворцам. Адзінае, чаго не здолела зрабіць цывілізацыя, — надаць фабрычным музычным інструментам САПРАЎДНАСЦЬ гучання. А ўсё проста. Цывілізацыя мала клапоціцца пра душу. Дзе ёй даведацца, што ў беларускай дуды свой характар, а хорум, які не гучаў сем стагоддзяў, мае свой гонар, ліра — таксама паненка з норавам, не адразу адкрыла сваю таямніцу.

«Калі даведаюся, што нехта зрабіў ліру лепей за мяне, стану на калені і пакланюся, — кажа майстар Пузыня. — Я думаю толькі пра тое, што будзе, калі пакіну гэты свет. Што пасля мяне застанецца? Як мяне там сустрэнуць? Рыхтуюся — хачу, каб мяне там пазналі. Гэта і ёсць галоўнае. У гэтым свеце вядомасць патрэбна толькі дзеля таго, каб не перашкаджалі працаваць. Бо могуць. Мой настаўнік Уладзімір Крайко некалі рабіў музычныя інструменты з-пад палы. Хаваўся, каб ніхто не бачыў. Каб «не застукалі». Ён мяне прыняў як сына. Настаўнік і не павінен інакш ставіцца да вучняў — ён атрымлівае ў іх працяг свайго жыцця. Казаў мне, бывала: вучыся, слухай, але не запісвай, бо ўкрадуць. А калі нешта забудзецца, то гэта табе не патрэбна».

Па-філасофску гэта называецца «памятаць душою і сэрцам». Але памяць дзіўна неяк дзейнічае. Таго ж майстра Крайко амаль ніхто не ведае. Затое загучала імя Пузыні- - вучня. Так і працавалі настаўнікі, з надзеяй, што будзем жыць...

Будзем, як жа інакш, бо ёсць ужо ў Пузыні і свае вучні. Будзем, таму што ёсць людзі, якія ўсяляк — словам, справаю падтрымліваюць. Ёсць месца ў інтэрнаце інстытута культуры (дзякуй рэктару ), дзе можна добрым людзям паказаць Музыку.

Ды ёсць Бог, які ўсё адно што святую Троіцу паслаў майстру закон справы, які сведчыць, што ў інструменце ўсё павінна быць гарманічным: матэрыял, знешні выгляд ды гук. Можа, з Божай ласкі вернецца да спрадвечнай гармоніі і слухач.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**



*Каб апынуцца ў вясковай хаце, часам дастаткова адчыніць дзверы ў звычайны інтэрнатаўскі пакой. Тут сцены захоўваюць пах матчыных пірагоў, а гукі нагадваюць пра шумныя вечары ў вялікай сям'і. Адсюль майстар Уладзімір Пузыня выпускае ў свет сваіх «дзетак».*

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

*Генадзь ГРУШАВЫ:*

# «БЕЛАРУСКІ ДАБРАЧЫННЫ ФОНД «ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ» БЯРЭ НА СВАЕ ПЛЕЧЫ ЧАСТКУ ДЗЯРЖАЎНАЙ САЦЫЯЛЬНАЙ НОШЫ...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**— І тады пачалася мітынгова-абуджальная праца?**

— А іначай і нельга было. Перш чым перайсці да практычнай дзейнасці, якраз здольныя абуджаць мітынгі і патрэбны былі. Ды і інфармацыю пра ўздзеянне радыяцыі на здароўе людзей трэба было збіраць. Следам — арганізацыя першага «Чарнобыльскага шляху». На шчасце, я ў пару, своечасова зразумеў, што ад аднаго крыку, ад аднаго толькі пратэсту нічога ў жыцці не мяняецца. І асабліва ў жыцці тых людзей, якія жылі ў зоне.

Я зразумеў, што нешта трэба рабіць...

***З біяграфіі Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля»***

*Створаны праграмы супрацоўніцтва з грамадскімі арганізацыямі, грамадзянскімі ініцыятывамі, дзяржаўнымі і грамадскімі структурамі 28 краін свету. Наладжаны прамыя партнёрскія і шэфскія сувязі паміж замежнымі партнёрамі фонду і 32 раёнамі і гарадамі Беларусі, дзесяткамі населеных пунктаў, бальніц, школ, дзіцячых дамоў і грамадскіх арганізацый Рэспублікі Беларусь. Ініцыіравана гуманітарная дапамога краіне з-за мяжы: 6,2 тысячы тон грузу, уключаючы медыцынскае абсталяванне, дзіцячае харчаванне, лекі і інш., агульным коштам болей за 400 млн. нямецкіх марак. Перададзена гуманітарная дапамога ў выглядзе прадуктовых пасылак, вопраткі, медыкаментаў, вітамінаў, болей як 200 тысячам беларускіх сем'яў.*

— І ўсё ж і тады, у 1989-м, я зразумеў, што важна не толькі людзям нешта даць, але і даказаць, што арганізацыя дапамогі можа быць ажыццёўлена кожным з нас. Чалавечая ініцыятыва — яна павінна прысутнічаць паўсюдна, у любой справе. Іначай нас зломіць не толькі Чарнобыль. Памятаю, як недзе на пачатку працы фонду мне пазванілі з камітэта камсамола Мінскага трактарнага завода. Гавораць, што сабралі грошы, хацелі б перадаць на нейкую акцыю. Вы, камітэт камсамола з правамі райкома, з вызваленымі работнікамі, і не можаце нічога зрабіць, не можаце разумна распарадзіцца гэтымі грашыма? Мяне спачатку не зразумелі. Пасля працяглай паўзы сказалі: мы падумаем.

**— Генадзь Уладзіміравіч, неяк атрымліваецца, што мы зусім як у нядаўнія часы, вядомыя пільнай увагай да палітычнай адукацыі і марксісцка-ленінскага выхавання насельніцтва, пераводзім размову ў рэчышча грамадскай свядомасці...**

— Але ж якраз грамадскай свядомасці і вымагае постчарнобыльскі час. Грамадзянская салідарнасць, грамадзянская ўзаемавыручка - тое, што здольна абудзіць чалавека ад літаргічнага сну. Раней жа салідарнасць праяўлялася толькі на суботніку. І то часцей праяўлялася вымушана, як быццам прымусова. Сёння ж настаў час усведамлення, што чалавечая салідарнасць — неад'емная частка маіх правоў, маёй свабоды.

**— Дарэчы, калі пазіраць з вышыні часу, то як складваліся вашы, вашага фонду адносіны з уладамі?**

— Часам у мяне выклікае здзіўленне, а што гэта за ўлады, якім не патрэбна мая дапамога!? За сем гадоў існавання чаго толькі фонд не выцерпеў!

Але я і рады гэтым выпрабаванням. Сёння, калі на асабістай энергіі (а не на грашах!), на асабістым часе, на ініцыятыве мы можам падтрымліваць дзесяткі тысяч сем'яў, не ўзяўшы ў дзяржавы ніводнай капейкі, мае паплечнікі, удзельнікі нашага руху адчуваюць сябе грамадзянамі. Такімі людзьмі цяжка маніпуляваць, іх немагчыма ўводзіць у зман. І такіх людзей усё большае. Хутка лік іх пойдзе на тысячы, веру, што і на дзесяткі тысяч. Грамадска актыўныя, чуйныя да грамадзянскасці людзі — самы важкі элемент стабільнасці.

**— Увогуле цікавая формула дзяржаўна-палітычнага ўладкавання атрымліваецца: чарнобыльскія наступствы — маральная адказнасць — грамадская актыўнасць... І далей?**

— Вы забыліся яшчэ на стабільнасць...

**— Але традыцыйна, акрамя размоў пра ролю кансалідацыі ў грамадстве, у рэальным жыцці падмуркам стабільнасці лічаць шэраг добра вядомых дзяржаўных інстытутаў.**

— Наш Прэзідэнт таксама жадае стабільнасці. У гэтым памкненні я падтрымліваю яго. Прэзідэнт лічыць, што стабільнасць — гэта сіла. Я ж лічу, што стабільнасць не што іншае, як упэўненасць, свядомая дзейнасць грамадзян. Праз наша самакіраванне мы куды больш надзейна ствараем гэтую стабільнасць у грамадстве, чым павелічэнне дзяржаўных інстанцый, службаў, усялякіх сілавых структур. Трываласць, якая базіруецца на страху, на боязні, — часовая. Зусім іншае — стабільнасць дэмакратычнага кшталту. І ў гэтым, калі хочаце, заключаецца наша ідэалогія.

**— Генадзь Уладзіміравіч, сёлетняе 26 красавіка абвастрыла палітычны характар чарнобыльскай бяды...**

— Не магу цалкам пагадзіцца з вамі. Нічога новага ў палітычным вымярэнні Чарнобыля сёлетні год не прынёс. І ў 1989 годзе аматараў сцвердзіць чарнобыльскую праўду абвінавачвалі ў самых злосных палітычных намерах. І ў 1990-м, і ў 1991-м тое ж самае было. Чарнобыль не можа не закранаць глыбокую палітыку, паколькі закранае лёс усяго народа. І калі ўлада сёння альбо ўчора абвінавачвае пэўныя сілы ў выкарыстанні чарнобыльскіх наступстваў у палітычных мэтах, то яна хітруе. Бо і яна — улада — лічыць Чарнобыль палітыкай. Але ж многімі ўладатрымальнікамі кіруе жаданне манапалізаваць чарнобыльскую тэму. Маўляў, улада валодае абсалютнай ісцінай. Але так ніколі не будзе.

**— Спакваля мы падыходзім да крытыкі ўлады ў сферы чарнобыльскіх клопатаў...**

— Не, крытыкаваць я нікога не збіраюся. І справа тут не ў тым, што ўлада дрэнная ці добрая. Грамадства пакутуе ад Чарнобыля. Вось гэта і павінна быць у цэнтры ўвагі. Грамадства мае поўнае маральнае, юрыдычнае, проста жыццёвае права мець сваё меркаванне і выказваць яго адкрыта, бо за гэтым жа стаяць лёсы людзей, з якіх яно, грамадства, і складаецца.

Лягчэй жа кіраваць насельніцтвам, якому сказалі, што ў гэтай зоне можна жыць, і яно жыве. Мы не дамагаемся анархіі, але ж і не хочам, каб людзей падштурхнулі, пакінулі на выміранне. Я перакананы: калі б 1986—1989 гады ў дачыненні да Чарнобыля прадоўжыліся — людзей, народ можна было б спісваць у архіў.

***З біяграфіі Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля»***

*На аздараўленне за мяжу адпраўлена 80 тысяч дзяцей. На лячэнне, абследаванне і рэабілітацыю за мяжу адпраўлена 497 хворых дзяцей. Створаны Грамадскі медыка-культурны цэнтр у г. Мінску з удзелам вядучых спецыялістаў Рэспублікі Беларусь. Накіравана на навучанне і стажыроўку ў заходнія клінікі 164 урачы і медсястры Беларусі. Праводзяцца незалежныя навуковыя і сацыялагічныя даследаванні па ўмовах жыцця ў чарнобыльскай зоне і сярод чарнобыльскіх перасяленцаў.*

**— Ведучы размову пра грамадзянскую ініцыятыву, сацыяльную актыўнасць людзей, мы гаварылі і пра палітыку. Нават у значнай ступені фонд «Дзецям Чарнобыля» выглядаў арганізацыяй палітычна зарыентаванай. Але ж дабрачынных чарнобыльскіх фондаў, асацыяцый на Беларусі нямала. Іх жа актыўнасць, плён іх працы ні ў якім разе не ідуць у параўнанне з дзейнасцю вашай арганізацыі...**

— Прыклад нашага фонду прыцягальны. На кухні ці ў рабочым кабінеце купка энтузіястаў прымае рашэнне стварыць нешта падобнае. Збіраюцца разам. Арганізацыйна афармляюцца. І ўслед за гэтым нічога не адбываецца. Тады праяўляецца грамадская ініцыятыва іншага кшталту: энтузіясты пішуць пісьмы — і нам, і ў дзяржаўныя ўстановы. Просяць дапамагчы. Каму ж тады і за чый кошт будзеце дапамагаць вы, шаноўныя, дазвольце спытаць?

Наш фонд — гэта вучоба. Людзі вучацца быць грамадска актыўнымі, а значыць — палітычна свядомымі людзьмі. У нас адчыняецца кухня для старых людзей. Працаваць туды пайшлі дзяўчынкі-старшакласніцы. І я перакананы, што ўжо ў юнацтве яны прайшлі велізарную сацыяльную школу. Праходзяць праз форму ўсведамлення таго, што ты, чалавек, павінен нешта рабіць у грамадстве. Пры чым тут палітыка? Але ж і палітыка таксама... Таму і гавару я заўсёды, што Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля», не з'яўляючыся партыйна-ангажыраваным, выконвае вялікую палітычную задачу ў грамадстве, то людзі бяруць на сябе, на свае плечы асабістую адказнасць за вырашэнне сацыяльных праблем, частку агульнаграмадскай, агульнадзяржаўнай ношы.

Сацыяльна актыўныя грамадзяне крытычна ставяцца да навакольных рэалій.

**— Сацыяльная, грамадзянская актыўнасць, думаецца, усё ж уласціва і іншым, няхай сабе і меней энергічным дабрачынным арганізацыям. Але ж наперадзе ваш фонд. Што так істотна ўплывае на выключную руплівасць БДФ «Дзецям Чарнобыля»?**

— Здавалася б, наадварот — усё супраць нас. Быў час — у 1990—1991 гадах, калі хацеў, каб дзяржава падтрымлівала нас, прызнаўшы значнасць многіх нашых праектаў, — фінансава, тэхнічна. А калі зразумеў, **што** мы ўсё ж такі робім, пераканаўся, што дзяржава можа проста паралізаваць гэтую энергію, гэтую ініцыятыву. Здолелі дапамагчы 15—20 сем'ям — і добра. Чыноўніку прасцей. Ён можа адным росчыркам пяра неяк паспрыяць 100 сем'ям. Але ж гэта яму нічога не каштавала, бо дапамога прыйшла ад дзяржавы. Мы ж усё зрабілі самі.

**— Вы атрымлівалі палёгку ў падатковым спрыянні?**

— Ніколі. Фонд не ўключалі ў спіс тых, каму было дазволена... І гэта нас, не зарабіўшых ніводнай гаспадарчай капейкі!

**— Але ж вы самі былі ў парламенце...**

— І ніколі не стараўся прабіць ілбом сцяну. Навошта? Супраць нас было сапраўднае лобі... Супрацоўнічаў жа на тэрыторыі Беларусі з тымі, хто і без усялякіх ільгот гатовы быў дапамагчы. Затое дапамога была выключна шчырай.

**— У каго, як не ў вас, спытаць пра прыдатнасць існуючых сёння законаў для дабрачыннай дзейнасці...**

— Яшчэ ў 1992 годзе я прапаноўваў парламенту прыняць Закон аб дабрачыннай дзейнасці... Што ўвогуле трэба разумець пад дабрачыннасцю? Мне здаецца, у спіс такіх арганізацый могуць трапіць тыя калектывы, якія на працягу як мінімум 6 месяцаў выконваюць наступныя тры ўмовы. Першая — не павінны займацца камерцыйнай дзейнасцю. Другая — 80 працэнтаў паступіўшых сродкаў аддаваць на дабрачыннасць. Трэцяя — праграмы павінны быць зарыентаваны на сацыяльную падтрымку дзяцей, інвалідаў, хворых, старых. А ў канцы арганізацыйнага перыяду даюць поўную справаздачу аб сваёй дзейнасці за тыя паўгода. І ў выніку атрымліваюць статус дабрачынных. Але толькі на год. Пасля — зноў справаздача.

**— Здаецца, падобны закон толькі зараз і разглядаецца ў камісіях Вярхоўнага Савета?**

— Вы памыляецеся. Разглядаецца закон ці праект закона аб гуманітарнай дапамозе, прытым арыентаванага выключна на замежную гуманітарную дапамогу.

**— Атрымліваецца, што дзяржаве патрэбен кантроль?..**

— Выходзіць, што так. Закон дасць дзяржаве права размяркоўваць гуманітарную дапамогу. Сёння 80 працэнтаў яе паступае па лініі грамадскіх арганізацый. Лік ідзе на сотні мільёнаў долараў.

Адабраць дзяржава не можа. Ёсць Закон аб грамадскіх арганізацыях. Напрыклад, бальніца ведае, што мы з'яўляемся важным элементам падтрымкі сістэмы аховы здароўя. І раптам дзяржава атрымлівае легальную форму ўмяшання. Спадар чыноўнік набывае неабмежаванае права размяркоўваць. Знаходзіць жа тую дапамогу, трымаць за яе справаздачу перад Захадам — такое права могуць пакінуць нам.

**— Як відаць, і іншае права застаецца за вамі — знаходзіцца пад агнём прыцэльнай крытыкі — і з боку дзяржавы, і з боку людзей...**

— Але іначай у нашай краіне хіба бывае?..

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



**У доме немца Клеменса КОТТЭНА хлопчык Гена ГАЛАН адчувае сябе значна лепш, чым у сваім сіроцкім прытулку.**
**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

**P. S. Расказаўшы, скажам так, пра ідэалогію БДФ «Дзецям Чарнобыля», мы мала звярнулі ўвагі на канкрэтныя практычныя справы ў сферы аздараўлення дзяцей. Але газета «Звязда» абавязкова пракаменціруе кожны са зваротаў бацькоў па пытаннях аздараўлення, а галоўнае, паспрабуе дапамагчы. Тым болей, што здараюцца выпадкі, калі людзі званяць у рэдакцыю з перакананнем, што ніколі і ніхто ім не дапаможа. Мы просім вас: адкіньце ў бок бязвер'е.**
**Пішыце нам пра боль, хваробы вашых дзяцей.**
**Кожны з вашых лістоў — на кантролі ў рэдакцыі.**
**Калі ў вас ёсць падставы адправіць дзіця на аздараўленне — «Звязда» зробіць дзеля гэтага усё магчымае.**
**Кожны з лістоў, кожны са зваротаў, калі вашым сыну альбо дачцэ будзе адмоўлена ў адпраўцы за мяжу на аздараўленне, будзе па просьбе «Звязды» пракаменціраваны асабіста кіраўніком БДФ «Дзецям Чарнобыля» Генадзем Грушавым. Мы ўсё ж верым у дабрачыннасць!**
**Мы ўсё ж спадзяёмся, што дапаможам вам!**



# Разведка — тонкая рэч

*Перш за ўсё прашу чытачоў не верыць гэтым фотаздымкам, прынамсі той лёгкасці і рамантычнасці, якая лунае вакол ваенных разведчыкаў. За іх усмешкамі — салёны пот дзённых і начных заняткаў, за спрытнымі рухамі рукапашнага бою — бясконцыя трэніроўкі, якія здольны вытрымаць толькі сапраўдныя мужчыны. Што ўжо казаць пра тое, калі падрыхтаваныя тут байцы кароткім ударам кулака разбіваюць ушчэнт тоўстыя цагліны, спакойна кладуцца на бітае шкло, з найдакладнейшым разлікам кідаюцца паміж коламі едучага бронетранспарцёра, які імкліва рухаецца, і праз імгненне ўстаюць за ім, ускокваюць на браню, захопліваюць...*

*Адным словам — разведчыкі.*

*Спецыялісты вышэйшага гарту служаць у асобным разведбатальёне 120-й мотастралковай дывізіі. Гэта не толькі афіцэры і прапаршчыкі, для каго разведка стала прафесіяй, але і маладыя салдаты, падабраныя сюды па надзвычай строгіх патрабаваннях да іх фізічнага і псіхічнага стану.*

*Гэтыя здымкі зроблены ў час свята, якое нядаўна прайшло ў ваенным гарадку мотастралковай дывізіі. Свята было і для разведчыкаў — бо сярод зялёнага поля стадыёна яны разгарнулі свой баявы сцяг, каб байцы, якія звальняюцца ў запас, на развітанне схілілі перад сцягам калені, і для гледачоў — бо калі яшчэ ўбачыш тое найвышэйшае майстэрства, схаванае звычайна за заслонаю сакрэтнасці.*

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**
**(Фота аўтара.)**

***НА ЗДЫМКАХ:** атакуюць разведчыкі; праверым ваш брушны прэс!; старшы лейтэнант Глеб КІСЯЛЁЎ у маскіровачным убранні; над стадыёнам дэманструюць сваё майстэрства парашутысты.*





*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ...«ЗЛАВІЦЬ» СПАДАРОЖНУЮ МАШЫНУ

**Вясна, лета, восень — гарачая пара не толькі ў дачыненні да надвор'я, але і ў сэнсе дапамогі бацькам на агародзе ў вёсцы: пасадка, догляд, збор ураджаю і г. д.**

**Ды і, па праўдзе, у камандзіроўкі больш прыемна ездзіць не ў снежную завею і траскучыя маразы, а пад веснавым сонейкам.**

**Вось і напаўняюцца, нібы гумавы шарык паветрам, з надыходам цяпла міжгароднія і асабліва прыгарадныя аўтобусы, а на вакзалах, бывае, яблыку няма дзе ўпасці. У такой сітуацыі (няма білетаў, сумка рукі адцягвае да зямлі, тэрміны «падціскаюць») хочаш не хочаш, але даводзіцца ісці на шашу «галасаваць». Не адзін дзесятак разоў праехаўшы такім чынам у розных напрамках, рызыкую прапанаваць чытачам уласныя (як кажуць, са свайго вопыту) назіранні з гэтай нагоды.**

***Транспарт**. На ўзнятую ўверх руку спыняецца практычна ўсё, што мае рухавік і перасоўваецца па зямной паверхні на чатырох колах, за выключэннем, бадай што, «Запарожцаў». У гэтым выпадку «камлексуюць» і вадзіцелі, бачачы, як пры іх набліжэнні хуценька апускаюцца рукі «галасуючых», і патэнцыяльныя пасажыры, якіх не задавальняе ні скорасць, ні камфорт гэтай машыны. Часцей за ўсё спыняюцца «Жыгулі» або «Масквіч», а таксама мікрааўтобусы «РАФ» і мяккія «Ікарусы». Пад'ехаць на грузавіку, асабліва на вялізнай фуры, можна хіба толькі недзе ў глыбінцы. Шыкоўныя іншамаркі, што імчаць па шашы нібы вецер, спыняюцца далёка не перад кожнай узнятай рукой (па словах аднаго з вадзіцеляў, «правільней было б сказаць — не перад кожнымі жаночымі нагамі»).

***Вадзіцелі**. Сцвярджаюць, што рэдкі чалавек за рулём любіць ездзіць моўчкі, і гэта меркаванне мае пад сабой падставы: у дарозе трэба калі не пагаманіць, дык хаця б паслухаць радыё ці магнітафон. Як падаецца, многія бяруць спадарожнікаў не толькі з мэтай крыху падзарабіць, але і адначасова каб было весялей ехаць. Калі спадабаешся вадзіцелю, можа і пад самую хату падвезці, і цыгарэтай пачаставаць, і нават (быў выпадак з армейскім падпалкоўнікам) прапанаваць глынуць спірту з «ваенных запасаў»!

Бяруць спадарожнікаў звычайна вадзіцелі-мужчыны сярэдніх гадоў. Ніводнага разу не бачыў, каб «галасуючых» падбірала жанчына. Даволі рэдка спыняюцца і састарэлыя (адзін або пара). Неахвотна бяруць пасажыраў з надыходам цемры і ў глухіх месцах.

***Пасажыры**. Бясспрэчна, часцей і больш ахвотна спадарожныя машыны спыняюцца каля «галасуючай» маладой пары, асабліва калі яна з малым дзіцем і вялікімі сумкамі. Маладых хлопцаў, асабліва калі іх некалькі, вадзіцелі старанна абмінаюць. Безумоўна, на рашэнне — спыніцца ці не — уплывае знешні выгляд «галасуючых». Як падалося, касцюм з гальштукам унушае вадзіцелям большы давер, чым спартыўны касцюм і скураная куртка.

Больш ахвотна бяруць тых, каму ехаць за 100—200 кіламетраў у вялікі горад. Праўда, бываюць выпадкі, калі машыну спыняюць размаляваныя дзяўчаты, якім трэба пад'ехаць... на суседнюю вуліцу за пачкам цыгарэт.

***Такса**. Кажуць, раней дастаткова было толькі ўзняць уверх руку, каб спынілася ледзь не першая машына і бясплатна падкінула цябе ў спадарожным напрамку. Зараз жа гэтая паслуга каштуе грошай. Я ўмоўна падзяліў бы ўсіх вадзіцеляў на дзве катэгорыі: тых, хто, карыстаючыся выпадкам, хоча апраўдаць сваю вандроўку і бярэ з пасажыраў прыкладна ці крыху больш за кошт білета на аўтобус у тым жа напрамку, і тых, каго грошы «на бензін» не цікавяць. Апошнія патрабуюць плату ў два-тры разы большую. Калі просяць даражэй — гэта ўжо, прабачце, таксі, а не спадарожная машына. Шчаслівай дарогі!

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ПЕРАЛІК

**рэлігійных арганізацый, веравучэнні, культ і дзейнасць якіх носяць дэструктыўны характар і супярэчаць заканадаўству Рэспублікі Беларусь**

1. Вялікае белае брацтва (ЮСМАЛОС)
2. Багародзічны цэнтр (Марыянскі рух царквы Белай святой Русі)
3. Царква вучняў Ісуса Хрыста
4. Сям'я (Дзеці Бога)
5. Царква аб'яднання (царква Муна)
6. Царква Апошняга запавета (Вісарыёна)
7. Аум Сінрыкё
8. Ахмадыйцы
9. Сатаністы
10. Ліга духоўнага адраджэння Санатана Дхарма.

## ПЕРАЛІК

**рэлігійных і грамадскіх арганізацый, дзейнасць якіх падлягае рэлігіязнаўчай экспертызе**

1. Саенталагічная царква (Дыянетыка)
2. Шры Чынмой
3. Беларуская народная царква
4. Праваслаўна-каталіцкая царква
5. Менаніты
6. Таварыства духоўных культур «Адраджэнне»
7. Унітарыянска-універсалісцкая царква
8. Брахма-Кумарыс
9. Сат'я Саі
10. Дзэн-буддызм
11. Тэасофія
12. Ашо
13. Аўтарытэт мінтала
14. Язычнікі
15. Таварыства Бруна Грэмінга
16. Вучэнне жывой этыкі (Агні-ёга)

**Інфармацыя атрымана з Савета па справах рэлігій пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

*КРЫК ДУШЫ*

# ЗЖЫЛІ СЫНА СА СВЕТУ. У АРМІІ...

**Пайшоў ўжо пяты месяц, як не стала нашага любімага сына Косці, а бацькоўскае і мацярынскае сэрцы баляць, абліваюцца крывёю: за што зжылі яго са свету, чаму зараз імкнуцца прадставіць справы так, быццам ён не загінуў у вайсковай часці, дзе служыў у арміі, а памёр за яе межамі, у Брэсце. Але аб усім па парадку.**

Тры месяцы Косця вучыўся ў вучэбным цэнтры ў Мінску, пасля чаго быў накіраваны ў вайсковую часць № 22210 пад Брэстам, дзе адслужыў усяго шэсць сутак. 7 студзеня, карыстаючыся тым, што на ракетнай установцы (справа была ноччу) не было не толькі дзяжурнага афіцэра, але і нават сяржанта, «дзяды» арганізавалі выпіўку з салдатамі-навабранцамі, сярод якіх быў і сын. Калі навічкі леглі спаць, «дзяды» дабавілі яшчэ ў свае жываты літровую бутэльку так званай авіяцыйнай «шпагі», і адзін з іх, нехта А. Мікаў, які характарызуецца крайне адмоўна, вырашыў «праверыць» нервы «салаг» і паказаць ім свой «аўтарытэт».

А першай гадзіне ночы з 7-га на 8 студзеня ўдарам бота ён разбудзіў Косцю і яшчэ аднаго навічка і загадаў ім памыць падлогу памяшкання пад пагрозай таго, што зробіць з іх горкі яблык, калі тыя не паслухаюцца яго. Адзін навічок уяўся за «работу», а Косця адмовіўся, спасылаючыся на тое, што ён захварэў. Тады на яго пасыпаліся ўдары «дзеда», на якія ён адказаў ударамі таксама (Косця быў нядрэнным спартсменам). Не чакаў гэтага «дзед» ад «салагі» і, ухапіўшы схаваны раней нож, рэзка ўдарыў ім Косцю ў жывот, пацягнуўшы яго ўгару.

Здарылася гэта ў 0.30, «хуткая дапамога» прыехала толькі праз адну гадзіну дзесяць хвілін, а да гэтага кваліфікаваную дапамогу Косцю аказаць ніхто не змог. Аперацыя ў шпіталі ў Брэсце жыццё сыну не выратавала.

Можаце ўявіць сабе, паважаныя чытачы, што мы перажылі, калі даведаліся аб смерці Косці. Таму з нецярпеннем і болем чакалі, калі яго цела даставяць у Гомель. Толькі дарэмна: гэта ў вайсковай часці адкладвалі. Мы званілі туды кожны дзень па некалькі разоў, і дзяжурны гаварыў, што ўсё гатова да выезду — чакайце. Чакаем, але ўсё дарэмна. Звонім зноў і чуем: няма бензіну, машына сапсавалася. І гэтак працягвалася да 13 студзеня, калі мы звярнуліся са скаргай да ваеннага каменданта нашага горада і той сам пачаў званіць у вайсковую часць, пасля чаго цела Косці было адпраўлена на радзіму. Па дарозе недалёка ад Калінкавіч аўтамабіль выйшаў са строю, і ваенны камендант Гомеля паклапаціўся, каб мясцовыя органы пасадзейнічалі ў тым, каб дацягнуць яго другім аўтамабілем да Гомеля.

А. Мікаў тым часам прыхапіў тры сумкі радавых салдат і знік з часці, ды толькі яго знайшлі і вярнулі назад. А мяне, бацьку Косці, запрасілі 20 сакавіка да дзесяці гадзін раніцы з'явіцца ў ваенную пракуратуру ў Мінск да старшага лейтэнанта юстыцыі В. Тарасенкі. Я прыбыў туды своечасова, і мне сказалі, што трэба пачакаць чатыры гадзіны, пасля чаго прапанавалі «памірыцца» з маці забойцы сына, якую, аказваецца, сюды таксама выклікалі. На гэту здзелку я не згадзіўся.

У другі раз мяне запрасілі ў тую ж пракуратуру ў першай палове мая і паведамілі, што Мікаву «свеціць» за забойства да аднаго года турэмнага зняволення, на што я адказаў, што гэтага так не пакіну і буду скардзіцца. Тады паабяцалі перагледзець артыкул абвінавачання забойцы.

Паўтараем: цяжка, вельмі цяжка ў нас на сэрцы зараз. Яшчэ і ад таго, як абышліся з намі, як пераконваюць у тым, што сын памёр у шпіталі, а не загінуў ад рукі забойцы. Загінуў на службе ў арміі, куды мы яго адправілі жывога ды здаровага. Вось чаму ў нас складваецца ўражанне, што «доблесная» ваенная пракуратура абараняе гонар мундзіра не менш чым «доблесная» вайсковая часць. Што ж, пачакаем ваеннага трыбунала...

**Сям'я ЯДЫКІНЫХ, гамяльчане.**

# БАРАНА ЯК СІМВАЛ САЦЫЯЛІЗАЦЫІ?

**Наша бедная сельская гаспадарка, па-мойму, сёння падобная на той воз, які, памятаеце, цягнулі лебедзь, рак і шчупак. І сапраўды, у калгасах і саўгасах адной вобласці, аднаго нават раёна назіраецца вялікая пярэстасць і нават процілегласць у падыходах да справы, да асновы сельскагаспадарчай вытворчасці. З аднаго боку, заахвочваецца і ўзносіцца на шчыт фермерства, дзе ва ўласнасці дзесяткі гектараў зямлі, селяніну дзяржаваю дадзена па законнаму цяпер гектару; з другога, у многіх яшчэ гаспадарках і гектара гэтага людзі дабіцца не могуць, узяты курс на поўнае захаванне ідэй калектывізацыі; з трэцяга, многія кіраўнікі за акцыяніраванне і іншыя мяккія шляхі знішчэння калгаснай сістэмы...**

Перад гэтай пасяўной у калгасе «Дружба», што на Пастаўшчыне, хадзіла па дварах вяскоўцаў камісія. І збірала яна... бароны. Так, бароны заводскай вытворчасці. І няважна было, што гаспадар бараны кляўся: прывезена аж з іншага раёна. Калі не было на барану заводскай вытворчасці адпаведных дакументаў, яна канфіскоўвалася. Пакідаліся, зразумела, самаробныя. Матывацыя, я думаю, адна — не хапае ў гаспадарцы для правядзення веснавых палявых работ менавіта гэтай прылады. А каштуе сёння баронка ога колькі! Тыя ж, што ў падвор'ях вяскоўцаў, з'явіліся там не з крамаў ды сельскагаспадарчых выставак — зразумела, як з'явіліся. Адным словам, спраўляе баль справядлівасць, калгас вяртае сабе раней страчанае. Але і ўласніку гектара без бараны цяжкавата.

Сяўба ў калгасе «Дружба» завершана. Увогуле гэта моцная гаспадарка, са сваім буйным свінакомплексам. Шмат клапоцяцца тут і пра людзей, дапамагаюць ім у правядзенні, напрыклад, работ на прыватных сотках. Але ў той жа час кватэры калгаснікаў, якія раней ацяпляліся ад цэнтральнай кацельні, сёння дымяць уласнымі печамі — кацельня адрэзана ад кватэр. А цяпер вось бароны...

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

# ЦВІЦЕ Ў БАНКАХ «ЛІПА»

**Кожнаму вядома, як няпроста атрымаць сёння крэдыты ў банках для тых ці іншых мэтаў. Праўда, гледзячы для каго прызначаны тыя крэдыты. Калі іх пажадае атрымаць, як кажуць, радавы смяротны, у банку знойдуць дзесятак прычын, каб паказаць яму ад варот паварот. А калі ён шматабяцальны бізнесмен, які на словах мае намер заваліць народ таварамі шырокага ўжытку і ўмела падыходзіць да кіраўнікоў банкаў, яму адкрыта шырокая дарога да тых крэдытаў.**

Так, напрыклад, было з дырэктарам Гомельскай фірмы адкрытага акцыянернага таварыства «Арм-СП» Гарыбянам. Задумаў Карэн уліць у вытворчасць сорак тысяч долараў і пашыбаваў у аддзяленне «Светач» Белбізнесбанка. Праблем там не было. Праз тры месяцы зноў туды завітаў — і атрымаў новы крэдыт у дзесяць тысяч долараў. Зноў без праблем. А потым, роўна праз месяц, накіраваўся ў абласное ўпраўленне «Прамбудбанка». І тут яму ўсміхнуўся крэдыт у 41.320 «зялёных» прадстаўленага туды несапраўднага залогу. Пасля гэтага спрытны прадпрымальнік узяў шапку ў ахапку і хуценька знік з Гомеля ў невядомым напрамку, дзякуючы ў думках даверлівым банкірам. Крымінальная справа, заведзеная на яго, так і застаецца без руху, бо слядоў яго нідзе не выяўлена.

А вось яшчэ прыклады таго, як асобныя прадпрымальнікі абдурваюць банкіраў, прадстаўляючы ім «ліпу» — падробленыя дакументы. Дырэктар вытворча-камерцыйнай фірмы «Влад» з Брэста Аляксандр Пяцура ў вышэйпамянёным аддзяленні «Светач» «Белбізнесбанка» атрымаў крэдыт у 300 мільёнаў рублёў і, не вярнуўшы іх, уцёк з-пад следства. А дырэктар кампаніі «Сфінкс Інтэрнэйшнл» Ігар Лапіцкі ў змове са сваімі намеснікамі Сяргеем Семаком і Уладзімірам Жабскім, прадставіўшы ў Гомельскі галаўны філіял «Профбанка» падробленыя дакументы, укралі 105 мільёнаў рублёў. Тут жа выманіў крэдыт у 175 мільёнаў рублёў і дырэктар вытворча-камерцыйнай фірмы «Крылы» Чумасаў, які асуджаны на год пазбаўлення волі. Нядаўна за такое ж выманьванне крэдыту ў «Знешэканомбанку», але ўжо ў памеры 48 тысяч «баксаў», арыштаваны дырэктар малога прадпрыемства «Фонд Рэтфілда» Ігар Краснапольскі.

Прыводзячы гэтыя і іншыя прыклады, начальнік аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Гомельскага аблвыканкома Мікалай Самарын назваў такія лічбы. У 1994 годзе ў банкаўска-крэдытнай сферы было выяўлена 30 злачынстваў, летась — 135, а ў першым квартале сёлета — 62. Рост відавочны, як відавочна і тое, якія вялікія страты прыносіць гэта дзяржаве — крадзяжы ў банках у асабліва буйных памерах, выманьванне і незаконнае атрыманне крэдытаў.

Цікава вось што. Вельмі цяжка міліцыі знайсці і прыцягнуць да адказнасці асоб, якія, атрымаўшы вялікія крэдыты ад банкаў, потым даюць драла і хаваюцца на шырокіх прасторах краін СНД. Таму яе работнікі правялі нараду з банкаўскімі работнікамі і дамовіліся з імі, каб да выдачы крэдытаў тыя прадстаўлялі ім інфармацыю аб пазыкаатрымальніках з мэтай праверкі іх асоб, і тыя даныя змяшчаць у камп'ютэр. Банкаўскія служачыя горача падтрымалі гэту ініцыятыву, пасля чаго далі міліцыі ўсяго дзве інфармацыі аб пазыкаатрымальніках. Бо кіраўнікі банкаў, аказваецца, не нясуць персанальнай адказнасці за выдачу крэдытаў і датацый і зацікаўлены ў тым, каб пазыкаатрымальнік вярнуў крэдыт з як мага большымі працэнтамі. А знікае ён — няхай шукае міліцыя. Грошы ж — не персанальна нейкага банкіра. А таму — такія вось падыходы. Скандал ды і толькі.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**



Стрыжка на лета.

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

# САМЫ ВЯЛІКІ ШАНЦ АТРЫМАЦЬ РАБОТУ — У МІНЧАН

**Тэндэнцыя не з прыемных: калі ў пачатку 1995 года на ўліку ў службе занятасці насельніцтва стаяла 101,2 тысячы чалавек, у пачатку 1996 г. — 131 тысяча, то, паводле прагнозу Міністэрства працы, у канцы бягучага года гэтая лічба перавысіць 185 тысяч. Такім чынам, мяркуемы рост толькі афіцыйна зарэгістраванага беспрацоўя складае сёлета больш за 40 працэнтаў.**

Дарэчы, сёння пры дапамозе службы занятасці насельніцтва спрабуюць адшукаць працу 172 тысячы нашых суайчыннікаў. Наколькі рэальна гэта зрабіць, мяркуйце самі: зараз у краіне на адно свабоднае працоўнае месца прыпадае 13 прэтэндэнтаў. У некаторых жа рэгіёнах Беларусі гэты паказчык яшчэ горшы. Напрыклад, у Гродзенскай вобласці на адну вакансію прыпадае 27 беспрацоўных, у Брэсцкай — 25, у Мінскай — 23, а ў Віцебскай — 15. Крыху «не дацягваюць» да сярэднерэспубліканскага ўзроўню Магілёўская (12,8 чалавека на адно працоўнае месца) і Гомельская (12,5 чалавека) вобласці.

Менш напружаная сітуацыя, як гэта ні дзіўна, у Мінску: на 17.098 беспрацоўных тут маецца 4060 вакансій. Няцяжка падлічыць, што ў сярэднім на адно вакантнае працоўнае месца ў сталіцы прыпадае крыху больш за 4 прэтэндэнты.

**Сяргей ГРЫБ.**

# ПАПРАШАЙКІ

**Хочаце анекдот?**

**Бяжыць хлопчык па вуліцы, размахвае газетамі і крычыць:**

**— Дзве ахвяры, дзве ахвяры...**

**Яго спыняе прахожы, купляе адну газету, а маленькі гандляр імчыць далей з крыкам:**

**— Тры ахвяры, тры ахвяры...**

Лаўлю часам сябе на адчуванні, быццам мяне толькі што абдурылі. У падземным пераходзе па вуліцы Першамайскай у Магілёве паклаў у шапку-вушанку, якую трымала кволенькае дзяўчо, пяць тысяч рублёў. Адышоў убок і вырашыў паназіраць за жабрачкай. Ага, так і ёсць. Да «жабрачкі» неўзабаве наблізіўся прыстойна апрануты мужчына і выграб з шапкі здабычу. Затым нешта шапнуў дзяўчынцы на вуха, відаць, далейшыя інструкцыі, тая згодна кіўнула галоўкай і зноў працягвала сваю «работу».

На аўтавакзале «Усходні», што ў Мінску, дзеці дзейнічаюць больш нахабна.

— Дзядзь, дай грошай на хлеб, — пачуў я аднойчы танюсенькі галасок. — Нам з бабуляй няма чаго есці.

Я даў. Але і прасачыў за жэўжыкам. Ён выбег з будынка вакзала і накіраваўся да камерцыйнага кіёска, дзе купіў жвачку. Затым вярнуўся на «баявы» пост і пачаў выбіраць чарговую ахвяру.

Дарослыя — не дзеці і спекулююць на спагадлівасці грамадзян, можна сказаць, віртуозна. У электрапоездзе Асіповічы — Мінск абавязкова ўбачыце «інваліда з дзяцінства», які, страшэнна кульгаючы на абедзве нагі, з ненатуральна перакошаным тварам (менінгіт?) «працуе» ў вагонах, збіраючы з пасажыраў хто колькі дасць. У гэтага чалавека, напэўна, загінуў вялікі талент артыста, бо западозрыць, што ён усяго толькі ігрок, проста немагчыма. Толькі дзякуючы выпадковасці — дзверы ў тамбур крыху прыадчыніліся — я меў магчымасць убачыць праз адлюстраванне ў шкле, як гэты «інвалід» падлічваў выручку. Яго рухі былі спрытнымі і дакладнымі, твар зрабіўся асэнсаваным і вока не вылазіла з арбіты. Але вось грошы схаваны, і перад намі зноў калека, ад выгляду якога сціскаецца нават загартаванае сэрца.

Аднак лепш усё ж «цісну́ць слязу» з дапамогай дзетак. Так званыя бежанцы ўвасабляюць, бадай, самы прагрэсіўны від жабрацтва, які абавязкова ажыццяўляецца нібыта сем'ямі — мужам, жонкай і пажадана з грудным дзіцем. Вы такіх не сустракалі ў метро?

Вядома, ёсць бежанцы, ёсць людзі, якіх напаткала сапраўднае гора. Але каб столькіх...

У Беразіно, зноў жа на аўтавакзале, семкамі гандлюе саракагадовы мужчына. Да жабрацтва ён яшчэ не апусціўся, але, думаю, на падыходзе. Раніцай я бачыў яго цвярозым, а недзе пасля абеду ён ужо быў п'яны ў сцельку і выпрошваў у пасажыраў курыва. На бутэльку ж, мабыць, нагандляваў.

Яшчэ назіранне. Чаму няма «жабракоў» у сельскай мясцовасці? Ці не таму, што вёска па сваёй прыродзе кансерватыўная і там лічаць яшчэ ганебным прасіць міласціну, калі на месцы рукі і галава. Што датычыць сапраўдных бежанцаў, дык у Бялыніцкім раёне сям'я таджыкаў знайшла прытулак у калгасе, атрымала жыллё і работу. Якія праблемы?

Распаўсюджанню жабрацтва спрыяюць раўнадушныя адносіны да яго ўладных структур. Маўляў, народ збяднеў, няхай выжывае кожны як можа. Між тым, як даведаліся ўсюдыісныя магілёўскія журналісты, магістрат горада яшчэ ў 1621 годзе (!) прыняў рашэнне аб рэгістрацыі жабракоў і прызначэнні над імі старастаў. Працэс, скажам так, быў пад кантролем. А зараз даеш, магчыма, проста на пляшку.

Але страшна тое, што адкрыта эксплуатуюцца дзеці.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

## НЕКАТОРЫЯ ЦЭНЫ НА 1-2-ПАКАЁВЫЯ КВАТЭРЫ МІНСКА

**Заўвага: Указаны цэны прапановы**

| Вуліца | Раён ці мікраараён | Характарыстыка кватэры: колькасць ізаляваных пакояў; агульная жылая плошча; кухня; санвузел; матэрыял будоўлі; тэлефон; балкон ці лоджыя і год пабудовы | Цана, USD |
|---|---|---|---|
| **Аднапакаёвыя** | | | |
| Алтайская | Заводскі | 1; 36/17; 8, 7; А; Ц; -- ; Б, Л; 1986 | 12.000 |
| Асаналіева | Кастрычніцкі | 1; 33/17,4; 9; С; П; + ; Л; 1982 | 11.500 |
| Байкальская | Заводскі | 1; 30/11,4; 7; А; П; + ; - ; 1985 | 8.500 |
| Бялецкага | Маскоўскі | 1; 34/17; 7, 2, А; П; + ; Л; 1989 | 11.800 |
| Ванеева | Партызанскі | 1; 33/17; 6; С; П; + ; Б; 1965 | 10.500 |
| Валгаградская | Першамайскі | 1; 35/17; 6; С; П; - ; Б; 1960 | 12.500 |
| Галадзеда | Заводскі | 1; 31/16,5; 7, 2; А; К; + ; Л; 1976 | 11.000 |
| Гарадзецкая | Першамайскі | 1; 34/17; 7, 2; А; П; - ; Л; 1991 | 13.000 |
| Дуніна-Марцінкевіча | Фрунзенскі | 1; 37,6/17,7; 8,5; А; П; - ; Л; 1977 | 12.500 |
| Ясеніна | Маскоўскі | 1; 33/17; 7,1; А; П; - ; Л; 1991 | 11.500 |
| Жудро | Фрунзенскі | 1; 34,3; 17,9; 7,5; А; П; + ; Б; 1975 | 11.700 |
| Заслаўская | Фрунзенскі | 1; 33/17; 7; А; П; + ; Л; 1986 | 15.000 |
| Пр-т газеты «Известия» | Маскоўскі | 1; 33/17; 7,1; А; П; - ; Л; 1991 | 11.500 |
| Казінца | Кастрычніцкі | 1; 30/16; 7; А; П; - ; Б; 1981 | 10.500 |
| Каліноўскага | Першамайскі | 1; 30,7/19; 5,8; С; П; + ; Б; 1963 | 10.500 |
| Лібкнехта | Фрунзенскі | 1; 30/20; 6; С; П; + ; Б; 1966 | 12.000 |
| Лынькова | Фрунзенскі | 1; 32/14,5; 7; А; П; + ; Б; 1983 | 10.500 |
| Малініна | Ленінскі | 1; 33/17,2; 7,2 А; П; - ; Л; 1988 | 11.000 |
| Пр-т Машэрава | | 1; 38/18; 7,5; А; П; + ; Л; 1990 | 15.000 |
| Наўгародская | Савецкі | 1; 36,7/17; 7,5; С; Ц; + ; Л; 1988 | 16.000 |
| Адоеўскага | Фрунзенскі | 1; 32/17,2; 6; А; П; + ; - ; 1967 | 12.000 |
| Пр-т Пушкіна | Фрунзенскі | 1; 30/16;6; С; П; + ; - ; 1967 | 12.000 |
| Пр-т Ракасоўскага | Ленінскі | 1;32,7/17; 7,1 А; П; - ; Б; 1974 | 11.000 |
| Слабадская | Маскоўскі | 1; 34/17,3; 7,8; А; П; - ; Л; 1992 | 12.000 |
| Серафімовіча | Партызанскі | 1; 35,7/20,8; 7,5; С; Ц; - ; - ; 1954 | 14.000 |
| Цікоцкага | Першамайскі | 1; 37/17; 7,1; А; П; + ; Л; 1977 | 14.000 |
| Убарэвіча | Заводскі | 1; 32/18; 6,2; А; П; - ; Б; 1964 | 10.000 |
| Філімонава | Першамайскі | 1; 33,6/17; 7; А; П; + ; Б; 1991 | 11.000 |
| Цнянская | Савецкі | 1; 32/17,4; 6,7; А; Ц; + ; Л; 1972 | 15.500 |
| Чкалава | Кастрычніцкі | 1; 33/12; 7,4; А; П; + ; - ; 1986 | 11.000 |
| **Двухпакаёвыя** | | | |
| Антонаўская | Партызанскі | 0; 43,3/28.1; 6,2; С; П; + ; Б; 1968 | 19.000 |
| Асаналіева | Кастрычніцкі | 2; 54/29,5; 9; А; П; + ; Б; 1983 | 18.000 |
| Бельскага | Фрунзенскі | 2; 50/28; 11,5; А; П; + ; 3Л; 1975 | 18.000 |
| Б. Хмяльніцкага | Савецкі | 0; 44,5/31; 5,5; С; Ц; + ; Б; 1963 | 18.000 |
| Валадарскага | Цэнтральны | 2; 80/44; 14; А; Ц; - ; - ; 1950 | 42.000 |
| Гікалы | Савецкі | 2; 42,9/27,9; 58; С; П; + ; Б; 1965 | 20.000 |
| Грыцаўца | Партызанскі | 2; 49/28,9; 6,3; А; Ц; + ; Б; 1954 | 18.000 |
| Д. Сердзіча | Фрунзенскі | 2; 50/43,4; 6,7; А; П; + ; Б; 1969 | 18.500 |
| Заслаўская | Фрунзенскі | 2; 50/29; 8,7; А; П; + ; Л; 1988 | 27.000 |
| Кальварыйская | Фрунзенскі | 0; 54,7/32,5; 7,5; А; Ц; + ; - ; 1961 | 22.000 |
| Кісялёва | Цэнтральны | 2; 56/37; 7; А; Ц; - ; - ; 1950 | 30.000 |
| Л. Украінкі | Фрунзенскі | 2; 46,9/28,5; 7,2; А; П; + ; Л; 1989 | 21.000 |
| Ляшчынскага | Фрунзенскі | 2; 52/29; 8; А; П; - ; Л; 1991 | 20.000 |
| Мірашнічэнкі | Савецкі | 2; 50,7/30,8; 7,2; А; П; + ; 2 Л; 1978 | 19.500 |
| Магілёўская | Кастрычніцкі | 2; 50/29,5; 8,8; А; П; + ; Л; 1989 | 22.000 |
| Няміга | Цэнтральны | 2; 50/29; 9,5; А; Ц; + ; Л; 1980 | 30.000 |
| Партызанскі пр-т | Партызанскі | 2; 60/35; 9; А; Ц; + ; Б; 1956 | 18.000 |
| Пр-т газеты «Правда» | Маскоўскі | 2; 50/30; 9; А; П; + ; Л; 1982 | 18.000 |
| Раманаўская слабада | Цэнтральны | 2; 43/27,5; 7,7; С; Ц; + ; Л; 1965 | 19.500 |
| Русіянава | Першамайскі | 2; 51,2/31,3; 7,2; А; П; + ; 2 Л; 1987 | 21.000 |
| Свярдлова | Ленінскі | 2; 56/32; 7,5; А; Ц; + ; Б; 1958 | 25.000 |
| Слабадская | Маскоўскі | 2; 54/30,4; 9,3; А; П; - ; Л; 1991 | 18.000 |
| Ульянаўская | Ленінскі | 2; 63,3/34; 7,5; А; Ц; + ; - ; 1953 | 28.000 |
| Усходняя | Савецкі | 2; 51/29,5; 7,5; А; П; - ; Л; 1977 | 24.000 |
| Філімонава | Першамайскі | 2; 51/29; 7,2; А; П; - ; Л; 1991 | 20.500 |
| Цімашэнкі | Фрунзенскі | 2; 50/29; 7,1; А; П; + ; Л; 1987 | 19.000 |
| Шырокая | Савецкі | 2; 52/31,5; 9,6 А; П; + ; Б; 1985 | 23.000 |
| Якубава | Ленінскі | 2; 50,5/30; 8,9; А; П; + ; Л; 1989 | 19.500 |
| Я. Купалы | Цэнтральны | 2; 78/36; 8,5; А; Ц; + ; - ; 1956 | 45.000 |
| Ясеніна | Маскоўскі | 0; 48,5/28,5; 7,1; А; П; + ; Б; 1989 | 18.000 |

**Умоўныя абазначэнні: А, С** — асобны/сумешчаны санвузел; **П, Ц** — панель/цэгла (матэрыял будоўлі); **Б, Л** — балкон, лоджыя.

# МІНСКАЕ ЖЫЛЛЁ: магчымасці пакупнікоў усё больш адстаюць ад цэн

Яшчэ два гады назад патэнцыяльныя пакупнікі мінскіх кватэр чакалі наступлення летніх месяцаў, калі жыллё даволі значна таннела. Паказчык сезонных скідак з рэальнага кошту кватэры на рынку дасягаў тады 10—20 працэнтаў. Самыя значныя скідкі прыпадалі на першую палову жніўня, а пасля цэны зноў пачыналі расці.

Першае выключэнне з гэтага правіла назіралася ў мінулым годзе. Сезонныя скідкі летась не перавышалі 5 працэнтаў, а ў жніўні, насуперак логіцы папярэдніх гадоў, кватэры Мінска падскочылі ў цане.

Чаго чакаць у бліжэйшыя месяцы гэтага года? Многія спецыялісты прадказваюць поўны «штыль» на рынку: ні даражэй, ні танней. Нязначна могуць патаннець, бадай, толькі «хрушчоўкі», а якаснае жыллё, хутчэй за ўсё, летам стане нават трохі даражэйшым. У табліцы цэн у асноўным прыведзены даныя па 1- і 2-пакаёвых кватэрах раёнаў Мінска, акрамя цэнтральнай яго часткі. Справа не толькі ў тым, што асноўная частка насельніцтва сталіцы пражывае не на праспекце Скарыны. Жыллё цэнтра горада заўсёды знаходзіцца пад уплывам цэнаўтваральнага фактара, які цяжка ўлічыць у агульнай масе — фактара прэстыжнасці.

Такім чынам, у якіх раёнах Мінска найбольш верагодны далейшы рост цэн на жыллё? Дзе, наадварот, кватэры даражэюць не вельмі хутка? Спадзяёмся, табліца цэн, падрыхтаваная па інфармацыі Беларускага цэнтра гандлю нерухомасцю (БелЦГН), дапаможа вам атрымаць хаця б прыблізнае ўражанне аб тым, чаго вартыя вашы ўласныя «апартаменты».

### ВЯСНЯНКА

Разам з Усходам і Зялёным Лугам — адзін з найдаражэйшых мікрараёнаў. Прапанаванне на продаж дасягае для аднапакаёвых — $ 15.000, для двухпакаёвых кватэр — $ 21.000. У Вяснянцы даволі высокая мінімальная цана жылля, што тлумачыцца вялікай доляй новага жыллёвага фонду ў мікрараёне.

### УСХОД, ЗЯЛЁНЫ ЛУГ

Стабільны рост цэн, аднак ужо не такі хуткі, як на захадзе сталіцы. Несумненныя «плюсы» раёна — добрая транспартная і бытавая інфраструктура і адносна спрыяльная экалогія (наколькі толькі можа быць яна спрыяльнай у горадзе з амаль двухмільённым насельніцтвам).

### ЗАХАД, КУНЦАЎШЧЫНА

Для раёнаў характэрны найбольш прыметны рост цэн на жыллё. З пачатку года заходнія раёны горада стабільна ўздымаюць агульную цэнавую планку мінскіх кватэр. З адкрыццём станцый метро «Маладзёжная» і «Пушкінская» прыцягальнасць заходняга накірунку стала яшчэ больш відавочная. Новы вітом цэн там непазбежны ў сувязі з тым, што другая лінія падземкі пойдзе далей у Кунцаўшчыну.

### СУХАРАВА, МАЛІНАЎКА

Не самыя дрэнныя раёны для тых, хто забяспечаны асабістым транспартам. Стабільны рост цэн, але не такі значны, як, напрыклад, на «Захадзе»: яго стрымліваюць даволі дрэнная бытавая і транспартная інфраструктура, а таксама непажаданае суседства ЦЭЦ. Аднак той факт, што ў памянёных раёнах за другую палову 1995-га — першую палову 1996 года значна вырас кошт будаўніцтва, гаворыць аб тым, што рэзервы росту цэн тут ёсць.

### УРУЧЧА

Цяжка стварыць дакладную карціну цэнавага «калідора». З аднаго боку, ёсць якаснае жыллё, за якое прадаўцы просяць столькі ж, як на суседнім «Усходзе». З другога — жыллё ваеннага гарадка аб'ектыўна таннейшае.

### КУРАСОЎШЧЫНА, ПАЎДНЁВЫ ЗАХАД

Адносна танныя кватэры. У раёнах шмат дамоў, да якіх найлепей падыходзіць стандартная фармулёўка: «жыллё тыповых спажывецкіх якасцей». Курасоўшчына ў параўнанні з Паўднёвым Захадам мае ніжэйшую мінімальную планку цэн. Наадварот, якаснае жыллё Паўднёвага Захаду з пачатку года даражэла прыкладна такімі ж тэмпамі, як і ў мікрараёнах Вяснянка, Захад.

### МАСЮКОЎШЧЫНА, СЕРАБРАНКА

Аднапакаёвыя кватэры можна набыць ад $ 10.000 і вышэй. Але няма правілаў без выключэнняў: гаворка ідзе пра сярэднія цэны прапанавання, а не продажу. Абодва раёны ўвогуле могуць называцца «спальнымі», хаця Серабранка забудоўвалася пераважна ў 70—80-я гады, а Масюкоўшчына — раней. Серабранскія кватэры, нягледзячы на адносна прыстойную транспартную інфраструктуру раёна, недарагія з-за аддаленасці ад цэнтра і з-за суседства «бронхаў» горада — гігантаў Заводскага раёна.

Хаця апошнім часам стан экалогіі паблізу МАЗа і МТЗ значна палепшыўся — самі ведаеце чаму...

### ДРАЖНЯ, СЦЯПЯНКА, ЧЫЖОЎКА

Раёны паўднёва-ўсходняй часткі Мінска ўвогуле самыя танныя ў горадзе, што яшчэ раз дазваляе сказаць: Мінск развіваецца ў асноўным на захад.

Стабільна невысокія цэны пры мінімальным попыце пакупнікоў. Можа, нешта зменіцца з пускам метро да «Аўтазаводскай»?

### ШАБАНЫ

Тыповы «аўтсайдэр» у гонцы цэн. «Прамзона Шабаны» — гэтым усё сказана. Не ведаю, чым можа вабіць навасёлаў гэты «апендыкс». Грошы, за якія можна рэальна купіць тут кватэру (хаця танней не бывае), можна ўкласці ў будаўніцтва сціплай дачы дзе-небудзь у паўночна-заходнім накірунку ад сталіцы. Але і ў Шабанах людзі жывуць, што падмацоўвае ісціну — да ўсяго чалавек прывыкае.

**Падрыхтаваў Уладзіслаў МАКСІМАЎ.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ПАБУДАВАЦЬ ДОМ І АДРАМАНТАВАЦЬ КВАТЭРУ

**Сапраўдны мужчына ў сваім жыцці павінен зрабіць тры рэчы: пабудаваць дом, пасадзіць дрэва і выхаваць сына. Цяжка ўзвесці асобны дом у шматмільённым горадзе. Але вось пабудаваць летні дом у вёсцы, дачу ў прыгарадзе, можа, нават і загарадны катэдж — гэта, бадай, магчыма.**

Для таго, каб штосьці пабудаваць, патрэбны ў першую чаргу будматэрыялы. Варта адзначыць, што ўсе яны за апошні месяц практычна не ўзраслі ў цане. На 18 працэнтаў узнялася ў цане пліта ДСП і каштуе ад 30 да 46 тыс. руб. за кв. м. Пліта ДВП узняла свой кошт за чатыры з паловай месяцы на 100 працэнтаў і дасягнула 16 тыс. руб. за кв. м. Значна падскочыла ў цане цэгла сілікатная. Цяпер яна ў залежнасці ад мадыфікацыі каштуе ад 800 да 1300 тыс. руб. за тыс. штук. Не зрушылася з мяжы ў 1 млн. 50 тыс. руб. тона портландцэменту М400. Блокі аконныя будуць каштаваць ад 400 тыс. руб. да 1,5 млн. Тут жа трэба заўважыць, што такая разбежка ў цане залежыць не толькі ад тыпу акна, але і ад завода-вытворцы і магазіна, які яго рэалізуе. Магазіны падзяляюцца, як правіла, на тры групы. Папершае, гэта тыя, якія працуюць з буйным оптам — тут цэны практычна не адрозніваюцца ад цэн завода-вытворцы. Далей ідуць драбнейшыя аптавікі, разлічаныя на сярэдняга пакупніка. Простым смяротным дастаюцца магазіны, у якіх цэны вышэй за намінальныя на 30 і больш працэнтаў.

Адрозніваюцца па цане і заводы-вытворцы. Метр кв. акна асобнай канструкцыі «Баранавічыдрэў» каштуе 345 тыс. руб., а блокі аконныя завода будматэрыялаў г. Гомеля мадыфікацыі О2Р 12—12 — не больш як 250 тыс. руб. Вялікай разнастайнасцю адрозніваюцца прапаноўваемыя дзверы. Тут табе і дзверы вонкавыя за 205 тыс. руб.за кв. м і філянговыя з масіву сасны за 613 тыс. кв. м вытворчасці Баранавіч. А можна набыць двупольныя ці аднапольныя дзверы за 225 тыс. і 216 тыс. руб. за кв. м адпаведна.

Значна адрозніваюцца ў цане практычна ўсе маркі бетону заводаў жалезабетонных вырабаў Оршы і Лепеля. Бетон М100, куб. м у Оршы каштуе 372 тыс. рублёў, а ў Лепелі — 330. М200 (куб. м) — адпаведна 423 тыс. руб. і 383 тыс. руб.; М300 — 492 тыс. руб. і 420 тыс. руб.

На цагельным заводзе ў Брэсце можна набыць тыс. шт. цэглы для кладкі дымавых труб за 1256 тыс. руб. У Мінску ў магазіне тысяча «дымавушак» абыдзецца ў 2 млн. руб., а праз газету «З першых рук» — у 1,5 млн. руб. У Брэсце можна набыць цэглу керамічную вонкавую за 1 млн. 300 тыс. руб. і керамічную паўнацелую — за 1 млн. 510 тыс. руб. за тыс. шт. Упалі ў цане ў параўнанні з красавіком блокі сілікатныя. Цяпер яны каштуюць 540 тыс. руб. за куб. м. Падобна, што не ў цане цяпер і лес круглы: яго кошт зменшыўся з 360 тыс. руб. да 228 тыс. руб. за куб. метр. Амаль не адбілася вясна на цане піламатэрыялаў. Дошка неабразная 25—40 мм — у межах 870 да аднаго млн. руб. Абразная тых жа параметраў дацягвае да паўтара мільёна. Вельмі моцна вырасла ў цане (амаль на 500 працэнтаў) з пачатку года фанера. Цяпер яе ліст 1,5х1,5 м каштуе ў межах 160 тыс. руб. Разнастайныя віды фанеры можна набыць па цане завода-вытворцы ў Барысаве. Брус розных памераў за 1200 тыс. руб. шт. прапануе будтрэст г. Кобрына. Кубічны метр вагонкі можна набыць у Гомелі, Баранавічах і Кобрыне за суму ад двух да трох з паловай мільёнаў.

Трохміліметровае аконнае шкло каштуе ў Мінску 40 тыс. руб. за кв. м, а шкло ў 4 мм. — на 5 тысяч даражэй. Квадрат узорыстага шкла — 65 тыс. руб. Хадавыя цвікі 40х100 мм, як правіла, каштуюць не менш як 17—20 тыс. руб. за кг. Шыферныя цвікі заўсёды каштавалі на 2-3 тысячы даражэй. Шклаблок можна набыць за 10 тыс. руб., а кубічны метр шклаваты — за 490 тыс. руб.

Цяжка ўявіць сабе дом без замка. Уразныя замкі з кнопкамі каштуюць больш за 100 тыс. руб.

У сучаснай кватэры падлога часцей за ўсё бывае паркетная, з дошак або брусчаткі, пакрытая лінолеумам або сінтэтычным ворсавым матэрыялам. У фірме «Баранавічыдрэў» можна набыць штахет дашчаты па цане 545 тыс. руб. за куб. метр. У ванным пакоі і туалеце падлогу і сцены ў асноўным абліцоўваюць керамічнай пліткай. Калі ёсць магчымасць, для падлогі лепш выкарыстаць рыфлёную плітку таго ж колеру, што і плітка на сценах. Такая падлога будзе не вельмі слізкая. Аднак можа вы захочаце пакласці італьянскую абліцовачную плітку, якая каштуе каля 10 долараў за кв. метр. Праўда, кажуць, яна мала чым адрозніваецца ад пліткі, выробленай у нас па італьянскай тэхналогіі, якая каштуе ўсяго 8,5 долара за кв. м. Як правіла, нашы людзі карыстаюцца брэсцкай керамічнай пліткай, якую купляюць па 50 тыс. руб. за кв. м. Ствараюць утульнасць і жалюзі, якія каштуюць 15—22 долары ЗША.

Драўляную падлогу ў памяшканні можна пафарбаваць клеявымі фарбамі, пакрываючы іх затым, каб засцерагчы лакафарбавую плёнку і надаць бляск, лакам. Розныя віды фарбаў можна набыць у гандлёвым доме «На Нямізе». Кошт бляшанкі аб'ёмам 2, 4 л — 130 тыс. руб. Кілаграм такой фарбы ў вытворцаў каштуе не больш за 30 тыс. руб. Магазін «Гаспадарчая лаўка» прапануе лінолеум шырынёй 2 метры. Цана аднаго пагоннага метра — ад 130 да 150 тыс. руб. У гандлёвым доме «Славія» можна набыць для сцен шпалеры, якія можна мыць, па цане ад 4 да 14 долараў за трубку. Прафесіянальныя шпалеры за пагонны метр яшчэ на два з паловай долары аблегчаць вашу кішэню. Сюды можна дадаць некалькі кілаграмаў клею па 30 тыс. за кг і лак для мэблі і паркету па цане 42 тыс. руб. за кілаграм. Спатрэбіцца вам і некалькі кілаграмаў аліфы. Кілаграм аліфы «Аксоль» каштуе 12 тыс. руб.

Як бачыце, пабудаваць дом — не так ўжо і проста. Верагодна, што вашых фінансаў можа і не хапіць. Так што мая вам парада: перад тым, як пачаць будаўніцтва, садзіцеся за калькулятар — складайце каштарыс свайго будучага жылля.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# КІРМАШ

**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 19 (38)**


## ГУМАНІТАРНА-ЭКАНАМІЧНЫ НЕДЗЯРЖАЎНЫ ІНСТЫТУТ

ГЭИ

Прыярытэтным напрамкам дзейнасці новай дзяржаўнай улады вызначана, што пабудова цывілізаванай дэмакратычнай беларускай дзяржавы магчыма толькі шляхам глыбокага рэфарміравання ўсіх сфер грамадскага жыцця. Важнейшай з ім, безумоўна, з'яўляецца народная адукацыя.

У мэтах практычнага вырашэння гэтай праблемы ў верасні 1994 года створаны Гуманітарна-эканамічны недзяржаўны інстытут. Базавай канцэптуальнай ідэяй новай вучэбнай структуры з'яўляецца глыбокае спалучэнне гуманітарнай адукацыі з высокай прафесіянальнай падрыхтоўкай спецыялістаў. Асноўным метадам навучання ўзяты індывідуальны падыход, які дасць магчымасць максімальна выявіць творчы патэнцыял кожнага студэнта. Мэта работы інстытута заключаецца ў падрыхтоўцы эканамістаў, бухгалтараў, юрыстаў, журналістаў, сацыёлагаў, псіхолагаў і іншых спецыялістаў як духоўна развітых асоб, выхаваных на прынцыпах патрыятызму і гуманізму. З іх асяроддзя будуць рыхтавацца сучасныя кадры для кіравання, здольныя ў адрозненне ад старога бюракратычнага апарату пазітыўна ўспрымаць і рэалізоўваць новую дзяржаўную палітыку. Прадугледжваецца, што на працягу двух гадоў студэнты будуць вывучаць дысцыпліны светапогляднага накірунку, а з 3-га курса пачнецца паглыбленая спецыялізаваная падрыхтоўка, у аснове якой ляжыць індывідуалізаваны падыход да навучання (5—7 чалавек у групе). Акрамя таго, студэнты дасканала павінны авалодаць адной ці дзвюма замежнымі мовамі. Практычна па ўсіх чытаемых курсах уводзіцца сістэма камп'ютэрных тэхналогій навучання. У працэсе вучобы прадугледжваецца правесці адбор найбольш здольных, таленавітых юнакоў і дзяўчат, якім будуць створаны ўсе ўмовы для рэалізацыі свайго патэнцыялу, якія сапраўды будуць з'яўляцца гонарам нашай нацыі. Асаблівая ўвага ў інстытуце звяртаецца на здольных дзяцей калгаснікаў і рабочых. Больш як 100 юнакоў і дзяўчат з вёсак вучацца бясплатна. Тым, хто будзе праяўляць стараннe і поспехі ў вучобе, будзе назначана стыпендыя. Студэнтам са слабай агульнаадукацыйнай падрыхтоўкай прадастаўляецца магчымасць бясплатна атрымліваць кансультацыі ў пазаўрочны час па ўсіх чытаемых дысцыплінах.

Цяпер у структуры інстытута налічваецца 6 факультэтаў: дзяржаўнага будаўніцтва і права, эканомікі і кіравання, міжнародных адносінаў і права (упершыню ў гісторыі адукацыі Беларусі), лінгвістычны, сацыяльна-палітычны і давузаўскай падрыхтоўкі. У інстытуце ёсць аналітычны цэнтр у складзе 4 аддзелаў: прававога, інфармацыйнага, эканамічнага і сацыялагічнага.

У шэрагу раёнаў рэспублікі створаны філіялы інстытута, тым самым пэўная частка моладзі будзе замацоўвацца на месцах, не мігрыруючы ў абласныя цэнтры і г. Мінск, не папаўняючы армію бамжоў, крымінальных элементаў і г. д.

На дзённай і завочнай формах навучання, а таксама на факультэце давузаўскай падрыхтоўкі кантынгент навучэнцаў складае 2 тысячы чалавек.

У інстытуце сфарміравана 9 кафедраў, якія вядуць вучэбна-выхаваўчую работу: гуманітарных навук, гісторыі сусветнай цывілізацыі, эканамічнай тэорыі і кіравання, юрыдычных дысцыплін, замежных моў, інфарматыкі і вышэйшай матэматыкі, псіхалогіі і педагогікі, экалогіі і рацыянальнага прыродакарыстання, а таксама фізкультуры і спорту.

У саставе кафедраў 25 дактароў навук і прафесараў, 150 кандыдатаў навук, дацэнтаў, 50 супрацоўнікаў без ступеняў і званняў. Прафесіянальны ўзровень выкладчыцкага саставу адзін з самых высокіх у рэспубліцы, што дае магчымасць на добрай якаснай базе весці навучальны працэс.

Кіраўніцтва ВНУ ўзяло курс на ўкараненне камп'ютэрных тэхналогій у навучальны працэс, таму што менавіта гэты напрамак з'яўляецца адным з кардынальных у працэсе рэфарміравання сістэмы адукацыі.

З 1995/96 навучальнага года набыты і функцыянуе камп'ютэрны клас. На камп'ютэрах працуюць студэнты ўсіх без выключэння факультэтаў.

З мэтай тэхнічнага аснашчэння для вывучэння замежных моў набыта 20 магнітафонаў. Паспяховая моўная падрыхтоўка ажыццяўляецца на факультэце міжнародных адносінаў і права — 12 гадзін у тыдзень, практычна — 2 дні ў тыдзень.

На высокім тэхнічным узроўні вядзецца падрыхтоўка псіхолагаў. Інстытут набыў сучаснае імпартнае абсталяванне, якое дасць магчымасць павысіць якасць выкладання.

Неабходна адзначыць, што ў інстытуце створана навукова-практычная псіхалагічная лабараторыя, аснашчаная сучаснай тэхнікай. Лабараторыя пачала шырокамаштабную работу па псіхалагічнаму тэсціраванню студэнтаў інстытута і школьнікаў г. Мінска.

У кастрычніку 1996 г. плануецца на базе ГЭНІ правесці міжнародную канферэнцыю псіхолагаў. Падрыхтоўчая работа пачалася.

У інстытуце падрыхтавана да выдання каля 15 вучэбных дапаможнікаў, якія выйдуць з друку ў 1995/96 годзе. У лістападзе 1995 г. выйшаў вучэбны дапаможнік па этыцы, які не мае аналагаў у СНД і атрымаў высокую ацэнку спецыялістаў. У снежні 1995 г. выдадзена інстытутам кніга доктара юрыдычных навук Г. А. Васілевіча «Парламент Рэспублікі Беларусь», выйшлі ў свет падручнікі для студэнтаў «З гісторыі палітычных партый», да выпуску рыхтуюцца падручнікі па культуралогіі, логіцы, этыцы, паліталогіі, гісторыі, рэлігіязнаўству і інш.

Адной з асноўных задач новай ВНУ з'яўляецца выхаванне патрыётаў Айчыны. З гэтай мэтай створаны студэнцкі і культурны цэнтры, якія каардынуюць усю выхаваўчую работу. У прыватнасці, да 50-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне была арганізавана і праведзена 1-я навукова-тэарэтычная канферэнцыя з запрашэннем 5 дзяржаўных ВНУ. У красавіку 1996 г. па ініцыятыве ГЭНІ ў г. Мінску працавала II Міжвузаўская студэнцкая канферэнцыя па гуманітарных навуках. 180 удзельнікаў прадставілі 9 ВНУ рэспублікі. Работа канферэнцый трансліравалася па Беларускім тэлебачанні.

Таксама была арганізавана экскурсія студэнтаў інстытута ў Хатынь. У 1995/96 навучальным годзе праведзены шэраг вечароў адпачынку студэнтаў, наведванне мастацкага музея і інш.

Цяпер працуем над планам стварэння кадэцкага корпуса з дзяцей-сірот. Цалкам зразумела, што рэальнае правядзенне ў жыццё гэтай ідэі без дапамогі дзяржавы (вучэбнымі плошчамі і інтэрнатам) пад сумненнем. Думаецца, што ўлада павінна быць зацікаўлена ў рэалізацыі гэтай прапановы.

Акрамя таго, у інстытуце арганізавана падрыхтоўка аўтааматараў па 3-месячнай праграме.

Гэта няпоўны пералік таго, чым жывуць прафесарска-выкладчыцкі састаў і студэнты гуманітарна-эканамічнага недзяржаўнага інстытута.

Неабходна ўказаць на той факт, што ўсе фінансавыя затраты, звязаныя з аплатай працы выкладчыкаў, арэнднай платай і аплатай за камунальныя паслугі, набыццём сучаснай тэхнікі для аснашчэння навучальнага працэсу, а таксама фінансаваннем выдання вучэбных дапаможнікаў і купляй аудыторнай мэблі, ажыццяўляюцца толькі за кошт інстытута.

Спонсараў інстытут не мае, датацый з боку дзяржавы не атрымлівае.

На жаль, вялікія падаткі (больш як 70 працэнтаў) а таксама высокая арэндная плата (8—10 долараў ЗША за 1 кв. м.) не садзейнічае нармальнаму развіццю ВНУ. А калі ўлічыць тую акалічнасць, што плата за навучанне самая нізкая ў Беларусі: завочная форма — 200—350 долараў ЗША, станцыянар 400—500 долараў ЗША, то можна ўявіць, у якіх умовах прыходзіцца працаваць калектыву.

Інстытут у лістападзе 1995 г. і ў красавіку 1996 г. правярала камісія Міністэрства адукацыі і навукі РБ. Заключэнне камісіі па арганізацыі навучальнага працэсу, вучэбна-метадычнай і навуковай работы ў інстытуце пазітыўнае. ВНУ ўжо на гэтым этапе займае адно з вядучых месцаў у сістэме адукацыі РБ. Стан фінансавай дзейнасці правяраўся падатковай інспекцыяй Фрунзенскага раёна ў лістападзе 1995 г. Парушэнняў фінансавай дысцыпліны інспекцыяй не было адзначана.

***По ўсіх пытаннях, звязаных з паступленнем і навучаннем у інстытуце, звяртацца па адрасу: 220050, г. Мінск, вул. Мяснікова, 38. Тэл. (0172) 20-27-01; 20-17-74***

**Рэктар інстытута, прафесар А. Н. АЛПЕЕЎ.**

**ПКФ «БЕЛАЯ ГРИВА»**

***Производим и продаем:***

- упряжь для рабочих лошадей;
- спортивное снаряжение для лошадей;
- телеги;
- плуги.

**Адрес: г. Минск, ул. Социалистическая, д. 18а. Тел. (0172) 243-91-28.**

RADIO FREE EUROPE
RADIO LIBERTY

**Радыё «СВАБОДА»**

**Беларуская праграма**

***штодня ў эфіры на хвалях***

| | |
|---|---|
| **7:00 — 8:00** | **31, 41** |
| **17:00 — 18:00** | **19, 31, 49 м** |
| **20:00 — 21:00** | **31, 41, 49 м** |
| **22:00 — 23:00** | **31, 41, 49 м** |

**Наш адрас: 220005, Менск-5, паштовая скрынка 111.**

**ПРАДАМ 3-пакаёвую кватэру (67/48 кв. м) у пасёлку Першамайскім Лідскага раёна альбо абмяняю на 2- ці 1-пакаёвую з даплатай.** ***Тэл. (01561) 93-2-52 пасля 17 гадзін.***

**Прадаю ШВЕДСКУЮ БЕНЗАПІЛУ**

**тэл. (017) 227-77-84.**

**МЯНЯЮ КАТЭДЖ**
(тры ўзроўні, 240 кв. м, 0,18 га, закончаны) на кватэру ў Мінску ці прадам.
**Тэл. (0172) 60-97-97.**

## ПРАДАЕЦЦА

**Драўляны дом** з гаспадарчымі пабудовамі і садам, участак 0,25 га ў Столінскім раёне (в. Вулька).
Тэл. у Століне 2-15-87.

**Новы зруб** 8х6 м за 2000$. Віцебская вобл., Докшыцкі раён, в. Лаці. Спічонак Ф. В.

**Дом драўляны** 7х15 м з гаспадарчымі пабудовамі, садам у Калінкавіцкім раёне Гомельскай вобл., в. Замосце, цана дагаворная, альбо мяняю на аўтамабіль.
Тэл. у г. Жлобіне 74-3-79.

**Матацыкл «Ява-638»** у добрым стане, прабег 19 тыс. км. Тэх. агляд за 1996 г. адзначаны. Звяртацца: 223419, Мінская вобл., Уздзенскі раён, в. Кухцічы, дом. 75. Алег.

**Каляска інвалідная** для выкарыстання ў кватэры.
Тэл. у Мінску 234-43-02.

**Дом** у в. Рудакова Нясвіжскага раёна, 1,5 км ад цэнтра Нясвіжа, маецца газ, вада.
Тэл. у Нясвіжы 5-36-53.

**Дзіцячы фільмаскоп.**
Тэл. (0172) 99-43-52.

**Памперсы** (Германія).
Тэл. (0172) 220-69-66.

**Вокны, дзверы** (гатовыя, высокая якасць, у камплекце са шклом для катэджа) танна.
Тэл. (0172) 260-97-97.

Старадаўнюю фарфоравую **вазу** пачатку XIX стагоддзя, **швейную ручную машынку**. Звяртацца: тэл. 31-6-13 з 21 да 23 гадзін. Бераставіцкі раён, Гродзенскай вобл.

## РОЗНАЕ

Вяжу з махеру, хутка.
Тэл. (0172) 52-93-52 пасля 18 гадзін.

Мяняю дом у г. Старыя Дарогі на 2-пакаёвую кватэру ў г. Бабруйску альбо прадам.
Тэл. у Светлагорску 2-10-56.

Мяняю 2-пакаёвую кватэру з усімі выгодамі ў г. п. Кіраўск Магілёўскай вобл. на Гродна, Асіповічы, Бабруйск.
Тэл. у Кіраўску (02237) 22-8-37.

Кансультацыі па забудове сядзіб, сялянскіх падвор'яў, дач. Магчымасць выезду на месца.
Тэл. (0172) 234-43-02.

Прашу адгукнуцца выхадцаў з Рудакова і суседніх населеных пунктаў Хойніцкага раёна.
г. Гомель-49, а/с 114.
Тэл. (0232) 48-15-44.

Гордан Бараніцкі арганізуе прыезд у Беларусь індзейскіх мастакоў і музыкантаў; патрабуюцца толькі запрашэнні.
Тэл. (0232) 48-15-44.

**СКОБЯНЫЕ ИЗДЕЛИЯ**

- **шпингалеты оконные** ЗТ-13
  **шпингалеты дверные**
- **завертки врезные оконные**
- **петли накладные**
  ПН-40, ПН-60, ПН-110, ПН-130
- **петли рояльные** (мебельные)
  **петли ввертные**
  **защелки фалевые**
- **ручки-скобы**
  РС-80, РС-100
- **ящики гофропластовые**
- **крючки оконные**
- **топоры**
  и другие замочно-скобяные изделия (без покрытия, оксидированные, никелированные)

**Умеренные цены**

P&S

***Тел. (0172) 34-86-78. Факс 34-85-22.***

**ВАН**
**предлагает:**
конфеты
пищевое сырьё
в Минске 691623 691831 683794

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**

**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**
**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 68-28-71.**

**Ксеракопія купона не прымаецца.**




# ЗНОЙДЗЕНА КАРТА МІННЫХ ПАЛЁЎ

**У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь знойдзена карта мінных палёў Беларусі часоў Вялікай Айчыннай вайны. Кідаецца ў вочы, што яна ў нечым падобная на сённяшнюю карту радыяцыйнай забруджанасці. Ніякай містыкі тут няма. Проста міны гусцей за ўсё ляжаць там, дзе доўга стаяў фронт.**

ГЛЕДЗЯЧЫ на знаходку, знаёмячыся з прыкладзенымі да яе дакументамі, ловіш сябе на думцы: войны XX стагоддзя не заканчваюцца адразу мірам, спакойным жыццём, яны маюць своеасаблівы і небяспечны працяг. Імя яму — размініраванне.

Першыя вялікія мінныя палі ў Беларусі з'явіліся ў 1943 годзе, калі савецка-германскі фронт пралёг на рубяжы рэк Заходняя Дзвіна, Проня, Днепр, Прыпяць. Абодва бакі звозілі на шырокія беларускія палеткі тоны смяротнага грузу. Не былі забыты лясы, берагі рэк, будынкі населеных пунктаў, нават адзінокія дрэвы паблізу дарог. Палі заносіліся зноў жа абодвума бакамі на карты. Але тыя, хто пазней займаўся размініраваннем, картаў гэтых не мелі. Вядомы былі толькі маршруты руху нашых войскаў, на шляху якіх міны загадзя знялі. Крок улева, крок управа, як кажуць, мог прывесці да гібелі. Што тычыцца картаў вермахта, то Германія прыслала іх зусім нядаўна. Так што працавалі амаль усляпую.

Справу ўскладняла вялікая геаграфія паходжання выбуховых «сюрпрызаў». Сярод іх значыліся нямецкія, бельгійскія, французскія, італьянскія, англійскія і нашы айчынныя. Колькасць нашых у некаторых месцах пераважала ўсе астатнія. Многія мелі свае «сакрэты» і проста лавушкі. Нестандартныя сітуацыі вывучаліся з дапамогай вопытных інструктараў з Мінска. Нярэдка ведаў не хапала. Чым гэта заканчвалася, няцяжка ўявіць, бо мінёр, як вядома, памыляецца толькі адзін раз.

Чэрвеньскі вызваленчы паход Чырвонай Арміі на Захад азначаў пачатак масавага, суцэльнага размініравання Беларусі. У пачатку 1944 года І. Сталін падпісаў спецыяльны дакумент аб правядзенні работ па размініраванню тэрыторый, вызваленых ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Даручалася гэта Асаавіяхіму пад кантролем партыйных і савецкіх органаў.

Намнога пазней, у 1992 годзе, Вярхоўны Савет Беларусі прыраўнаваў удзельнікаў размініравання да ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. І нездарма.

Яны пачыналі сваю небяспечную працу амаль на голым месцы. Касцяк склалі камандзіраваныя з арміі афіцэры-мінёры, найбольш прафесіянальна падрыхтаваныя партызанскія падрыўнікі. То там, то сям здабылі бікфордавы шнуры, шчупы, кошкі, крукі, іншыя спецыяльныя прылады. Да моманту выхаду ў поле, на іншыя аб'екты ў Беларусі было 250 інструктараў і 2972 байцы-мінёры. Гэта на тэрыторыі ў 34877 кв. км. Безумоўна, не густа. У 1944 годзе загінула 70 валанцёраў. 70 працэнтаў з іх складалі юнакі 17-18 гадоў.

Але за ўвесь гэты вельмі цяжкі, складаны перыяд пачатку работы не было ніводнага самаадводу. І ўжо да першай веснавой сяўбы ачысцілі 14.533 кв. км зямлі.

Мінёрскія справы не абышліся і без дзяўчат. Многім з іх таксама прыйшлося ўліцца ў рады байцоў і інструктараў па размініраванню. Маладзенькая жанчынка са шчупам у руках, у цяжкіх кірзавых ботах, сярод развалінаў мёртвага дома — карціна далёка не класічная. Але такімі выглядалі ў тыя гады лепшыя дзяўчаты-размінёры Н. Давольцава, Р. Акуліч, С. Гарэлік, Т. Бажонак і іншыя. Ніна Давольцава была паранена, пасля выздараўлення вярнулася ў каманду. Кожная з удзельніц небяспечнай адысеі зняла 800 і болей мін. Паказчык, які быў недасягальны нават для многіх мужчын.

Мінск займаў у гэтай рабоце асобнае месца. Сярод «падарункаў» было многа авіяцыйных бомбаў. Толькі ў межах тэатра оперы і балету хавалася болей за 200 такіх сюрпрызаў. Замініраванымі аказаліся найбольш буйныя электрастанцыі, хлебазаводы, пункты сувязі, чыгуначны вакзал. Скажам «дзякуй» падпольшчыкам. Даведаўшыся аб нямецкім плане суцэльнага мініравання Мінска, яны занеслі на спецыяльную карту-схему ўсе падазроныя аб'екты. Звесткі былі перададзены па радыёсувязі за лінію фронту. Дзякуючы гэтаму былі выратаваны Дом урада, Дом афіцэраў, будынак Акадэміі навук, карпусы БДУ, прамысловыя цэхі.

Колькасць працаваўшых у сталіцы ў першыя дні сапёраў перавышала 1200 чалавек. Размініраванне горада ішло аднačасова з яго аднаўленнем.

Дакументы сведчаць: у 1945 годзе ў размініраванні прынялі ўдзел 7575 чалавек, з іх загінула 39. Больш за ўсё смяротных выбухаў адбылося ў Мінскай, Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай абласцях.

Дакументацыя аб гэтым была засакрэчана. Толькі зараз можна аддаць належнае героям антымміннай барацьбы, бліжэй пазнаёміцца з умовамі жыцця, працы.

Свае зборы яны праводзілі галоўным чынам улетку, жылі ў школах, палатках. Па ўспамінах некаторых удзельнікаў, падымаліся на золку, працавалі да заходу сонца. Кіраваліся не заробткам, а энтузіязмам. І пачуццём адказнасці. Бо ведалі, што з 1944-га па 1946 год на мінах падарвалася больш за 1670 цывільных, 602 з іх — дзеці.

У тыя 40-я гады мінная небяспека была адной з вядучых тэм друку. Не было ў Беларусі ніводнага раёна, дзе б не выступілі з лекцыяй ці гутаркай прадстаўнікі Асаавіяхіма. Слова дапамагала, але спыніць смяротныя выбухі магло толькі размініраванне.

З беларускіх палёў папутна быў сабраны цэлы арсенал, якога магло хапіць на ўзбраенне не адной дывізіі. Трафеі пайшлі, галоўным чынам, на пераплаўку, некаторыя трапілі ў музеі народнай славы.

У канцы 1946 года было падлічана: з мінных палёў Беларусі можна было скласці цэлы шлях, як ад Мінска да Масквы, так і ад Мінска да Берліна.

За ўдзел у размініраванні ордэнамі і медалямі СССР узнагароджана 88 чалавек. Падкрэслім: цалкам заслужана.

Вышэй мы ўспаміналі пра знойдзеную карту мінных палёў, якая змешчана ў газеце. Работнікі архіва пазнаёмілі з ёю ваенных інжынераў. Актуальнасць знаходкі пацвярджаюць лічбы: толькі ў мінулым годзе ў рэспубліцы абясшкоджаны 204 авіяцыйныя бомбы і 1500 мін.

Спадзяёмся, што знойдзеныя дакументы (а гэта таксама справаздачы, статыстычныя табліцы, пратаколы і г. д.) будуць мець практычнае значэнне для вызвалення зямлі ад «падарункаў» вайны.

**Вячаслаў СЕЛЯМЕНЁЎ,**
**дырэктар Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь;**
**Яўген БАРАНОЎСКІ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.**

## ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

### ЛЁС ПАХАВАННЯ Ў ДРАЗДАХ: РАСКОПКІ НА ТЭРЫТОРЫІ ПТУШКАФАБРЫКІ

# ЧАСТАКОЛ БЕСПАМЯЦТВА

**Ля падножжа Кайдасавай гары пад Мінскам працягваюцца пачатыя 7 мая гэтага года пошукавыя работы на месцы расстрэлу гітлераўскімі катамі летам 1941 года мірных жыхароў і ваеннапалонных канцлагера «Драздзы» (глядзіце газету «Звязда» за 15 і 22 мая г. г.).**

Пяцьдзесят пяць гадоў ва ўсіх кнігах, якія расказваюць аб злачынствах фашыстаў на беларускай зямлі, аб месцы пахавання няшчасных ахвяр гэтых расстрэлаў, сказана лаканічна і жорстка: даных няма. І толькі сёння, нарэшце, 1-й пошукавай роце 52-га асобнага спецыялізаванага пошукавага батальёна Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь удалося «выйсці» на роў-магілу, у якой ляжаць больш за 10 тысяч чалавек.

Як аказалася, роў мае «адросткі». Межы аднаго з іх, даўжынёй каля 100 метраў, ужо выяўлены, агледжаны прадстаўнікамі Цэнтральнага выканкома г. Мінска і ваенкамата, цяпер вырашаецца пытанне аб увекавечанні памяці загінуўшых. Астанкі знішчаных гітлераўскімі катамі людзей, якія ляжаць тут у некалькі слаёў, з зямлі не дастаюцца, а толькі абазначаюцца знайшоўшымі іх салдатамі-пошукавікамі драўлянымі тычкамі.

Жудасны, страшны частакол ўзвышаецца над месцам раскопак...

Асноўны роў-магіла, як можна меркаваць з паказанняў відавочцаў трагедыі, знаходзіцца на засеяным ячменем полі, якое належыць Мінскай птушкафабрыцы імя Н. К. Крупскай.

Пачуўшы аб пачатку пошукавых работ, былы работнік «Мінскводаканала» Леанід Іванавіч Тарлін прама на полі ўпэўнена паказаў месцазнаходжанне вялікай магілы. Кіраўніцтва птушкафабрыкі, даведаўшыся аб страшнай знаходцы на іх тэрыторыі, пасля нядоўгага роздуму дало згоду на закладку на полі шасці пробных шурфаў.

З вялікім разуменнем аднёсся да нечакана ўзнікшай праблемы і сам дырэктар птушкафабрыкі Пётр Арсеньевіч Ярош, паабяцаўшы аказваць садзейнічанне салдатам-пошукавікам. Сёння пошук працягваецца. Аб яго выніках мы даведаемся ў бліжэйшыя дні.

**Мікалай КАЧУК.**



*Праект помніка на Кайдасавай гары.*

### ЛЁС ПАХАВАННЯ Ў ДРАЗДАХ: ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ ГРАМАДСКАСЦІ

# «АЙЧЫНУ ВЫРАТУЕ ПАМЯЦЬ...»

**Тэма лагера знішчэння ў Драздах (яго дакладнае месцазнаходжанне: трохкутнік гаражнага кааператыва — вугал вайсковай часці — ускраіна птушкафабрыкі) усхвалявала чытачоў «Звязды». Значыць, людзі перажываюць. Значыць, чалавечыя сэрцы чуйна адгукаюцца на памяць. Былі і званкі. Найчасцей — з Мінска.**

Пазваніў скульптар Анатоль Арцімовіч. Разам з калегамі ён гатовы ўзяцца за работу па ўвекавечанню пахавання ахвяр на Кайдасавай гары. Анатоль Яфімавіч прапаноўвае выкарыстаць гэтую найвышэйшую ў ваколіцах Мінска кропку наступным чынам. На астанках вайсковай тэхнікі ўзвесці скульптуру адлятаючага анёла. У гэтым мастак бачыць сімвал светабудовы, імкнення да вечнага міру.

Настаўнік з Мінскага раёна Аляксандр Міхайлавіч Ількевіч (дарэчы, сын франтавіка) параіў не шкадаваць на гэтую справу — справу ўшанавання памяці ахвяр — ніякіх грошай. «У апошнія гады мы мала думаем пра вайну. Яна як узор найвялікшай несправядлівасці павінна прысутнічаць у нашых сэрцах, у нашых душах».

Народны архітэктар СССР, аўтар абеліска на плошчы Перамогі ў Мінску Георгій Заборскі, са шкадаваннем і трывогай гаворачы пра бяспамяцтва, вынес такі вердыкт, так падсумаваў свае развагі пра лагер знішчэння: «Айчыну выратуе памяць...» І мы таксама ў гэта верым, пра памяць рупімся, Георгій Уладзіміравіч.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

**АД РЭДАКЦЫІ. Газета «Звязда» звяртаецца да Прэзідэнта краіны. Паважаны Аляксандр Рыгоравіч, не абыдзіце ўвагай сітуацыю вакол былога лагера ў Драздах. Прыміце сваё прэзідэнцкае рашэнне наконт дастойнага ўшанавання памяці ахвяр Вялікай Айчыннай, фактычна першага месяца вайны. Упэўнены: вас падтрымаюць не толькі людзі сталага веку, але і моладзь. Сапраўдная гісторыя Айчыны павінна быць дарагая ўсім пакаленням.**

# МЯСЦІНА, ЯКУЮ ЛЮБІЛІ РУСКІЯ РЭВАЛЮЦЫЯНЕРЫ І ІМПЕРАТАРЫ

ГОРАД, ЯКІ І БЕЗ ТАГО ЗЗЯЕ чысцінёй, кожную раніцу прымае асвяжальны душ з вялізнай колькасці разнастайных мыючых машын. Можна цэлы дзень праван-драваць па вуліцах Ніццы — і ўбачыш не ўбачыць пылу на сваіх чаравіках. У першую ж раніцу пасля прыезду, выйшаўшы на балкон атэля, я назіраў карцінку: да вулічнага паказальніка пад'ехаў невялікі аўтамабіль з пад'ёмнікам, і рабочы ў блакітным камбінезоне пачаў шараваць гэты паказальнік да бляску шчоткай і анучкай.

За апошнія гады былыя савецкія грамадзяне прывыклі ўжо да выгляду дарагіх аўтамабіляў, раскошных вітрын і каляровых заходніх упаковак: гэта ўжо не шакіруе. А вось выгляд чысцютка вымытага тратуара, ідэальна падстрыжаных газонаў, шкляных тэлефонных кабін з няўбітымі шыбамі і «нічыйнымі» даведнікамі, нарэшце — пад'ездаў шматкватэрных жылых дамоў, утульна асветленых бра і ўпрыгожаных кветкамі — усё гэта па-ранейшаму ашаламляе і прыгнятае.

Павандраваўшы некалькі дзён па гэтым дагледжаным квітнеючым узбярэжжы французскай Рыўеры, пачынаеш разумець, што так вабіла сюды ў канцы мінулага—пачатку цяперашняга стагоддзя расійскіх рэвалюцыянераў. Аляксандр Герцэн, якога, як вядома, разбудзілі дзекабрысты, пасля абуджэння «разгортваў рэвалюцыйную агітацыю» менавіта тут, на Лазурным беразе Францыі. Праўда, у свой «Колокол» ён званіў і ў Лондане, аднак у цэлым аддаваў перавагу жыццю тут, у Ніццы. Тут жа і знайшоў апошні свой прытулак на каталіцкіх могілках. Ушанаваць памяць папярэдніка сюды не раз прыязджалі рускія марксісты, у тым ліку Уладзімір Ленін: ад яго любімай Швейцарыі да Ніццы — рукой падаць.

Цікава, што ў той жа самы час французская Рыўера стала надзвычай папулярнай і сярод рускай імператарскай фаміліі. Раманавы разам з прыдворнымі, бывала, па паўгода бавілі тут час: звычайна асеннія і зімнія месяцы, калі ў Расіі халады і непагадзь, а тут — бясконцая мяккая вясна з тэмпературай +15 — 20 градусаў. Зразумела, што і царскія саноўнікі, і апантаныя ворагі рэжыму ведалі аб сваім блізкім суседстве і зусім не радаваліся гэтай нагоды. Наадварот: кажуць, раскланьваліся пры сустрэчах. Усё ж, прынамсі, адна рыса іх аб'ядноўвала: і тыя, і другія ў далёкай чужыне былі заняты цяжкімі роздумамі пра лёс Расіі. Ласкавыя хвалі Міжземнага мора, вымуштраваная абслуга атэляў і рэстаранаў, багатая субтрапічная прырода як найлепш спрыялі ўсяму гэтаму.

Што да французаў, то яны з нязменнай прыязнасцю і павагай ставіліся і да тых, і да другіх.



Памяць пра імператарскую сям'ю ўвекавечана ў назвах вуліц і ў фундаментальным праваслаўным саборы — паменшанай копіі маскоўскага храма Васілія Блажэннага, узведзенага на царскія грошы ў пачатку XX стагоддзя. Марксізм пакінуў пасля сябе сляды ў выглядзе мемарыяльнай дошкі і меднага помніка Герцэну на яго магіле. А ўвогуле тут шануюць усіх вялікіх, які б вецер іх сюды ні занёс. Вандруючы па Ніццы, я са здзіўленнем трапіў, напрыклад, на вуліцу Леха Валенсы, якая, да таго ж, вывела на прыгожую плошчу Гарыбальдзі з вялікім помнікам гэтаму італьянскаму рэвалюцыянеру, які нарадзіўся тут, у Ніццы.

Кожнаму мясцоваму жыхару вядома прынамсі адно імя і нашага вялікага суайчынніка — Марка Шагала. Сусветна вядомы мастак, які ўвекавечыў свой родны Віцебск, доўгі час жыў тут, у Ніццы, і пакінуў у спадчыну гораду вялікую колькасць сваіх твораў. Музей Шагала — адзін з самых цікавых на Лазурным беразе.

Сёння рускія вяртаюцца на Рыўеру — у Ніццу, Каны, Манака. Ля самых шыкоўных атэляў, начлег у якіх абыходзіцца ад 1000 долараў і вышэй, можна бачыць чырвона-блакітна-белыя расійскія сцягі: знак нацыянальнай прыналежнасці пастаяльцаў. Пра шчодрасць «новых рускіх», якія не лічаць грошай і адорваюць фантастычнымі «чаявымі», ужо ходзяць анекдоты. Мясцовы абслуговы персанал узмоцнена засвойвае рускую лексіку. Шырыню рускай душы ўжо зведалі многія прэстыжныя казіно і дарагія магазіны.

Зразумела, ёсць і іншая Ніцца — далёкая ад набярэжнай і прэстыжных раёнаў: Ніцца, дзе жыве сціплы люд, які абслугоўвае багатых турыстаў. Але і там — чыстыя акуратныя дворыкі, утульныя вулачкі, дагледжаныя дамы. На тыя паўтары—дзве тысячы долараў, якія зарабляе сярэдні жыхар горада, не разгонішся. Большую палову забірае аплата жылля і камунальных паслуг. Нятанна каштуе і харчаванне. Зрэшты, цэны на прадукты — цалкам параўнальныя з нашымі — пры непараўнальна больш высокай якасці. Да таго ж французы са сціплым дастаткам купляюць іх не ў багатых магазінах, а на распрадажах: за некалькі тыдняў да таго, як заканчваецца тэрмін захоўвання, прадукты з супермаркетаў трапляюць на гэтыя імправізаваныя рынкі і збываюцца па цане ў 2-3 разы ніжэйшай, чым пачатковая. Тая ж сітуацыя з вопраткай. А калі параўноўваць цэны на бытавую тэхніку, радыёапаратуру — то Беларусь, аказваецца, ужо даўно апярэдзіла Еўропу.

А яшчэ ў Францыі зусім іншыя, чым у нас, жабракі. Сядзіць гэткі чыста апрануты ва ўсё французскае маладзён дзівак ля казіно, на вымытым тратуары, любуецца выглядам марскога прыбою і патрабавальна і гарэзліва трасе бляшаным кубкам, у якім звіняць манеты. Ды яшчэ крыўдзіцца, калі кідаюць менш, чым франк (франк роўны дваццаці цэнтам). Нашым бы жабракам французскія клопаты.

**Валянцін ЖДАНКО.**

*Каны—Ніцца—Манака.*

**КРЫМІНАЛ**

# Месца сустрэчы змяніць можна. Спачатку — «вялікая дарога», затым — турэмная камера

НЕКАЛЬКІ «КАРЦІНАК» З ЖЫЦЦЯ беднай краіны, у якой залазяць у мільярдныя даўгі і дораць начным візіцёрам усё, што ёсць. Жан Духоўнік адслужыў у беларускім войску ...адны суткі. Не пакаштаваўшы як след салдацкай кашы, не зведаўшы ні каравулаў, ні пляцу з аркестрам, ні так званай дзедаўшчыны, хлопец быў вымушаны, як гаворыцца, пакаваць чамадан. Па яго «прыехала» мінулае. Супрацоўнікі міліцыі пасадзілі Жана, канешне, не ў «Мерседэс», а ў тыповы для падобных выпадкаў транспарт, каб даставіць туды, адкуль усе цяжкасці армейскай службы бачацца раем. Але дарогі ў той «рай» хлопцу са Слоніма пакуль няма. Грахі не пускаюць.

«Паслужны спіс» Жана, запратакаліраваны следствам, пачынаецца ў студзені 1994 года з начнога візіту ў слонімскі ўчастак «Гродна595ліфтспецмантаж», размешчаны на першым паверсе жылога дома. Выставіўшы шыбу, ён забірае чатыры радыёстанцыі «Кактус» і зараднае ўстройства. Усё шыта-крыта. Чаму б не паўтарыць? І неўзабаве Жан зноў выходзіць на «вялікую дарогу», на гэты раз у звязцы са старэйшым, 22-гадовым партнёрам, сваім дваюрадным братам Аляксеем Духоўнікам. Са склада малога прадпрыемства «Арбіта», з якім, дарэчы, звязана працоўная біяграфія апошняга, неяк уначы знікаюць рукзакі, пакрывалы, сувенірныя падушкі, шампанскае...

Затым Жан пераключаецца на гаражы. Адзін з іх быў зроблены не з блокаў і цэглы, як звычайна, а ўяўляў сабой аўтамабільны фургон, на даху якога меўся люк. Канешне, гэта акалічнасць не магла пакінуць Жана раўнадушным. Ён кліча кампаньёнаў. Далейшае — справа тэхнікі. З гаража «падмятаюць» усё, што трапляе пад руку — акумулятар, карбюратар, запчасткі, інструмент, каністры... Карацей, ад машыны застаецца адзін «шкілет». Ну а што датычыць провадаў у войска, дык тут, само сабой, спатрэбілася крама. Выбралі вёску Голі Слонімскага раёна. Разам з Аляксеем і Жанам у аперацыі ўдзельнічалі 17-гадовы Пётр Барысік (дагэтуль ужо правераны старэйшым Духоўнікам у двух наездах на вясковыя клубы па апаратуру) і салдат кантрактнай службы са Слоніма Уладзімір Далгоўскі. Перш-наперш аб'ект адключаецца ад сігналізацыі, затым узламваюцца дзверы. Далгоўскі з Барысікам кантралююць сітуацыю на вуліцы, а браты Духоўнікі праводзяць «інвентарызацыю» крамы. Ёсць і выпіць (4 скрыні гарэлкі, трохі каньяку), і закусіць (каўбаса).

Здаецца, усё, кропка, трэба браць адзін з украдзеных рукзакоў, зубачыстку і ісці на службу. Аднак да ваенкамата застаецца яшчэ трохі часу. Да таго ж, неабходна загадзя пазнаёміць навабранца з армейскімі парадкамі. Напрыклад, у лётчыкаў. Гэта вайсковая часць якраз была ў стадыі расфарміравання, аднак вартавыя стаялі. І што вы думаеце? Ці варта заснула, ці то ўмяшаліся законы рынку, але здарылася неверагоднае: гоп-кампанія «бярэ» склад. Ціха, як кажуць, без шуму і пылу. Пасля гэтага хлопцы падрыхтаваны да самых экстрэмальных сітуацый. У прыватнасці, у іх распараджэнні лодкі, якія аўтаматычна надзімаюцца ў выпадку, калі самалёт церпіць аварыю і падае ў мора. Плюс, зразумела, парашут. Можа і не давядзецца з ім скакаць, затое знойдуцца кліенты на «казырны» матэрыял, з якога ён зроблены. Прыхапіўшы таксама ў лётчыкаў асцылографы і іншую апаратуру, браты Духоўнікі з Барысікам развітваюцца з такім надзвычай гасцінным аб'ектам і «ляцяць» далей. Дзе «прызямліўся» Жан — сказана вышэй.

Старшыня Гродзенскага міжгарнізоннага ваеннага суда палкоўнік юстыцыі Вячаслаў Марозаў, які больш за два месяцы разглядаў гэту крымінальную справу, запрашае пазнаёміцца з часткай тавару, канфіскаванага ў злодзеяў. Чаго тут толькі няма! І тэлевізары, і відэамагнітафоны, і скрыні з нейкімі іншымі рэчамі... «А вось гэта, — гаворыць Вячаслаў Міхайлавіч, адчыняючы адзін з фірменных чамаданчыкаў, — электраінструмент. Аб ім пакуль даводзіцца толькі марыць нашым будаўнікам». Дзе ж разжыліся Аляксей Духоўнік са сваім кампаньёнам Уладзімірам Молевым на гэты апошні «крык моды»? Аказваецца, не толькі лётчыкам напляваць на сваю маёмасць. Дала маху і вядомая турэцкая фірма «Энка». Завяршыўшы будаўніцтва дома для вайскоўцаў, якія вяртаюцца з Германіі, яна загрузіла ў вагон свой інструмент (трубарэзы, электранажніцы і г. д.), каб адправіць яго дамоў. Духоўнік з сябрам тут як тут. А чаму б і не? Вартаўніка са стрэльбай каля вагона няма, нават пломба і тая адсутнічае. Пацягнулі дзверы — адчыняюцца... І паехала «Энка» са Слоніма без свайго інструмента. Але яна багатая і асабліва не перажывае, бо па канфіскаваныя ў злодзеяў прыборы не едзе. А з турэцкага пасольства, куды звярнуўся ваенны суд, слушна адказалі, што праблемы прыватнай фірмы яго не датычаць. Для нас яно, можа, і лепей. Не толькі ж іншаземцам карыстацца сучасным інструментам...

Дарэчы, Аляксею Духоўніку для начных аперацый быў таксама патрэбны інструментарый. А паколькі гуманітарнай дапамогі з Захаду чакаць не даводзілася, ён разлічвае толькі на сябе. З двух балонаў ад акваланга і газавай гарэлкі хлопец вырабляе цудоўнага «памочніка» для работы з замкамі. Узяў яго, паклаў у кішэню гумавыя пальчаткі ды «кусачкі», каб адключыць сігналізацыю — і за справу. Канешне, не пяшком. Спачатку ездзілі па калгасах на службовым грузавіку Аляксея Духоўніка, а потым не ўзнікла праблем і з «легкавушкамі», якія былі ў кожнага хлопца і мяняліся як пальчаткі. Праўда, аднойчы, напачатку крымінальнай «кар'еры» давялося пакарыстацца веласіпедамі. Іх «пазычылі» тут жа, на складзе слонімскага магазіна «Культтавары». А што? Няўжо цягнуць у руках скрыні з фотаапаратамі, дазіметрамі і электрагірляндамі?

Сярод аб'ектаў Слоніма, куды альбо кампаніяй, альбо ў адзіночку наведваліся няпрошаныя госці, — станцыя тэхабслугоўвання аўтамабіляў, фабрыка пуха-пяровых вырабаў, упраўленне «Трансгаз», МП «Маладзёжны цэнтр», бібліятэка. Аднак больш за іншых пацярпеў адзін афіцэр, які вяртаўся ў Расію з Германіі. Спыніўся чалавек на пару дзён у свайго слонімскага знаёмага. Раніцай глядзіць — прычэпа з таварам (па сённяшніх цэнах на дзесяткі мільёнаў рублёў) каля хаты няма. Неўзабаве, праўда, міліцыя адшукала ў лесе гэты прычэп, а яшчэ пазней удалося вярнуць частку тавару. Але гэта былі, як кажуць, толькі астаткі роскашы. Дарэчы, гандлявалі ўкрадзеным усюды: і на рынках, і ў Польшчы. Тое-сёе пакідалі і сабе, бо не купляць жа ў сям'ю кухню, халадзільнік ці тэлевізар. А вось кнігі з прычэпа не ўзялі. Там жа, у лесе, гэты непатрэбны тавар спалілі. Між іншым, дваім удзельнікам аперацыі з прычэпам, Уладзіміру Дудзіку і Яўгену Гедрэвічу, пра афіцэрскі тавар нагадалі ўжо ў турме, куды яны трапілі за крадзеж шапак з адной камерцыйнай фірмы. І, зразумела, далі тэрмін.

У цэлым судом зафіксаваны 34 крадзяжы, прычым, 29 з іх — з удзелам Аляксея Духоўніка. Вось, аказваецца, колькі ў нас можна арудаваць, пакуль цябе нарэшце не спыняць. Пры гэтым на працягу больш чым двух гадоў злодзеі не сустрэлі на аб'ектах ніводнага вартаўніка ці хаця б сабакі. Спадарства спіць, а замкі з магазінаў ляцяць — вёска Бабынічы, Дзераўная, Вараб'евічы, Ганькі, Васілевічы, Парэчча... Яшчэ б хлопцам трохі часу — і ці засталася б у раёне хоць адна неабрабаваная гандлёвая кропка?

Тое ж самае датычыць і такіх салідных устаноў, якімі, па ідэі, з'яўляюцца праўленне калгаса і размешчанае, як правіла, у тым жа будынку аддзяленне раённага ашчадбанка. Калгасы «Кастрычнік» Слонімскага, «Радзіма» Зэльвенскага, «Маяк» і «Зара» Мастоўскага, «Перамога» Дзятлаўскага раёна... Са старшынёўскіх кабінетаў зніклі відэамагнітафоны, тэлевізары, тэлефонныя апараты, сувеніры лепшым працаўнікам, цыгарэты, каньяк... З банкаўскіх сейфаў забіралі, канешне ж, грошы, аднак не грэбавалі таксама энергаталонамі і нават латарэйнымі білетамі...

❑

Аляксей Духоўнік атрымаў ад суда 13 гадоў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці, Жан — 5 гадоў. Дасталося, што заслужылі, і іншым. Аднак нейкага раскаяння падчас працэсу не назіралася. Быў хіба што «зрух па фазе», які паспрабаваў разыграць адзін з падсудных. Ды яшчэ чуліся рэплікі «балельшчыкаў»: маўляў, трэба ж наладзіць такое судзілішча... Дарэчы, як выявілася, некаторыя са злодзеяў не рэгулярна, але ўсё ж праглядвалі крымінальную хроніку ў мясцовай прэсе. Дзёрзкасць налётчыкаў на магазіны і сейфы выклікала ў іх зразумелае захапленне. А вось ці чыталі пра чужую бяду чарговыя кандыдаты ў ахвяры начных візіцёраў? Часу не было?

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**● У КАІРЫ РАСПРАЦОЎВАЕЦЦА АГУЛЬНААРАБСКАЯ ПАЛІТЫКА**

У Каіры працягваюцца перамовы прэзідэнта Егіпта Мубарэка і лівійскага лідэра Кадафі. У цэнтры сустрэчы рознагалоссі паміж Лівіяй і Злучанымі Штатамі Амерыкі, умацаванне егіпецка-лівійскіх сувязей і распрацоўка агульнаарабскай палітычнай пазіцыі. Вашынгтон пагражае прыняццем мераў ваеннага характару супраць Лівіі ў сувязі з будаўніцтвам завода па вытворчасці хімічнай зброі. Лівія сцвярджае, што завод не спецыялізуецца на вытворчасці зброі.

**● ТАВАРЫСТВА НАПАТКАЎ ЛЁС ДЫНАЗАЎРАЎ**

Распушчана заснаванае ў 1952 годзе Германа-расійскае таварыства. Таварыства мела на мэце палепшыць узаемаразуменне паміж немцамі і рускімі. Яно крытыкавалася з-за сваёй праванацыяналістычнай і антыкамуністычнай скіраванасці. Таварыства распалася таму, што пастаянна змяншалася колькасць яго ўдзельнікаў. Апошнім часам у яго шэрагах заставалася ўсяго каля 300 чалавек, сярэдні ўзрост якіх складаў 70 гадоў.

**● У СЕУЛЕ ЎРАДАВЫЯ ВОЙСКІ ЗБІЛІ МІРНУЮ ДЭМАНСТРАЦЫЮ СТУДЭНТАЎ**

Паўднёвакарэйскія атрады хуткага рэагавання, выкарыстоўваючы слёзатачывы газ і гумавыя дубінкі, разагналі дэманстрацыю студэнтаў. Сеульскія студэнты выступілі з пратэстам супраць урада і ролі ЗША ў расправе над маніфестантамі ў 1980 годзе. Студэнты абвінавачваюць ваенны штаб ЗША ў Паўднёвай Карэі ў тым, што ён не ўмяшаўся, калі паўднёвакарэйскія войскі ажыццявілі крывавую расправу над мірнымі дэманстрантамі, што выступалі супраць прэзідэнта Чон Ду Хвана.

## ЯКІЯ ЛЮДЗІ!

**● ЗАПОЗНЕНАЕ КАХАННЕ ІСТВУДА**

Вядомы рэжысёр Клінт Іствуд сабраўся жаніцца на шэсцьдзесят пятым годзе жыцця. Яго выбранніца — тэледыктар Дзіна Райз — маладзейшая за яго на 35 гадоў. Пазнаёміліся яны ў мінулым годзе, зразумела, на інтэрв'ю. Не выключана, што стужка «Масты», якую нядаўна зняў Іствуд, — гісторыя пра вялікае, але позняе каханне, навеяна яго ўласнымі любоўнымі калізіямі.

**● ФІЛЬМ У РУКУ**

Брэд Піт закахаўся ў дзяўчыну, чый твар вельмі нагадвае Катрын Дэнёў. Яна таксама актрыса. Гвайнет Палтрау 23 гады, натуральная бландзінка, ужо відавочны прафесіяналізм і бездань абаяльнасці. Пазнаёміліся яны падчас здымак фільма «Сем», дзе ігралі мужа і жонку. Фільм, як сон, спраўдзіўся — вяселле адбылося зусім нядаўна.

**● 13-е ДЗІЦЯ 80-ГАДОВАГА АКЦЁРА**

80-гадовы Энтані Куін ніяк не можа ўціхамірыцца. Два гады таму ўсе лічылі, што чарговае яго дзіця — апошні подзвіг вядомага акцёра. Ды дзе там!. Кэці Бэнвін, былая сакратарка Куіна, а зараз спадарожніца яго жыцця, чакае з'яўлення на свет чарговага наследніка сусветнай зоркі. Кэці маладзейшая за свайго былога боса на 48 гадоў. Дзіця па ліку — трынаццатае. Магчыма, што менавіта гэта нешчаслівая лічба і навяла бяду на старога акцёра — у цяперашні час Куін лечыцца ад злаякаснай пухліны.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», радыё «101,2» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Адна з галоўных славутасцей Парыжа, Эйфелева вежа, закрыта для турыстаў на нявызначаны час: абслуговы яе персанал аб'явіў забастоўку ў сувязі з тым, што служачым начной змены не дазваляюць больш паркаваць свае аўтамабілі каля падножжа вежы. Забастоўка штодзённа пазбаўляе кампанію, якая эксплуатуе вежу, 600 тысяч франкаў.

***Рэйтэр.***

Тры повары з амерыканскага горада Сан-Дзіега вырашылі прыгатаваць экзатычнае блюда з тайком прывезенай з Японіі сабакі-рыбы. Увоз яе з-за таксічнасці катэгарычна забаронены ў ЗША. Любая недакладнасць у яе прыгатаванні прыводзіць да гібелі, што і здарылася ў ЗША, калі атруціліся повары. У Японіі сабака-рыба лічыцца дэлікатэсам, і аматары плацяць па 400 долараў за штуку. У Японіі штогод рэгіструецца прыкладна 50 выпадкаў атручэння з лятальным зыходам.

***Асашыэйтэд Прэс.***

Амерыканскі альпініст Сібаран Б. Уэзерс з горада Даласа аказаўся шчасліўцам. Яму пашанцавала двойчы. Калі група спартсменаў, якая штурмавала Эверэст, трапіла ў страшэнны буран, шторм ён пераседзеў, але яго ўжо ўключылі ў спіс прапаўшых без вестак. Калі ж ён дабраўся да лагера, то быў настолькі слабы, што ўпаў, і выратавальнікі палічылі яго загінуўшым. Уэзер жа толькі абмарозіўся.

***«Известия».***

# КАЛІ Ў БЯДЫ — ДЗІЦЯЧЫ ТВАР...

**Міліцэйскія рэйды па справах крымінальнага вышуку або на лініі ДАІ — рэч, якая стала за гады работы журналістам калі не будзённай, дык прынамсі звыклай. Дзесяткі кіламетраў шасэйных і прасёлкавых дарог, бяссонныя ночы, якія помняцца процьмай выкураных ад убачанага цыгарэт, мільганнем у цемры міліцэйскага ліхтара, пратаколамі затрымання, горам і бядой людзей, якія ў кожным выпадку маюць свой лёс, свой твар... Але нават нешта пабачыўшы і, як падаецца, паспеўшы з нечым ужо ў душы або свядомасці звыкнуцца, усё роўна ўсякі раз уздрыгваеш і напружваешся, даведаўшыся, што твар чалавечага болю — юнацкі або, што яшчэ горш, дзіцячы...**

**Ні ў якім разе не апраўдваючы злачынствы дарослых, усё ж можна сцвярджаць, што большасць з іх выбірае гэты слізкі жыццёвы шлях свядома, ведаючы, чым яны рызыкуюць у дачыненні да саміх сябе. Але часта здараецца так, што за імі ў вір слёз, адчаю, зламаных лёсаў міжволі аказваюцца ўцягнутымі ні ў чым не павінныя нашчадкі, якім шмат чым (ужо ва ўласным жыцці) даводзіцца расплачвацца за ўчынкі бацькоў. Прыніжэнні, голад, абыякавасць з боку родных і блізкіх людзей, прыклады жорсткасці з маленства — хіба ўсё гэта нагадвае шчаслівую і бесклапотную пару дзяцінства? Хто потым вырасце з гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак, якія зведалі пакуты ледзь не з калыскі, як яны праз гады будуць ставіцца да іншых людзей, грамадства? Літаральна выхапіць ні ў чым не павінных дзетак з бездані прыгнечанасці і адчаю, дапамагчы ім адчуць сапраўдныя людскія цяпло і заботу і прызначаны рэйды супрацоўнікаў міліцыі па справах непаўналетніх Чэрвеньскага РАУС, што рэгулярна праводзяцца па нешчаслівых сем'ях раёна: тых, дзе бацькі п'юць або па якіх наогул вырашаецца пытанне аб пазбаўленні іх правоў на выхаванне дзяцей. У адну з такіх паездак у Раваніцкі сельскі Савет і трапіў карэспандэнт «Звязды».**

## «ЦЕРАБІЦЬ» — ЗНАЧЫЦЬ ВЯРТАЦЬ ДА ЖЫЦЦЯ

Шлях з Чэрвеня да Раванічаў няблізкі — больш за трыццаць кіламетраў. Пакуль нашы сіне-белыя міліцэйскія «Жыгулі», кіруемыя ўмелымі рукамі інспектара ДПС ДАІ Алега Сушы, імкліва ляцяць па шашы да месца прызначэння, інспектар па справах непаўналетніх Сяргей Зарубіцкі дзеліцца з аўтарам гэтых радкоў і карэспандэнтам мясцовай газеты Наталляй Сіпер сваімі думкамі аб неабходнасці правядзення такіх рэйдаў. Як лічыць Сяргей Іванавіч, карысць ад іх несумненная. «Зразумела, пры ўсім жаданні нельга вырашыць усе праблемы за адзін раз, ды і наіўна было б чакаць, што бацькі ў «цяжкіх» сем'ях выправяцца вось так, у адзін момант: кінуць піць, будуць сумленна працаваць і даглядаць сваіх дзяцей, — гаворыць маёр. — Гэта не так проста, асабліва калі ўлічыць, што ў большасці «цяжкіх» сем'яў двое, трое і нават пяцёра—сямёра дзяцей. Айчым замест бацькі — таксама звыклая рэч, лячэнне ад алкагалізму (калі прапіваюць усё дашчэнту) патрэбна далёка не аднаму-двум дарослым. Што датычыцца дзяцей, многія з іх дрэнна вучацца або наогул прапускаюць школу». Зламаць такое «супрацiўленне», натуральна, надзвычай цяжка, таму, расказваючы аб тых са сваіх «падапечных», хто ўзяўся за розум і спрабуе наладзіць уласнае жыццё, Зарубіцкі рабіў гэта з гонарам і, наадварот, прыкметна перажываў і хваляваўся, калі распавядаў, што нехта не ўтрымаўся і зноў пайшоў па старой сцежцы... «Як бы там ні было, але калі чалавека ўвесь час «церабіць» — у рэшце рэшт гэта нейкім чынам дысцыплінуе яго, вымушае змяніць нешта ў жыцці да лепшага», — упэўнена падвёў рэзюме інспектар.

## «ЛЕПШ БЫ ВЫ ЯЕ ЗАБРАЛІ...»

У Раванічах да нашай групы далучаецца завуч мясцовай школы Надзея Сасункевіч і старшыня сельсавета Мікалай Спарыш. Першая, каго мы спрабуем наведаць, — пятнаццацігадовая Вераніка Ліцвіненка. Па водгуках прысутных, дзяўчынка мае вельмі добрыя здольнасці да заняткаў лёгкай атлетыкай. Сведчанне таму — прыём яе ў школу алімпійскага рэзерву ў Мінску. Але, правучыўшыся там непрацяглы час, Вераніка вярнулася назад у вёску. Як яна сама потым тлумачыла, у сталічнай школе ўсе здзекаваліся з яе, зневажалі, называючы «калгасніцай» з-за яе старэнькага і нямоднага адзення... Прыехаўшы дамоў, Вераніка пачала прапускаць заняткі ў школе, курыць, сварыцца з маці, не начаваць дома, дакладней там, што домам можна назваць хіба толькі ўмоўна.

...Печ, якая паліцца ледзь не па-чорнаму, цэлафан замест шкла ў шыбах вокнаў, адсутнасць шпалераў на чорных ад бруду сценах, смецце на падлозе і — п'яныя маці з сужыцелем у ложку, якія так і не ўсталі пры нашым з'яўленні, але сустрэлі групу лаянкай. Высвятляецца, што Вераніка зноў не начавала дома, яе бачылі ў знаёмых. Пад матчына наўздагон: «Лепш бы вы яе забралі ў міліцыю», накіроўваемся туды. Але дарэмна, бо «вясковае радыё» ўжо разнесла навіну («міліцыя прыехала») і дзяўчына агародамі некуды збегла. «Цяпер не дагонім — спартсменка», — жартам гаворыць Зарубіцкі. Затое тут мы сустракаем сярод іншых дзяцей малодшую сястрычку Веранікі. Свеце ўжо восем гадоў, але яна пакуль не ходзіць у школу. Нехта з нас пытаецца:

— Светачка, ты сёння што-небудзь ела?

— Так, ела, — ціхенька адказвае тая.

— А хто табе зрабіў паесці, мама?

— Не, тата...

Не паспеўшы ад'ехаць ад гэтага месца, сустракаем сяброўку Веранікі — Іру. Пасварыўшыся з бацькамі, апошняя ўжо каторы час не жыве дома. Як расказала завуч Надзея Сасункевіч, дзяўчына ўжо змяніла тры хаты, дзе нейкі час жыла, просячыся да гаспадароў «на пастой». Іра сцвярджае, што дадому ўсё роўна не вернецца, а закончыўшы 9 клас, паедзе вучыцца ў Смілавічы. Пакуль жа гуляе, як і сяброўка Вераніка. Плачучай ад размовы з намі мы пакідаем Ірыну на дарозе...

Пакуль дабіраемся да наступнай сям'і, старшыня сельсавета расказвае, што апошнім часам у наваколлях вёскі пачалі з'яўляцца вялікія (ці не пад 20 чалавек) кампаніі зусім яшчэ маладых юнакоў і дзяўчат на машынах. Музыка, гарэлка, бывае, машыны стаяць увесь дзень і ноч... Ці не да гэтых прыезджых стала далучацца і мясцовая моладзь?

## МАМКА ЗНОЎ П'Е...

Наступны наш прыпынак — сям'я Тураўцоў. Пяцярых дзяцей гадуе адна маці, бацька кінуў сям'ю і пайшоў да іншай жанчыны. Цагляны дом як знешне, так і ўнутры выглядае значна лепш, чым усё тое, што ўжо давялося пабачыць. Высвятляецца, што заслуга ў гэтым... дзяцей, якія нават есці гатуюць сабе самі. Старэйшы хлопчык на пытанне, ці ёсць у іх што есці, паказвае нам хлеб, пакет з рысам... Адкрытыя дзіцячыя твары, непасрэднасць у размове.

— Ці п'е ваша мамка?

— П'е, але ўжо не дома, а на ферме...

— Яна будзе позна, кароў доіць...

Маці гэтых дзяцей — Ірына, трымалася, не піла месяц. Потым зноў узялася за старое. Старэйшая дачка, якая вучыцца ў Мінску, звярталася ў міліцыю, каб яе пазбавілі бацькоўскіх правоў. Пацвярджэннем слушнасці яе просьбы стаў расказ дзетак аб тым, што іх 13-гадовая сястрычка Насця апошнія пяць дзён не начавала дома. Хіба можа за ёй глядзець маці, якую, па словах суседкі, яна ўжо працяглы час не бачыла цвярозай?.. А ад бацькі дапамогі — ніякай. «Завітаў аднойчы і зноў знік», — гаворыць Зарубіцкі. Пачуўшы, аб кім ідзе размова, малодшы з хлапчукоў раптам на ўсю хату выпальвае: «А мне татка дзесяць долараў абяцаў!..»

Пажадаўшы юным гаспадарам паводзіць сябе належным чынам, мы зачыняем за сабой дзверы яшчэ аднаго дома, яшчэ адной сям'і, якая страціла арыенцір у жыцці...

## ПОМСТА ЛЯЗОМ ПА ЦЕЛЕ

Наступная гісторыя прымусіць здрыганущца чытача, як і ўсіх удзельнікаў рэйду, сваёй незразумелай і бязлітаснай жорсткасцю. Крывавай і вытанчанай помстай падлеткаў у адносінах да сваёй, практычна, равесніцы...

18 мая ўдзень да 17-гадовай Віты Сергіенка (жыве без мужа, замест бацькі — айчым, маці па справах з'ехала ў Мінск) на машыне «завіталі» чацвёра хлопцаў і дзяўчына. Пакуль «моцная палавіна» трымала ахвяру за рукі і закрывала рот, прыехаўшая дзяўчына абломкам ляза драпала жывому чалавеку твар, шыю, а парваўшы сукенку — рукі, грудзі, выпісваючы на целе вялікія літары (напэўна, ініцыялы імёнаў і прозвішчаў або мянушак мучыцеляў), прыгаворваючы пры гэтым: «Гэта табе за бойку з М...» Напэўна, гэтага падалося мала, таму што адзін з хлопцаў схадзіў да машыны і вярнуўся з заціснутай у пласкагубцах напаленай металічнай пласцінай, якую потым прыклалі да бока дзяўчыны... Асабіста мне хапіла выгляду распісаных па жывому шчок ахвяры дзікунства, на якіх красаваліся велізарныя літары, а Надзея Сасункевіч, агледзеўшы цела пацярпеўшай у асобным пакоі, наогул схапілася за галаву: пачала гнаіцца паленая частка цела. Да ўсяго высветлілася, што Віта не звярталася па медыцынскую дапамогу і ў міліцыю. З супрацоўнікамі праваахоўных органаў звязаліся суседзі. Яны ж растлумачылі, чаму дзяўчына адмоўчваецца, — на наступны дзень тая ж кампанія наведвалася да яе зноў, пакінуўшы запіску з патрабаваннем прынесці ў дамоўленае месца спірт і маўчаць наконт таго, што здарылася, інакш — як папярэджвала кампанія — тое ж самае можа здарыцца з малодшым братам дзяўчыны. Але самае, бадай, жудаснае ў гэтай гісторыі тое, што пацярпеўшая з'яўляецца... маці. Яе дачцэ Людзе — усяго годзік, і мы не адразу зразумелі падчас размовы, што яна знаходзіцца ў суседнім пакоі з брацікам ахвяры — настолькі ціха (нягледзячы на тое, што ў хаце размаўлялі сем чалавек) яна сябе паводзіла і, нават убачыўшы незнаёмых, не спужалася, а толькі неяк уважліва, па-даросламу сур'ёзна пазірала на нас, зноў жа ціхенька поўзаючы па ложку... «Адчувае, што пад бядой жыве», — здаецца так прагучалі ў цішыні словы Мікалая Спарыша. Кранула яшчэ і тое, што нібыты спецыяльна падчас размовы яе фонам была трансляцыя па Беларускім тэлебачанні перадачы аб жаночых калоніях. Гук быў амаль нячутны, але тое, што адбывалася ў рэальным жыцці, у сукупнасці з карцінкамі на экране ўтварала дзівосна-жудасны малюнак адзінага цэлага: дзяўчына з акрываўленым лязом у руцэ і маладзенькія «зэчкі» ў аднолькавых сукенках у курылцы на зоне, маленькая Людачка за сцяной і малышы ў тэлевізары, якія пачалі сваё жыццё за кратамі, у турэмным дзіцячым садку...

**Неабходнае пасляслоўе**. Калі шчыра, матэрыялы, падобныя на гэты, пісаць лёгка і адначасова надзвычай цяжка. Лёгка ад таго, што на паперу радок за радком кладзецца пачутае і ўбачанае на ўласныя вушы і вочы, факты і вобразы бяруцца не «са столі», а з рэальнага жыцця. Але ж гэтае самае жыццё ў сваіх далёка не лепшых праявах і не дае спакою, вымушаючы шукаць адказ на самае, бадай, галоўнае пытанне: чаму? Я не згодзен з тым, што ўсе шчаслівыя сем'і шчаслівыя аднолькава і толькі нешчаслівыя — няшчасная кожная пасвойму. Бяда як раз у тым, што ўсё наадварот! Колькі ў кожным раёне, вобласці Веранік, Він, лёс якіх адзін і той жа — гаротны? Ці мала сем'яў, дзе бацькі п'юць «па-чорнаму», а дзеці ходзяць паўгалодныя і паўраспранутыя? Паездзіўшы раз-другі ў рэйды з міліцыяй, з кожным наступным разам міжволі пачынаеш лавіць сябе на думцы: гэта ўжо было, гэта нешта да болю знаёмае. Вёскі, твары, лёсы — усё зліваецца ў адзіны вобраз, імя якому — безвыходнасць. Яна паўсюдна: у перакошаных сялянскіх платах, на брудных тварах дзетак, у нязграбных ад вечных гумавых ботаў і ватовак постацях дарослых, нарэшце, у самім паветры. За што трымацца ў жыцці, які арыенцір абраць: мізэрную зарплату? Цяжкую працу ад зары да зары?Адсутнасць цывілізаванага дабрабыту? Таму не сакрэт, што бацькі імкнуцца адправіць сваё дзіця пры магчымасці ў горад, спадзеючыся, што, можа, там яно знойдзе лепшую долю. Зразумейце: міліцыя не можа выратаваць усіх, даць пуцёўку ў шчаслівае жыццё кожнаму. Гэты самы дабрабыт трэба будаваць у самых далёкіх вёсачках самім, ужо зараз, сёння, найперш пачынаючы з прэзідэнта і народных дэпутатаў — выбраннікаў, якія, нарэшце, павінны зразумець, для каго і якія павінны прымацца законы. Мо тады хоць дзеці нашы дажывуць свой век шчасліва?..

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

Мінск—Чэрвень—Раванічы—Мінск.

---

# АПОШНІ АРГУМЕНТ

**Часта прыходзіцца чытаць, чуць пра сямейныя трагедыі. Тут муж забіў жонку, а там жонка мужа. Дарэчы, другі варыянт даволі часты. А здараецца, што браты штосьці не падзялілі. Амаль заўсёды развязка наступае падчас застолля альбо звычайнай выпіўкі. Узнікае спрэчка і хтосьці хапаецца за востры ці цяжкі прадмет, каб гэтым, апошнім аргументам, даказаць сваю праўду.**

**і вытокам усіх бед часта тут бачаць гарэлку. Вось каб не яна, то ўсё абышлося б. Магчыма, і сапраўды, у гэты момант трагедыі і не было б, але яна здарылася б пазней, у іншым месцы, пры іншых абставінах... Безумоўна, алкаголь спрыяе распальванню канфлікту, але гарэлка ў сямейных драмах як бы адкрывае клапан і ўсе непаразуменні і крыўды, якія часта гадамі накопліваліся ў чалавеку, вырываюцца вонкі.**

У Івана Дораша нарадзіўся сын, калі старэйшую дачку ўжо паспеў выдаць замуж, але вельмі ж хацеў сына. І калі малы з'явіўся, то радасці сваёй Дораш не хаваў. Амаль цэлы тыдзень адзначаў бацька нараджэнне сына і нават на трактары ў канаву зваліўся, але ўсё абышлося. І сына Дораш назваў у свой гонар — Іванам. Яшчэ Ванька не навучыўся гаварыць, а зразумеў, што ён першая асоба ў хаце. Бацькі, сёстры і бабка не ведалі, як дагадзіць малому. А ён, калі што не па ім, дык на падлогу і крычыць нема. Але ў такім узросце падобнае ў дзяцей здараецца часта. І рабіць тут нейкія высновы не прыходзіцца. Першы сур'ёзны сімптом праявіўся, калі Ванька пайшоў у школу. У першым класе настаўніца за нейкую правіннасць паставіла яго ў кут. Ванька паскардзіўся бацьку, і Іван Пятровіч прыйшоў у школу і перад вучнямі прыгразіў настаўніцы: калі яна яшчэ раз пакрыўдзіць сына, то ён ёй ногі пераломіць.

Іван Дораш не быў агрэсіўным чалавекам. На работу выходзіў спраўна, ды і дома быў парадак.

У шаснаццаць гадоў малодшы Дораш ужо лётаў на матацыкле, які і разбіў неўзабаве. Школу ў дзевятым класе кінуў, пайшоў вучыцца ў ПТВ і бацьку ўжо інакш не называў, як стары.

Бацька сапраўды старэў, а сын акрэп і стаў запраўляць у бацькавай хаце. Сёстры даўно выйшлі замуж, так што Ванька ў бацькоў быў адзіным...

— Стары, ты ні халеры не цяміш, — гаварыў часта сын бацьку, калі той спрабаваў штосьці параіць. І гэта былі не самыя моцныя словы. Мог запраста і мацюкамі аблажыць бацьку. Пасля арміі Дораш-сын падаўся ў Сібір зарабляць грошы і быццам бы там і ажаніўся, але дамоў вярнуўся адзін у зашмальцаванай куртцы і туфлях з чужой нагі.

Сказаць, што Ванька быў гультаём, не скажаш, але на рабоце доўга не затрымліваўся. Усюды «качаў правы», даказваў начальству сваю праўду. Апошнім часам ён не працаваў, швэндаўся па вёсцы.

Аднойчы ў выхадны дзень Ванька прыйшоў дамоў са сваім сябрам па бутэльцы, Антонам Кіслюком. Выпіць запрасілі і бацьку. Бутэлькі не хапіла, і Іван Пятровіч паставіў яшчэ пладовага віна. На вуліцы церушыў восеньскі дождж, і таму вырашылі «забіць казла». Мужчыны гулялі ў даміно, а гаспадыня з суседкай сядзела. Гулялі шумна, грукалі касцяшкамі па стале і маладыя ўстаўлялі «моцныя» словы. Але проста так гуляць хутка надакучыла і хлопцы вырашылі, што прайграўшы павінен прапаўзці пад сталом. Першым пад стол палез шчуплы Антон. Затым прайграў Ванька. Пад сталом ён з задавальненнем прабляяў. А тут прыйшла чарга прайграць і Івану Пятровічу.

— Лезь, лезь, стары, — сказаў сын.

— Хлопцы, можа абыдзецца? — папрасіў бацька.

— Во, хоць на старасці пабудзь казлом, — сказала гаспадыня, — памэкай...

Дораш заўпарціўся і лезці пад стол катэгарычна адмовіўся. Ды і зрабіць гэта яму не ўдалося б, бо камплекцыю меў значную.

Сын ускіпеў:

— Лезь, стары казёл. Мы лазілі.

Схапіўшы бацьку за каўнер, Ванька пачаў гнуць яго да падлогі. Іван Пятровіч схапіўся рукамі за стол і тут, як на бяду, пад руку трапіў нож, якім рэзалі сала ды агуркі. Дораш ударыў сына знізу... Маці загаласіла, суседка кінулася з хаты, а калі з райцэнтра прыехала «хуткая дапамога», малодшы Дораш памёр.

* * *

Якімі павінны быць адносіны паміж бацькамі і дзецьмі? Пытанне далёка не рытарычнае, хаця і банальнае. І на гэту тэму можна разважаць бясконца, таму я хачу паставіць пытанне больш канкрэтна. Ці існуе мяжа ў адносінах бацькоў і дзяцей, якую нельга пераступаць?

Тут ёсць два пункты гледжання. Адны лічаць, што з дзіцем неабходна вытрымліваць строгую дыстанцыю, другія — што трэба імкнуцца наладзіць з ім добры кантакт. Цяжка сказаць, на чым тут баку праўда, але калі бачыш, як бацькі і дзеці сядзяць перад «відзікам» і глядзяць «салёны» фільм, няхай сабе дзеці і дарослыя, то міжвольна ўзнікае пачуццё пратэсту. Існуе ў дадзеным выпадку мяжа, якую нельга пераступаць. Хаця б па маральных меркаваннях.

Здавалася б, ці важна, як звяртацца да бацькоў: на «ты» ці на «вы». У адных сем'ях прынята так, у другіх гэтак, і ў прынцыпе зварот не зробіць дзіця лепшым, чым яно ёсць. І тым не менш, паміж «ты» і «вы» пэўны нюанс існуе.

У Бібліі ёсць мноства выказванняў, якія датычацца нашай тэмы.

— Карай сына свайго, пакуль ёсць надзея, і не звяртай увагі на крык яго... Хто шкадуе розгі сваёй, той ненавідзіць сына; а хто любіць, той з дзяцінства карае яго. (Прытчы Саламона 19-18, 13-2).

Вось і выходзіць, што папружка і дубец малому не пашкодзяць. Хаця ў Святым Пісанні сказана і іншае. Калі сын нарадзіўся дурнем, то тут ужо нічым не дапаможаш.

Для дзяцей жа існуе чацвёрты запавет:

— Шануй твайго бацьку і маці.

Ёсць да бацькоў павага — многія пытанні адпадаюць, бо менавіта яна з'яўляецца зыходным пунктам у адносінах да блізкіх людзей.

І тут яшчэ нельга забываць пра годнасць чалавека. Нельга прыніжаць яе. Пачуццё ўласнай годнасці ёсць у кожнага чалавека, але яно можа быць невыразным, ці, наадварот, знаходзіцца ў хваравітым стане, калі нават нейкую дробязь чалавек можа ўспрыняць як сваю абразу.

Месца бацькі — сядзець на покуці, а не пад сталом. І дзеці бацькам не суддзі.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*Баранавіцкі раён.*

## АДДАЁМ ПЕРАВАГУ ЎКЛАДАМ?

**Цікава б было даведацца, як мы сёння расходуем свае грошы: аддаём перавагу пакупцы тавараў або адкладваем. І яшчэ адно пытанне: магчыма, у вас ёсць інфармацыя аб тым, якія замежныя актывы зараз знаходзяцца ў беларускіх банках.**

**Сяргей ЧУДАВЕЦ,** Горкі.

Спачатку аб грашах насельніцтва. Трэба заўважыць, што сёння насельніцтва ўсё ж такі аддае перавагу зберажэнням. Так, напрыклад, за тры першыя месяцы гэтага года набыццё тавараў і аплата паслуг насельніцтвам склалі 17,3 трыльёна рублёў, знізіўшыся за адпаведны перыяд мінулага года ў агульным балансе расходаў з 84,7 да 71,1 працэнта. Калі ж абапірацца на статыстыку Нацыянальнага банка, прырост укладаў грамадзян, набыццё імі каштоўных папер і замежнай валюты павялічыліся ў параўнанні са студзенем—сакавіком 1995 года амаль у 3 разы і склалі 5,29 трыльёна рублёў. Так што высновы з гэтага можна ўжо рабіць.

Што ж датычыцца замежных актываў беларускіх банкаў, то, згодна з інфармацыяй, якая ўжо праходзіла ў друку, яны знізіліся за мінулы год на 42 мільёны долараў. Замежная валютная пазіцыя камерцыйных банкаў Беларусі складае па выніках мінулага года 261,7 мільёна долараў. З гэтай сумы дэпазіты банкаў складаюць 143,9 мільёна долараў, а рахункі за мяжой — 63,9 мільёна. У параўнанні з першым днём мінулага года сума дэпазітаў камерцыйных банкаў засталася практычна нязменнай, а вось астаткі на рахунках за мяжой паменшыліся на 34,6 мільёна долараў.

## КУДЫ НАЙБОЛЬШ ЕЗДЗЯЦЬ?

**Напярэдадні летняга сезона хацелася б даведацца, як выглядае дзесятка найбольш папулярных у турыстаў краін свету. Магчыма, ёсць нейкія даныя і наконт таго, якія краіны больш за ўсё атрымліваюць даходаў ад турызму.**

**Аліна КАРАСЁВА,** Мінск.

Згодна з данымі WTO, дзесятку найбольш папулярных у турыстаў краін свету адкрывае Францыя. У мінулым годзе яе наведала каля 61 мільёна турыстаў. Следам за ёй ідзе Іспанія, дзе пабывала ў 1995 годзе каля 45 мільёнаў чалавек. ЗША — на трэцім месцы. Далей ідуць наступныя краіны — Італія, Кітай, Вялікабрытанія, Венгрыя, Мексіка, Польшча, Аўстрыя. Калі ж весці гутарку аб даходах ад турызму, то больш за ўсіх у гэтым сэнсе «адхапілі» Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе даход ад турызму склаў каля 58 мільярдаў долараў. Значна адстаў другі лідэр па даходах, Францыя, дзе яны ў мінулым годзе склалі каля 27 мільярдаў долараў. Наступнай стала Італія — таксама каля 27 мільярдаў рублёў. Ад Італіі адсталі Іспанія, Вялікабрытанія, Аўстрыя, Германія, Ганконг, Кітай. Апошняе месца ў дзесятцы за Сінгапурам, які «зарабіў» у мінулым годзе каля 7 з паловай мільярдаў долараў.

## ВУЛІЦА ІМЯ ГАЯ

**З ахвотай знаёмлюся з кароткімі даведкамі пра слынных людзей, імёнамі якіх названы вуліцы і плошчы гарадоў і пасёлкаў Беларусі. У Мінску ёсць вуліца імя Гая. Раскажыце пра гэтага чалавека на старонках «Звязды».**

**Канстанцін НІЧЫПАРУК,** Брэсцкая вобласць.

Сапраўднае імя яго — Гайк Бжышкян. Нарадзіўся ён у 1887 годзе ў паселішчы Тэбрыз у Іранскім Азербайджане. Прапаршчыкам удзельнічаў у першай сусветнай вайне, а ў 1918-м стаў камандзірам першай зводнай Сімбірскай пяхотнай дывізіі. Праз год Гая Гай — камандуючы 1-й арміяй Усходняга фронту, змагаецца супраць белачэхаў, Калчака, Дутава.

З чэрвеня 1920 года Гай на Заходнім фронце, камандуе 3-м конным корпусам. Байцы пад яго камандаваннем ажыццявілі 800-кіламетровы рэйд па тылах ворага. Калі ж Чырвоная Армія пацярпела паражэнне ў Варшаўскай аперацыі, ён быў інтэрніраваны ва Усходняй Прусіі, але неўзабаве вярнуўся на радзіму.

У 1923 годзе Гая Дзмітрыевіч Гай прызначаецца адначасова камандзірам і ваенным камісарам 7-й Самарскай кавалерыйскай дывізіі, што дыслацыравалася на тэрыторыі нашай рэспублікі. Па яго ініцыятыве быў адроджаны 3-і конны корпус, штаб якога размясцілі ў Мінску.

Гая Дзмітрыевіч быў вельмі адукаваным, высокапрафесіянальным чалавекам і спецыялістам. Скончыўшы Ваенную акадэмію імя Фрунзе, быў начальнікам кафедры Ваеннапаветранай акадэміі ў Маскве. Яго пяру належалі шэраг прац па гісторыі грамадзянскай вайны і ваеннаму майстэрству. Аднак сталінская рэпрэсіўная машына не пашкадавала і яго. У 1935 годзе Гай быў арыштаваны, а праз два гады без суда і следства расстраляны.

## ЗАБЕСПЯЧЭННЕ ПРАВОЎ АХВЯР ПАЛІТЫЧНЫХ РЭПРЭСІЙ 20—80-х ГАДОЎ

**Я быў рэпрэсіраваны ці, як зараз кажуць, стаў ахвярай палітычных рэпрэсій 20—80-х гадоў. Да ўказа Прэзідэнта я карыстаўся ўсімі льготамі. Ці засталіся яны?**

**В. АКСЮЧАНКА,** в. Сяліба.

1 верасня 1995 г. выйшаў Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян». Гэтым указам пералік нормаў законаў, якія прадугледжваюць ільготы і перавагу асобных катэгорый грамадзян, прыпыняецца. Прыпыненне льгот ахвярам палітычных рэпрэсій 20—80-х гадоў у адпаведнасці з палажэннямі і парадкам аднаўлення правоў грамадзян, якія пацярпелі ад рэпрэсій у 20—80-я гады, указам не прадугледжана.

## ПЕДАГАГІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ ПАШЫРАЕ КОЛА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦЕЙ

**Паважаная рэдакцыя! Падкажыце, калі ласка, ці будзе пры паступленні ў Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт у бягучым годзе дзейнічаць мэтавы набор і якія новыя спецыяльнасці з'явіліся там у апошнія гады?**

**Вольга БАРЫСАВА,** г. Валожын.

Як паведамілі ў прыёмнай камісіі ВНУ, такі набор па-ранейшаму існуе. Абітурыенту, які мае накіраванне ад раённага аддзела народнай адукацыі (гэта датычыцца абітурыентаў з сельскай мясцовасці), пры станоўчым выніку здачы экзаменаў аддаецца перавага. Па сутнасці, мэтавае накіраванне дапускае, што выпускнік пасля заканчэння ВНУ павінен вярнуцца на месца, адкуль яго накіравалі на вучобу.

Да новаўвядзенняў педагагічнага універсітэта можна аднесці з'яўленне ў ім такіх спецыяльнасцей, як біялогія і валеалогія (г. зн. навука аб здаровым ладзе жыцця), сацыяльная псіхалогія, педагагічная псіхалогія, псіхалогія сямейных адносінаў і сексалогія, псіхалогія прадпрымальніцкай дзейнасці і менеджменту. Тыя, хто паступае на спецыяльнасці прыкладной псіхалогіі, здаюць экзамен пасля прафесіянальнай гутаркі. Прыём студэнтаў на іх адбываецца толькі на ўмовах поўнай аплаты навучання. Аплата за навучанне — 45—50 мінімальных зарплат у год.

Па ўсіх пытаннях паступлення трэба звяртацца ў прыёмную камісію па тэл.: 220-94-17.

## ЗОРКА Ў КІШЭНІ

**Чула, што зараз пры жаданні можна назваць сваім імем зорку. Няўжо такое ёсць на самай справе? Мабыць, гэта ўсё ж такі чуткі.**

**Алена НІКАЛАЕВА,** Гомель.

Хоць у гэта і цяжка паверыць, аднак на самай справе, пры наяўнасці тугога кашалька, кожны жадаючы можа дазволіць сабе такі «капрыз». Аказваецца, што ў Маскве для гэтых мэтаў у Цэнтральным парку культуры і адпачынку створаны спецыяльны «Зорны магазін». Туды вы можаце зайсці і «набыць» любую зорку 7—15-зорнай велічыні. Задавальненне назваць зорку сваім імем абыдзецца ад 15 да 10.000 долараў у расійскіх рублях па курсу Цэнтрабанка ў залежнасці ад яркасці. Зразумела, безыменных зорак на небе мноства, сотні тысяч. Калі вы рашыліся любую з іх назваць сваім імем, камп'ютэр выбера сярод іх менавіта тую, якая знаходзілася ў момант вашага нараджэння ў зеніце. Адпаведныя органы далі дазвол на такі гандаль. Такім чынам, і «зорную хваробу» сёння пры наяўнасці сродкаў можна пераадолець.

## КОЛЬКІ НА СВЕЦЕ РЭЛІГІЙ?

**Мне 18 гадоў, і я нехрышчоная. Знаёмыя раяць мне ахрысціцца, некаторыя з іх, дарэчы, падаліся ў нейкія секты. Хацелася б ведаць, колькі ж рэлігій усяго існуе на свеце?**

**Ларыса П.,** Мінск.

Калі ўзяць даныя часопіса «World Almanac 1994», то ў свеце налічваецца 1.833 мільёны хрысціян, мусульман — 971 мільён 300 тысяч, індусаў — 732,8, будыстаў — 314,9, акрамя таго, прыхільнікаў народных рэлігій Кітая — 187,1, новых азіяцкіх рэлігій — 143,4, язычнікаў — 96,6, сікхаў — 18,8, сектантаў новага часу — 18,6, іудзеяў — 17,8, шаманістаў — 10,5, канфуцыян — 6 мільёнаў. А вось няверуючых усяго 876 мільёнаў чалавек.

## ХТО ПРАПАНУЕ ЧАРКУ ДЗЕЦЯМ?

**Усё часцей сустракаю на вуліцах п'яных падлеткаў. Такое ўражанне, што з кожным годам усё больш дзяцей уцягваецца ў гэту бяду. Цікава, хто ім дапамог першы раз паспрабаваць усю «прыемнасць» чаркі?**

**А. ТАРАСАЎ,** Брэст.

Калі меркаваць па апытаннях, якія ў апошнія гады праводзіліся, найменшая частка падлеткаў пакаштавала першы раз гарэлку па ўласнаму жаданню. Аднак усё часцей галоўнымі асобамі становяцца ў гэтым сэнсе бацькі, брат ці сястра, іншыя сваякі. Менавіта з іх рук упершыню атрымалі чарку такія дзеці. На жаль, далёка не кожны дарослы ўсведамляе той факт, што знаёмства ўпершыню са спіртным, нават у невялікіх дозах, можа ператварыцца ў бліжэйшай будучыні ў сацыяльную хваробу грамадства.

## КОЛЬКІ НАС ПРАЦУЕ ЗА МЯЖОЙ?

**Не сакрэт, што некаторыя нашы землякі аддаюць перавагу рабоце за межамі краіны: працаўладкоўваюцца там і атрымліваюць долары. На жаль, ніколі не сустракаў канкрэтных лічбаў — колькі беларусаў працуе за мяжой, у якіх краінах і па якой спецыяльнасці? Ці не маглі б вы дапамагчы даведацца пра гэта?**

**Сяргей АКІМЧЫК,** Гродна.

Паводле афіцыйных даных, у мінулым годзе за межамі Беларусі працавалі 1692 нашы землякі. Праўда, заўважым і тое, што тут улічваліся толькі тыя работнікі, якія афіцыйна зарэгістравалі свае кантракты ў Міністэрстве працы. На самай справе такіх людзей, якія аддаюць перавагу працаўладкаванню за мяжой, намнога больш. Больш за ўсё беларусам падабаецца працаваць у Расіі — там у мінулым годзе зарабляла грошы 1335 нашых землякоў. Потым ідзе Польшча — 187 чалавек, у Грэцыі працавала 76 беларусаў, у Чэхіі — 51, у Германіі — 30, у Францыі — 10.

Агенцтвы, якія займаюцца працаўладкаваннем за межамі краіны, у асноўным прапануюць заробкі на будаўніцтве, на сельгасработах (для мужчын) — часцей за ўсё сезонных, для жанчын — догляд за дзецьмі.

## АВІТАМІНОЗ. ЯК З ІМ ЗМАГАЦЦА?

**Усю зіму не хварэла. А пры наступленні вясны мяне пачалі даймаць хваробы і стомленасць. Лёгка прастуджаюся. Што рабіць?**

**Лена БАЛЬШАКОВА,** г. Баранавічы.

Як вядома, вясной арганізм адчувае недахват вітамінаў. А гэта зніжае імунітэт да прастудных і іншых захворванняў. У якасці агульных рэкамендацый у перыяд веснавога авітамінозу можна параіць прымаць полівітаміны, і асабліва аскарбінавую кіслату. Карысныя літаральна ўся агародніна і садавіна. У апошні час такую раскошу сабе дазволіць далёка не кожны. Аднак свежая зелянінa ў гэты перыяд значна важней за мяса. Вельмі карысная свежая і квашаная капуста. Ужыванне свежага соку капусты павышае імунітэт арганізма, паляпшае стан хворых з захворваннямі страўнікава-кішачнага тракта. З экзатычных фруктаў вельмі карысныя ківі. Чэмпіён па ўзроўню ўтрымання вітаміну С — лімон. Банан утрымлівае многа клятчаткі і валодае процізапаленчым дзеяннем.

Палепшыць самаадчуванне вясной дапамогуць пешыя прагулкі, свежае паветра і заняткі фізкультурай. Гэта будзе садзейнічаць паляпшэнню абменных працэсаў і ўзмацненню кровазвароту. Жанчыны не павінны забываць, што добрае харчаванне і рухомасць — гэта добрая фігура і прыгожая здаровая скура.

## СУБСІДЫІ НЕ ДЛЯ ЎСІХ?

**Паважаная рэдакцыя, дапамажыце! Я з сям'ёю ў колькасці чатырох чалавек, у тым ліку двое малых дзяцей, жывём у маладзёжным інтэрнаце ад абутковага аб'яднання «Праца». Зараз у сям'і працуе толькі мой муж. Ці можам мы атрымліваць субсідыі пры аплаце за жыллё? У райвыканкоме адказалі, што не. Ці правільна гэта?**

**Галіна СТЭЛЬМАШОНАК,** г. Гомель.

Як адказаў карэспандэнту «Звязды» начальнік эканамічнага ўпраўлення Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Вахтанг Валажынец, у гэтым выпадку райвыканком не мае рацыі. Субсідыі пры аплаце за жыллё вам трэба атрымаць за кошт уласніка вашага інтэрната, г. зн. у службе субсідзіравання абутковага аб'яднання. Акрамя таго, калі прадпрыемства, на балансе якога стаіць інтэрнат, не мае прыбытку, гэта таксама не з'яўляецца падставай для адмаўлення вам выдачы субсідыі.

У гэтым выпадку аб'яднанне павінна звярнуцца да мясцовых органаў улады па дапамогу. У любым выпадку малазабяспечаным сем'ям павінна быць аказана дапамога ў выглядзе прадастаўлення субсідыі. Так што патрабуйце.

## ДЗЕ РАСЦЕ БЯСПЕЧНЫ ГРЫБ?

**«Звязда», падскажы, калі ласка, якія існуюць абмежаванні пры займанні пчалярствам, паляваннем, зборам ягад і грыбоў на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях?**

**Сяргей ГОЦМАН,** г. Бабруйск.

Пчалярствам дазваляецца займацца на тэрыторыях са шчыльнасцю забруджвання радыенуклідамі да 15 Кu/кв. км. Сабраны мёд падлягае радыеметрычнаму кантролю. Тыя ж патрабаванні прад'яўляюцца і да нарыхтоўкі бярозавага соку.

Паляванне ў раёнах са шчыльнасцю забруджвання радыенуклідамі да 5 Кu/кв. км дазваляецца з выбарачным радыяцыйным кантролем паляўнічых трафеяў. Трэба памятаць, што з дзікіх жывёл больш за ўсё назапашваюць радыенуклідаў кабан і заяц, трохі менш — лось і алень.

У цяперашні час больш за 90 працэнтаў радыенуклідаў знаходзіцца ў лясной падсцілцы і пяцісантыметровым слоі глебы. Такім чынам, самымі небяспечнымі для здароўя з'яўляюцца грыбы. Па здольнасці назапашваць радыеактыўныя рэчывы яны падзяляюцца на тры групы. Грыбы І групы з сярэднім назапашваннем (апенькі, лісічкі, белыя грыбы, падасінавікі, падбярозавікі, сыраежкі, падзялёнкі, шампіньёны) і грыбы ІІ групы з моцным назапашваннем (грузды, зялёнкі, ваўнянкі, рыжыкі, рашотнікі, шарухі) дапускаецца збіраць у лясах са шчыльнасцю забруджвання глебы да 2 Кu/кв. км. Грыбы ІІІ групы — акумулятары радыецэзію (польскія грыбы, масլякі, махавікі жоўта-бурыя, гаварухі, гаркухі) — збіраць не рэкамендуецца, бо нават у адносна чыстых месцах (да 1,0 Кu/кв. км) яны назапашваюць значную колькасць радыенуклідаў. У любым выпадку ўсе сабраныя грыбы пажадана правяраць на радыеактыўнае забруджванне. Неабходна памятаць, што адно толькі папярэдняе адварванне зніжае ўтрыманне радыецэзію ў грыбах у 3—5 разоў. Пры сушцы колькасць радыенуклідаў практычна не зніжаецца, таму сушыць трэба толькі «чыстыя» грыбы.

Нарыхтоўка дзікарослых ягад і пладоў, арэхаў дапускаецца толькі ў лясах са шчыльнасцю забруджвання глебы цэзіем-137 да 2 Кu/кв. км з абавязковым кантролем на ўтрыманне радыенуклідаў.

## БЯСПЛОДНАСЦЬ — ТРАГЕДЫЯ АБОДВУХ

**Паважаная «Звязда»! У мяне ад першага шлюбу ёсць дзіця. А вось другі шлюб па-ранейшаму застаецца бяздзетным. Куды можна звярнуцца з гэтай праблемай?**

**Наталля С.,** г. Заслаўль.

Бясплоднасць — заўсёды трагедыя для сям'і. Меркаванне, што віноўніцай бясплоднасці можа быць толькі жанчына, глыбока памылковае. Лічбы статыстыкі сведчаць, што ў 35—40 працэнтах усіх выпадкаў бясплоднымі з'яўляюцца менавіта мужчыны і ў 12 працэнтах выпадкаў назіраецца сумесная бясплоднасць.

Калі зачацце не адбылося на працягу 1,5—2 гадоў сямейнага жыцця, муж і жонка павінны абследавацца. Прычынай, якая выклікае парушэнні здольнасці мужчыны да апладнення, можа быць запаленчыя ці прыроджаныя захворванні (паталогія палавых органаў), гарманальная недастатковасць і парушэнне капулятыўнай функцыі. Як паказвае практыка, кожны трэці мужчына пасля 30—35 гадоў мае праблемы з прастатай.

У гэтым выпадку сумеснымі намаганнямі ўрачоў-андролагаў і сексапатолагаў вам будзе аказана неабходная медыцынская дапамога. Трэба заўважыць, што час высяпвання новага сперматазоіда ў мужчын адбываецца на працягу 74 дзён, чым і тлумачыцца неабходнасць працяглага лячэння.

Мужчынам нядрэнна было б падумаць пра ўласнае здароўе самім. Як сведчыць статыстыка, у былым СССР на 105 хлопчыкаў нараджалася 100 дзяўчынак. Пасля гэтыя прапорцыі мяняліся не на карысць мужчын: такім чынам, к 50 гадам на 100 жанчын прыпадала ўжо 85 мужчын, а к 80 гадам — толькі 50.

Па пытаннях лячэння мужчынскай бясплоднасці можна звяртацца ў андралагічнае аддзяленне Мінскай абласной клінічнай бальніцы ў Бараўлянах ці ў Рэспубліканскі цэнтр «Шлюб і сям'я» (г. Мінск, вул. Арлоўская, 66).

## ПАШПАРТ З «ПАГОНЯЙ» МОЖНА АТРЫМАЦЬ

**Хачу памяняць савецкі пашпарт на новы, з «Пагоняй». Але чуў, што існуе тайнае распараджэнне такі дакумент не выдаваць. Ці так гэта?**

**Анатоль С.,** г. Мінск.

У пашпартным стале Маскоўскага РАУС сталіцы карэспандэнту газеты адказалі, што з атрыманнем пашпарта няма ніякіх праблем. Калі і дзейнічае дзесьці падобнае распараджэнне, то, відаць, па ініцыятыве на месцах. Пры наяўнасці бланкаў пашпарт выдаецца.

**Выпуск падрыхтавалі Жанна КАТЛЯРОВА, Сяргей КУРКАЧ, Анатоль МЯСНІКОЎ, Надзея НІКАЛАЕВА, Ігар ШЧУЧЭНКА.**

**СЁННЯ — ДЗЕНЬ ПАГРАНІЧНІКА**



*Прапаршчык Дзмітрый Гальдэнгорн з нямецкай аўчаркай па мянушцы Майк працуюць у аддзяленні пагранічнага кантролю «Казловічы» Брэсцкага пагранічнага атрада і адказваюць за праверку грузавых аўтамабіляў.*

**Фота Уладзіміра СКОКАВА.**

# ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА ДОКТАРСКАЙ ДЫСЕРТАЦЫІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

навуковым кіраўніцтвам А. У. Казуліна і А. П. Сманцэра».

Дарэчы, забягаючы наперад, трэба заўважыць, што Віктар Навумчык не абмежаваўся лістом у Кабінет Міністраў. Таму і камісія Міністэрства адукацыі і навукі разглядала некалькі зваротаў. Калі гаварыць мовай дакумента, то: «камісія разгледзела заявы прафесара Навумчыка В. М., прыкладзеныя да даручэння Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24.11.95 г. № 05/802-152, да даручэнняў Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 28.12.95 г., ад 29.01.96 г., ад 06.02.96 г. і ад 27.03.96 г. № 15/7-4837 да даручэння Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 09.02.96 г. № 03-17/100.

Указаныя заявы датычацца асабістага ўкладу Казуліна А. У. у рэзультаты даследаванняў, прадстаўленых у дысертацыі, выкарыстання Казуліным А. У. службовага становішча ў працэсе падрыхтоўкі дысертацыі, а таксама неаб'ектыўнасці папярэдняй экспертызы дысертацыі па месцу яе выкарыстання, г. зн. у Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі (ІПК).

Вынікі работы камісіі і сталіся прадметам разгляду на калегіі Міністэрства адукацыі і навукі, якая адбылася 7 мая 1996 года. І каб болей ужо не вяртацца да асобы Віктара Навумчыка, узгадаем, што менавіта ён звярнуў таксама ўвагу і на ўзровень навуковай працы Казуліна. Характарыстыкі пры гэтым выбраў даволі жорсткія: «Не падвяргаючы сумненням актуальнасць тэмы дысертацыйнага даследавання, варта падкрэсліць, што сама работа вызначаецца амбівалентнасцю. З аднаго боку, мы маем выключную структуру дысертацыі, скіраваную на вывучэнне феномена сучаснай школы новага тыпу. З другога боку — расчароўвае адсутнасць арыгінальнага зместу, вывадаў, якія маглі б паказаць дынаміку творчага пошуку і выявіць навізну тэарэтычных і эксперыментальных знаходак. Тэарэтычная частка работы носіць у большай ступені кампілятыўна-рэфератыўны характар, эксперыментальная частка даследавання зусім вызначаецца эклектычнасцю і нерэпрэзентатыўна».

Камісія паставіла перад сабой задачу не даваць ацэнку якаснаму, так бы мовіць, боку справы. Перакананні Навумчыка могуць насіць і суб'ектыўны характар. Змест дысертацыі — прадмет навуковых спрэчак. Камісію ж, як і само міністэрства, турбавала (і, відавочна, працягвае турбаваць) найгалоўнейшы у дадзеным выпадку прадмет канфлікта: асабісты ўклад Аляксандра Уладзіслававіча ў дысертацыйныя даследаванні. Тут, мажліва, трэба згадаць, што існуе Часовае палажэнне аб прысуджэнні навуковых ступеняў, зацверджанае пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 12.05.94 г. № 328. Якое ж патрабаванне вынікае з гэтага дакумента? У прыватнасці, там гаворыцца наступнае: «...дысертацыя павінна быць індывідуальна напісанай работай, which мае ўнутранае адзінства і сведчыць пра асабісты ўклад аўтара ў навуку. Яна павінна ўтрымліваць абагульненае выкладанне рэзультатаў даследаванняў, выкананых аўтарам...»

Адсюль вынікае і пытанне: якія даследаванні праводзіў асабіста Казулін ці што ён непасрэдна зрабіў у складзе групы даследчыкаў? Вось што тлумачыць з гэтай нагоды першы намеснік міністра адукацыі і навукі, старшыня Камітэта па навуцы і тэхналогіях Васіль Стаўроў і ён жа — старшыня камісіі «па справе Казуліна»:

— Мы працавалі, будучы абавязанымі адказаць на запыты, якія паступілі ў міністэрства і з Кабінета Міністраў, і з Адміністрацыі Прэзідэнта. Наўмысна падкрэсліваю гэты момант. Аляксандр Уладзіслававіч з вялікім абурэннем задаваў нам пытанне: «На якой падставе была створана гэта камісія?» Але варта, мусіць, і над маральным бокам справы задумацца. Чалавек працуе ў міністэрстве. Наш калега. Ды па ім, па яго паводзінах, яго стаўленні да навукі, да педагогікі будуць меркаваць і аб іншых. Хіба ж не так атрымліваецца? І ўсё ж пра эмоцыі лепей памаўчым. Актуальнасць тэмы дысертацыі, навуковая навізна, практычная карысць рэзультатаў, адпаведнасць спецыяльнасці і г. д. патрабуюць прафесійнай навуковай экспертызы ў парадку, выкладзеным адпаведнымі палажэннямі, нашай камісіяй не разглядаліся.

— Васіль Пятровіч, але ж у Расіі, магчыма, іншыя падыходы да асабістага ўкладу аўтара?

— Ні ў якім разе. Адпаведнасць амаль што поўная. Акрамя згаданага падыходу, ёсць яшчэ і такое перакананне (і ў беларускім, і ў расійскім палажэннях): «...Пры напісанні дысертацыі суіскальнік абавязаны даваць спасылкі на аўтара і крыніцу, адкуль бярэ матэрыялы ці асобныя рэзультаты. Пры выкарыстанні ідэй альбо распрацовак, якія належаць сааўтарам, калектыўна з каторымі былі напісаны навуковыя работы, суіскальнік абавязаны адзначыць гэта ў дысертацыі».

Знаёмства з тэкстам дысертацыі, абароненай у Маскве пад назвай... Вось тут ужо, праўда, можна заблытацца. Бо ў кожным з выпадкаў існуюць на адно і тое ж пытанне розныя адказы. Напрыклад, мне паказалі дзве розныя вокладкі дысертацыі. Адна з іх — «Тэарэтычна-педагагічныя асновы дзейнасці навучальных устаноў новага тыпу» (спецыяльнасць 13.00.01. — «Тэорыя і гісторыя педагогікі»). У другім варыянце — «Педагагічныя асновы дзейнасці навучальных устаноў новага тыпу» (спецыяльнасць 13.00.01. — «Агульная педагогіка»). За тлумачэннямі давайце звернемся да высноў камісіі: «Пра тэму дысертацыі. Назва дысертацыі Казуліна А. У., указаная ў аўтарэфераце і ў экземпляры, атрыманым з ВАК РФ, не адпавядае тэме, зацверджанай на пасяджэнні Вучонага савета ІПК адукацыі 01.10.93 г. (пратакол № 6, дадатак 12) і назве дысертацыі, абмеркаванай і рэкамендаванай да абароны на пасяджэнні лабараторыі педагагічнай творчасці 30.06.95 г. (дадатак 13). Дакументы, пацвярджаючыя змену тэмы, у ІПК адукацыі адсутнічаюць. Такім чынам, змена тэмы, назва каторай зафіксавана і ў пісьме міністэрства ў БелВАК, ажыццёўлена Казуліным А. У. у парушэнне парадка, устаноўленага ВАКам РФ і БелВАКам».

Цяпер — што датычыць практычных рэзультатаў. У дысертацыі А. Казуліна ўказваецца, што даследаванне выконвалася ў рамках двух дзяржаўных тэм-заказаў Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь. У 1991—1993 гг. міністэрства фінансавала тэму «Распрацоўка навукова-метадалагічнай асновы арганізацыі і функцыяніравання навучальных устаноў новага тыпу (гімназій, ліцэяў, каледжаў, вышэйшых прафесійных вучылішчаў і інш.) як састаўной часткі нацыянальнай сістэмы адукацыі Беларускай ССР» (будзем лічыць гэта першай тэмай). У 1991—1992 гг. выконвалася ў БелНДІ адукацыі, а ў 1993 г. — у ІПК. У 1994—1995 гг. міністэрства фінансавала тэму «Навуковае абгрунтаванне, адбор, змест і распрацоўка тэхналогіі навучання для навучальных устаноў новага тыпу (ліцэі, гімназіі)» (умоўна вызначым як другую тэму), каторую выконвала лабараторыя педагагічнай творчасці ІПК, на чале з А. Сманцарам. Камісія проста не змагла знайсці навуковыя справаздачы па згаданых тэмах. Можна толькі здагадвацца, чаму іх няма. Па іншых тэмах падобныя дакументы існуюць. Тут варта заўважыць, што ёсць іншага характару дакументы, якія ўскосна, здавалася б, маюць дачыненне да Аляксандра Уладзіслававіча. Каментарыі да гэтага падае Васіль Пятровіч Стаўроў:

— Заданне БелНДІ адукацыі на 1991 год падпісана Казуліным. Па тым часе ён займаў пасаду начальніка вядучага аддзела бесперапыннай адукацыі і перспектыўнага развіцця міністэрства. Але ж сам па сабе факт падпісання задання на выкананне прыкладной навукова-даследчыцкай работы прадстаўніком заказчыка не дае падстаў лічыць гэтага прадстаўніка навуковым кіраўніком альбо выканаўцам тэмы. Не фігуруе Казулін і ў астатніх заданнях. Ёсць і іншыя не менш пераканаўчыя дакументы. Праўда, часам у асаблівай ступені здзіўляе не гэтулькі адсутнасць у іх прозвішча Казуліна, колькі яго прысутнасць. Патлумачу. У ВАК Расіі былі прадстаўлены копіі планаў-заданняў па першай і другой тэмах, падпісаныя А. Сманцарам і А. Казуліным. Прычым у гэтым варыянце ўжо абодва названы навуковымі кіраўнікамі тэмы. Арыгіналы гэтых дакументаў не знойдзены. Ва ўсякім разе — не прадстаўлены камісіі. Складваецца ўражанне, што дакументы рыхтаваліся наўмысна, выключна для Масквы.

Таму, відавочна, камісія на чале са Стаўровым вымушана была праявіць настойлівасць. І, канешне ж, звярнула ўвагу на тое, што планы-заданні нікім не зацверджаны і нідзе не зарэгістраваны. Подпісі выканаўцаў адсутнічаюць. Усе планы-заданні (на ўсе пяць гадоў!) надрукаваны на адной машынцы і з адной смешнай дэталькай: ва ўсіх планах-заданнях па першай тэме (і на 1991, і на 1992, і на 1993 гады) прапушчана адно і тое ж слова ў назве тэмы. Хіба гэта не можа сведчыць пра паспешлівасць і адначасовасць іх складання? Улічваючы гэта, камісія і прыйшла да высновы: нельга аднесці згаданыя планы-заданні да дакументаў, пацвярджаючых, што А. Казулін на працягу 1991—1995 гадоў сапраўды ажыццяўляў навуковае кіраўніцтва першай і другой тэмамі. Іншая справа, што Аляксандр Уладзіслававіч як прадстаўнік міністэрства-заказчыка каардынаваў працу па тэмах. Але гэта не служыць дастатковай асновай для адзнакі яго творчага ўкладу ў выкананне тэм і магчымасці выкарыстоўваць ад свайго імя атрыманыя выканаўцамі рэзультаты.

І вернемся яшчэ да падкрэсленага аднойчы пункта Палажэння ВАК РФ: дысертацыя павінна быць напісана аднаасобна ды павінна сведчыць пра асабісты ўклад аўтара ў навуку. Камісія ўстанавіла, што тры чвэрці тэксту ў 1—3-й главах дысертацыі адпавядаюць тэксту манаграфіі «Педагагічныя асновы дзейнасці навучальных устаноў новага тыпу». Падпісаная А. Казуліным, яна ўсё ж адлюстроўвала плён працы вялікай творчай групы.

— І болей таго, — заўважае Васіль Пятровіч Стаўроў, — глава 1-я дысертацыі — «Гісторыка-метадалагічныя аспекты дзейнасці навучальных устаноў новага тыпу» па свайму зместу адпавядае даследаванню «Логіка-гістарычны аналіз айчыннага і замежнага вопыту арганізацыі і функцыяніравання навучальных устаноў», выкананага яшчэ ў 1991 годзе зусім іншым аўтарам. Дарэчы, па дадзенай праблеме гэтым аўтарам надрукавана болей як 10 аўтарскіх аркушаў уласных прац. Казулін не мае па гэтай тэме ніводнай публікацыі. Ёсць тэкставыя супадзенні з работамі аўтара-папярэдніка. У прыватнасці, дастаткова зазірнуць у выдадзеныя раней брашуры «Ліцэй: ад Арыстоцеля да нашых дзён», «Гімназічная адукацыя: гісторыя і сучаснасць».

**І гэта, чытач, не ўсё. Ды толькі, павер, пра ўсе астатнія перыпетыі каб расказаць — не хопіць, відаць, і ладнага стоса нумароў нашай газеты. Таму напрыканцы — цытата з дакумента: «...1) Пры падрыхтоўцы дысертацыі да абароны Казуліным А. У. выкарыстаны шэраг фальсіфіцыраваных і падложных дакументаў, прадстаўленых у дысертацыйны савет Маскоўскага дзяржпедуніверсітэта (МДПУ) і ў ВАК Расійскай Федэрацыі;**

**2) у арганізацыі, у якой выканана дысертацыя (Інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі Беларусі...) у працэсе абмеркавання доктарскай дысертацыі Казуліна А. У. дапушчана грубае парушэнне ўстаноўленага парадку ацэнкі дысертацыйнай работы і афармлення рэзультатаў яе абмеркавання;**

**3) доктарская дысертацыя Казуліна А. У. не адказвае патрабаванням Палажэння аб прысуджэнні вучоных ступеняў па частцы асабістага ўкладу аўтара...»**

**Гэта — вывады камісіі. Гэта — частковы адказ доктару педагагічных навук Віктару Навумчыку...**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

***СЕНСАЦЫЯ***

***УЛАДЗІМІР НІСЦЮК:***

## «Я МАЮ НАМЕР ПАЧАЦЬ ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗА АДСТАЎКУ СЯМЁНА ШАРЭЦКАГА»

— Акцыя па збору подпісаў за адстаўку Старшыні Вярхоўнага Савета будзе мець хутчэй папераджальны сэнс, — сказаў учора нашаму карэспандэнту дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні Камісіі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі Уладзімір Нісцюк. — Наогул на адным з бліжэйшых пасяджэнняў Вярхоўнага Савета я маю намер выступіць з прапановай унесці ў парадак дня пытанне аб адкліканні Старшыні ВС. Нагадаю, каб пытанне было ўнесена, трэба, каб за яго прагаласавалі 2/3 дэпутатаў. Дакумент жа аб адстаўцы гатовы ўжо падпісаць некалькі чалавек...

**(Аргументы і матывы дэпутата У. Нісцюка адносна яго намеру «Звязда» выкладзе ў наступным нумары).**

## ДА ВЕДАМА ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Першая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадоўжыць сваю работу 29 мая 1996 г. у 9 гадзін 30 хвілін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме Урада.



***ДАЗВОЛЬЦЕ НЕ ПАГАДЗІЦЦА***

***КІРАЎНІК ФРАКЦЫІ «ЗГОДА» Ў ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ УЛАДЗІМІР КАНАПЛЁЎ:***

# «НІЯКІ ГЭТА НЕ ДЭМАРШ, А ПРАПАНОВА ЖЫЦЬ У КАНСТЫТУЦЫЙНАЙ ЗГОДЗЕ»

**Напрыканцы мінулага тыдня некаторыя сродкі масавай інфармацыі паведамілі аб «надзвычайным здарэнні» у час работы сесіі Вярхоўнага Савета. Нібыта пасля таго, як дэпутаты вырашылі давыбраць двух прадстаўнікоў на пасады суддзяў Канстытуцыйнага суда, кіраўнік парламенцкай фракцыі «Згода» Уладзімір Канаплёў «заклікаў членаў гэтага дэпутацкага аб'яднання пакінуць залу «для кансультацый»... Сітуацыя была ацэнена як дэмарш дэпутатаў фракцыі, які выклікаў незадаволенасць астатняй часткі Вярхоўнага Савета.**

**На справе, аднак, усё аказалася куды складаней. Сёння член Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь кіраўнік фракцыі «Згода» Уладзімір КАНАПЛЁЎ вырашыў пракаменціраваць тую неардынарную сітуацыю:**

— Вярхоўны Савет трынаццатага склікання працуе ў надзвычай складаных умовах. З аднаго боку — эканамічная і палітычная нестабільнасць у грамадстве, а з другога — адсутнасць узаемаразумення паміж галінамі ўлады... Што ж, такі ўжо наш лёс — жыць, працаваць і дзейнічаць у неаднязначны, заблытаны і супярэчлівы перыяд станаўлення беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. Тым не менш, гэта не здымае з нас адказнасці за рашэнні, якія прымаюцца ў самых высокіх эшалонах улады. Палітычным амбіцыям, карпаратыўным інтарэсам пры вырашэнні лёсаносных пытанняў і праблем дзяржавы месца няма і быць не павінна.

Да пытання аб давыбарах суддзяў Канстытуцыйнага суда наша фракцыя прапаноўвала падыйсці з дзяржаўных пазіцый. Што пры гэтым мелася на ўвазе? А вось што. Як вядома, Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь прынята 15 сакавіка 1994 года. Закон аб Канстытуцыйным судзе — пазней. Прэзідэнт жа Рэспублікі Беларусь выбраны наогул пасля ўсяго гэтага. У выніку ў фарміраванні Канстытуцыйнага суда прымала ўдзел толькі адна галіна ўлады — заканадаўчая. Роля ж кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады была не прадугледжана, зведзена па-сутнасці толькі да прадстаўлення Вярхоўнаму Савету кандыдатуры на пасаду Старшыні Канстытуцыйнага суда.

Дык ці правільна гэта? А як жа быць тады з прынцыпам падзелу ўлад?!

Зыходзячы з гэтых меркаванняў, прадстаўнікі фракцыі «Згода» прапанавалі ўключыць у парадак дня разгляд праектаў законаў «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь», «Аб парадку ўступлення ў сілу Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь» і «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» ініцыіраваных Прэзідэнтам. У адпаведнасці з імі павінна было адрэгулявацца права Прэзідэнта мець у Канстытуцыйным судзе ім прапанаваных прадстаўнікоў.

На жаль, з падачы першага намесніка Старшыні ВС В.Новікава, які вёў сесію, большасць дэпутатаў нашу прапанову — абгрунтаваную, законную — не падтрымалі. Чаму? — нам цяжка зразумець і сёння. Аб тым, як дзейнічаць фракцыі надалей, мы і вырашылі тут жа пракансультавацца. Камусьці гэта не спадабалася, хтосьці ўбачыў у нашых дзеяннях дэмарш, «спробу зрыву работы парламента па антыканстытуцыйных матывах» і г.д., і да т. п.

Прынамсі, такой рэакцыі мы чакалі. У Вярхоўным Савеце не ўсім даспадобы дзеянні як нашай фракцыі «Згода», так і іншых дэпутацкіх аб'яднанняў, асобных дэпутатаў. Што ж, як кажуць, колькі людзей, столькі і думак, меркаванняў... Але я, як кіраўнік адной з буйнейшых парламенцкіх фракцый, хачу сказаць адно: мы — за яднанне сіл дэпутатаў, за паразуменне ў працы, за прыняцце рашэнняў законных, абгрунтаваных, рэальных — такіх, якія могуць і павінны паспрыяць стабілізацыі эканамічнага і палітычнага жыцця ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь.



## Валянцін ЕЛІЗАР`ЕЎ:

# «БАЛЕТ — мастацтва думкі»

**Беларускі балет — фенаменальная з'ява ў сучасным нацыянальным мастацтве. Сталася так, што «самае ўмоўнае з усіх мастацтваў» — балет — аказалася надзвычай папулярным, актуальным, сугучным часу і запатрабаванням гледачоў.**

**Небывалы ўзлёт і прызнанне нашага балета ва ўсім свеце ў апошнія два дзесяцігоддзі звязаны з імем балетмайстра Валянціна Елізар'ева. Нядаўна, як мы ўжо паведамлялі, яго пастаноўка балета «Страсці» на музыку А. Мдзівані была прызнана ў 1996 годзе лепшым харэаграфічным спектаклем свету. Творчасць В. Елізар'ева стала з'явай не толькі культурнага, але і грамадскага жыцця. За 20 гадоў працы ў ДАВТ Беларусі ён выхаваў для харэаграфічнага мастацтва вялікую аўдыторыю. Як лічаць крытыкі, ён рэфарміраваў стары «рафінаваны» балет і адносіны публікі да яго. У адным са сваіх інтэрв'ю Елізар'еў так сфармуляваў сваё разуменне харэаграфічнага мастацтва: «Балет — гэта мастацтва думкі, яно валодае ўсімі рысамі інтэлектуальнага тэатра».**

**Сёння для вас — наша сустрэча з Валянцінам ЕЛІЗАР'ЕВЫМ.**

***— Валянцін Мікалаевіч, яшчэ раз дазвольце павіншаваць вас з чарговай перамогай у Парыжы. Усе лаўры — вашы. І мы рады за вас. Аднак толькі цяпер, калі беларускі балет прызнаны ва ўсім свеце, артыкулы пра Елізар'ева перапоўнены дыфірамбамі. А калі вы пачыналі, многія ўспрымалі вашы работы як дзёрзкі эксперымент, як адмаўленне ўсяго таго, што існавала раней... У нялёгкай барацьбе «фарміравалася эстэтыка пакуль яшчэ не асэнсаванага намі, цалкам новага накірунку ў харэаграфіі — інтэлектуальнага, філасофскага балетнага тэатра». У чым яе сутнасць?***

— Я не вялікі майстар разважаць пра балет, мая справа — рабіць балет. Увогуле я з'яўляюся прыхільнікам балета змястоўнага, проста танец на музыку, няхай нават бліскучы, мяне не задавальняе. Сёння гэтага мала. Для мяне надзвычай важна, каб у спектаклі жыла значная, сучасная па думцы ідэя. Толькі дзеля яе варта траціць сілы і ў канчатковым выніку — жыццё. Балет, на маю думку, як і іншыя віды мастацтва, нясе цяпер вялікую ідэалагічную нагрузку. Прафесія — магутная зброя ў руках таленавітага чалавека. Мне хочацца, каб наш балет сцвярджаў гуманістычныя, прагрэсіўныя, грамадзянскія ідэалы.

Спектаклі ўва мне спеюць гадамі. Спачатку яны ўвасабляюцца ў сэнсавыя каркасы. Потым я проста нанізваю на іх, як пацеркі на нітку, харэаграфію. Канцэпцыя майго першага спектакля — «Кармэн-сюіты» вельмі простая: палёт насустрач Жыццю, сустрэча Любові, сустрэча Смерці. Але да такіх простых рэчаў быў даволі складаны шлях.

***— Вядома, у 26 гадоў стаць кіраўніком балетнай трупы — такое выпадае не кожнаму. Але вы на гэта пайшлі. Больш таго, адразу сталі ламаць харэаграфічныя каноны і правілы, што, напэўна, выклікала і пэўнае супраціўленнне. Скажыце, у вас тады ўзнікалі праблемы з трупай, з кіраўніцтвам?***

— У Санкт-Пецярбургу я атрымаў выдатную прафесіянальную падрыхтоўку. Спачатку скончыў харэаграфічнае вучылішча. Але пасля перанесенай траўмы паступіў на балетмайстарскае аддзяленне. Таму добра ведаю, што такое праца на сцэне... У трупу беларускага балета я прыйшоў сапраўды вельмі маладым чалавекам. Асабліва калі ўлічыць, што гэта быў пачатак 70-х гадоў... Я ўзначаліў трупу. Быў даверлівы, недасведчаны ў многіх адміністрацыйных пытаннях. У час вучобы нас не вучылі гэтаму — кіраваць. І я мусіў навучыцца сам. Спачатку мяне неаднойчы падманвалі, мне здраджвалі. Я цяжка перажываў гэта. Але пазней выпрацаваў пэўную сістэму ўзаемаадносінаў з калектывам. Яны грунтуюцца па павазе чалавечай асобы і патрабавальнасці. На жаль, з некаторымі артыстамі давялося расстацца з-за іх прыхільнасці да спіртнога і недастатковай аддачы ў рабоце. Адных прыродных здольнасцей артысту балета мала. Яны павінны прайсці праз горан працы. А праца ў нас штодзённая, катаржная, таму я вельмі цаню, калі артысты ўмеюць яшчэ і працаваць над сабой. У мяне знайшліся аднадумцы ў трупе. Я зрабіў стаўку на моладзь, іх прызначаў на галоўныя партыі. Атмасфера перамен, пошуку новага вельмі спрыяла творчасці. Зверху мяне ніхто не карэкціраваў.

***— Народны артыст Беларусі Юрый Траян неяк сказаў пра вас: «Мне здаецца, што Елізар'еў спецыяльна «накручвае» складанасці, якія, здаецца, немагчыма выканаць, каб прымусіць нас працаваць з апошніх сіл, як гаворыцца, расці над сабой».***

— Па-майму глыбокаму перакананню, трэба ставіць творчую планку для акцёра вышэй, чым ён можа ўзяць. Каб ён цягнуўся да гэтай вышыні, пераадольваючы сябе.

***— Гэта не тыранства?***

— Калі б я гэту планку не ставіў гэтак жа высока і для сябе — было б тыранства.

***— Я прыгадваю вашы спектаклі — «Кармэн-сюіта», Стварэнне свету», «Ціль Уленшпігель», «Спартак», «Карміна-Бурана», «Балеро», «Вясна свяшчэнная», «Рамэо і Джульета», «Дон Кіхот», нарэшце — «Страсці»... Усё замешана на страсцях, непрывычнай трагедыйнасці. Побач з любоўю і прыгажосцю — ліецца кроў, пакутуюць і паміраюць людзі. Вы як бы хочаце спасцігнуць глыбінны сэнс усяго таго, што адбываецца ў свеце, паказаць тыя сілы, што стаяць за канкрэтнымі падзеямі і асобнымі людзьмі. Пра што б ні быў балет — на тэмы старажытнай гісторыі або пра пяшчотнае каханне — такое ўражанне, што гаворка ідзе пра наш час, аб праблемах сучаснага грамадства. Сваю грамадзянскую пазіцыю вы заўсёды дэманструеце ў сваіх работах. А як вы ставіцеся да палітыкі?***

— Я — непалітызаваны чалавек. І лічу, што палітыкай, як і ўсякай іншай справай, павінны займацца прафесіяналы. Да таго ж, я люблю незалежнасць.

***— Але вы пачыналі сваю творчую працу ў 70-я гады, калі была вельмі моцная камуністычная ідэалогія. Як вам тады ўдавалася захаваць сваю незалежнасць?***

— Гэта пытанне мне часта задаюць. Можа быць, мне пашанцавала, але ідэалогія мяне абышла. Ні раней — у 70-я, 80-я, ні цяпер — у 90-я мне «зверху» ніхто нічога не загадваў, не прымушалі ставіць спектаклі, якіх я ставіць не хацеў, не рабілі ўрадавыя заказы. Я заўсёды ставіў тое, што лічыў патрэбным.

***— Вы ніколі сабе не задавалі пытанне, чаму так адбывалася?***

— Можа быць, паважалі як творчую асобу. А можа лічылі, што мастацтва балета адасобленае ад рэальнага жыцця, ад вырашэння сур'ёзных праблем.

***— Сучасныя ўлады Беларусі апошнім часам актыўна імкнуцца наладзіць кантакт і ўзаемадзеянне з творчай інтэлігенцыяй рэспублікі. Спачатку адбылася сустрэча з Прэзідэнтам, пасля дзве сустрэчы ў Вярхоўным Савеце. Вас не было ні на адной з іх. Чаму? Не запрасілі, альбо па якой іншай прычыне?***

— Я быў запрошаны. Але не змог прысутнічаць, таму што ў гэты час тэатр быў на гастролях. Але пазней я сустрэўся і з Прэзідэнтам Лукашэнкам і спадаром Шарэцкім.

***— А ў вас ёсць што сказаць уладам?***

— Любая ўлада павінна разумець, што без дапамогі і ўвагі з боку дзяржавы мастацтва не зможа існаваць.

Возьмем балет. Гэта мастацтва ніяк не можа сябе акупіць. Яго немагчыма зрабіць камерцыйным у поўным сэнсе гэтага слова. І не трэба тут ніякіх ілюзій — ва ўсім свеце балет з'яўляецца клопатам дзяржавы.

Беларускі балетны тэатр, які мае такі вялікі творчы патэнцыял, такую славу ў свеце, тым не менш, зведвае страшэнныя цяжкасці. Ужо скончыўся першы квартал, а мы прафінансаваны толькі на 33 працэнты. Гэта грошы фактычна толькі на зарплату. Значыць, рэальна мы не можам ставіць новых спектакляў, топчамся на месцы.

***— Наш балет многа гастралюе. Дзе толькі не пабывалі беларускія артысты! Дарэчы, якая сістэма аплаты працы артыстаў балета, «зорак», балетмайстраў у той жа Еўропе?***

— Там існуе індывідуальны падыход. У любым выпадку аплату працы артыстаў балета ў Вялікабрытаніі, Францыі, Іспаніі нельга параўнаць з нашай. Мы — проста жабракі. Вось я зараз атрымаў еўрапейскую прэмію — гэта найвялікшае прызнанне і гонар. Але я разумею, што ні для мяне асабіста, ні для Беларусі нічога ад гэтага факта не мяняецца. Высокі творчы ўзровень і вельмі нізкая фінансавая забяспечанасць — гэта небяспечная дыспрапорцыя. Такое становішча прыніжае артыстаў, зневажае іх чалавечую годнасць.

***— Скажыце, а ў вас не ўзнікала жадання паехаць працаваць туды, дзе не трэба клапаціцца пра фінансаванне трупы, іншыя гаспадарчыя справы, і заняцца творчасцю?***

— Ведаеце, я неаднаразова атрымліваў запрашэнні паехаць працаваць за мяжу. Але я не такі чалавек, які можа з-за грошай сарвацца з наседжанага месца. У мяне тут сям'я, тут вучацца дзеці. Хаця і я, і жонка — некарэнныя беларусы, але за гады жыцця ў Беларусі мы абеларусіліся канчаткова. Дзеці прывязаны да Мінска. Я вельмі люблю гэту зямлю, той калектыў, з якім я працую ўжо 22 гады. Парваць з усім? Гэта немагчыма. Бо надта многа ўкладзена душы ва ўсё. Балетная школа і тэатр, падрыхтоўка маладых балетмайстраў у беларускай акадэміі музыкі... Мяне цешыць тое, што маімі намаганнямі беларускі балет набыў такую вядомасць. І пра Беларусь дзякуючы балету знаюць ва ўсім свеце. Я прыношу карысць Беларусі, працую на яе і лічу сябе патрэбным тут.

А паехаць на месяц-два, каб ажыццявіць пастаноўку за мяжой, я заўсёды маю магчымасць. Але галоўная мая справа — тут.

***— А каго-небудзь з артыстаў трупы спакусілі высокія заробкі за мяжой?***

— Некаторыя артысты паехалі на час, па кантракту, легальна, каб зарабіць грошы. З майго дазволу, дарэчы. Але ніхто не змог парваць з Бацькаўшчынай назусім. Беларуская зямля, мне здаецца, валодае нейкай моцнай прыцягальнай сілай.

***— Вам пашчасціла па стыпендыі ЮНЕСКО стажыравацца ў Парыжы. Беларуская трупа аб'ехала ўвесь свет, з трыумфам выступала на самых прэстыжных пляцоўках. Які ўплыў аказала на вас знаёмства з замежжам?***

— Безумоўна, я набыў шырокі кругагляд, дыяпазон ведаў, дарагія для мяне знаёмствы з сусветна вядомымі майстрамі. Але, з другога боку, далёка не ўсё на Захадзе ў мастацтве я прымаю. Там многа нязначнага, не вартага ўвагі, другаснага. Сустракаюцца невялікія астраўкі сапраўднага мастацтва сярод акіяна смецця. Я ўсё лепшае ўбіраю ў сябе — любы мадэрн, авангард. Але большасць памыляюцца, калі лічаць, што людзям мастацтва лёгка жывецца на Захадзе. Ва ўсіх свае праблемы. Толькі яны не такія, як у нас.

Бываючы часта за мяжой, я зразумеў, што трэба паважаць сябе, цаніць сваё. А ў нас, на жаль, у ацэнках з'яў мастацтва дзейнічае колькасны падыход, а не якасны. Да замежных гастроляў я стаўлюся цяпер як да звычайнай, будзённай работы. Для мяне важна не проста з'ездзіць, а пакінуць там нейкі след. Беларускі след.

**Гутарыла Таццяна АНТОНАВА.**





**Лета — самая дэмакратычная пара года. Паводле статыстыкі, асноўная колькасць стрэсаў у жанчын прыпадае на асенне-зімовы перыяд. Яно і зразумела. Выходзіш, а вакол каўняры, футры, і ўсе багацейшыя, чым у цябе. Зрэшты, гэта жарт наконт падобных думак, ды і пра статыстыку таксама. Хаця доля праўды ёсць: лета дае магчымасць пазбегнуць неабходнасці ламаць галаву, як выглядаць добра, калі выглядаць так немагчыма.**

**Мода, відаць, разумее наша становішча, разумее, што эканамічны крызіс — гэта сур'ёзна. Можа таму побач з вобразам элегантнай і рэспектабельнай жанчыны (як і мужчыны, зрэшты) мірна суседнічае вобраз субтыльнага, кволага падлетка. Праўда, мардаваць сябе дыетамі да ідэальна-бледнай, з сінякамі пад вачыма, бразгаючай касцямі істоты — барані Бог! Затое тоненькія дзяўчаты і жанчыны могуць з упэўненасцю адказаць на стогны бабуль і матуль з нагоды залішняй худзізны: «Так модна».**

**Сапраўды, у пашане стройныя. І вытанчаныя. І з пачуццём густу. І з пачуццём меры. Зрэшты, апошнія ніколі ўвагай не былі абдзелены. Што рабіць, калі, нягледзячы на свой пераменлівы, капрызны характар, мода ў некаторых момантах — сама кансерватыўнасць. У апошнія некалькі гадоў яна патрабуе ад цудоўнай паловы жаноцкасці.**

# МОДНЫЯ РЭАЛІІ: яркая жанчына ў бледным і простым

Так дык так. Калекцыя адзення Беларускага цэнтра моды на летні сезон патрабаванням адпавядае. Узяць хаця б белыя апраткі. І сілуэт, і аздоба, і матэрыял. Летам чаму жанчыны аддаюць перавагу? Правільна, вопратцы з натуральных тканін. А таму сінтэтычныя тканіны «маскіруюцца» пад лён, бавоўну, сацін. Але шоўк, шыфон, крэпдэшын усё ж ніхто ў куфар не хавае. Вячэрнія ды святочныя строі менавіта з іх выконваюцца. А матэрыялы з бліскучымі глянцавымі паверхнямі нават і ў ансамблях з баваўнянымі вырабамі спалучаюцца — у выглядзе тых жа хустачак, шалікаў. Тым не менш, у спякотныя дні лепш апрануцца ў натуральнае.

Напрыклад, у доўгі, з шырокім падалом і з гузікамі па спіне сарафан. Кароткі таксама падыдзіць, бо міні і максі сёння не спрачаюцца, хаця малюсенькая спаднічка больш папулярная. Як і шорты. Тыя, што нейкім неверагодным чынам трымаюцца на клубах. Удакладняць, што жывот застаецца адкрытым, думаю, не трэба — ужо каторае лета жанчыны максімальна агаляюцца. Дэкальтэ выкарыстоўваецца нават у дзелавых жакецiках. Праўда, тут усё ж павінна быць мера, пра што мы ўжо гаварылі. На работу «гарачыя» шорты не надзенеш — працоўны дзень як пачнецца, так адразу ж і скончыцца, калі вы з'явіцеся ў аблягаючых да немагчымасці штоніках. Якія ж мужчыны змогуць функцыянаваць у нармальным рэжыме, калі перад імі толькі ногі будуць перамяшчацца? Зрэшты, суперпрылягаючыя штаны і сукенкі — адзенне спецыфічнае. Не ўсюды да месца. Таму лепш апрануцца сціпла і з густам — у просценькую сукеначку а ля Жаклін Кенэдзі. Быццам бы прылягае, але прыстойна, быццам бы адкрытая, але ў разумных межах. Гэткая распусная нявіннасць. Галоўнае, камфортна і модна. Дарэчы, пра камфорт асобная размова. Спадніцы, штаны, сукенкі не замінаюць руху. Шырокія прамыя штаны, якія звычайна шыюцца з тонкага трыкатажу і шоўку аднаго колеру ці ў палоску (каб ногі даўжэйшымі выглядалі) — рэчы незаменныя. Доўгія спадніцы падзяляюцца разрэзамі на некалькі кавалкаў. Край можа быць «абгрызены», парэзаны, тканіна скамечаная — мода ж робіць скідку на складанае эканамічнае становішча. Праўда, неахайным касцюм быць не можа, тут ужо выбачайце.



Лета гэтага года — самае маляўнічае. Прыталеныя, з рэльефамі сукеначкі ў асноўным у дробныя кветачкі, букецікі. Гэты малюнак пераважае ва ўсіх відах адзення. Вельмі папулярная любая расліннасць. Малюнак лісця, экзатычных раслін, а то і ўзораў на фоне намаляваных шкур дзікіх жывёл пацяснілі гарохі і клетку.

Абутак на лета — надзеў і забыўся. Сандалі, басаножкі з пераплеценых шнуроў, сеткі, лёну лёгкія, нягледзячы на масіўную падэшву. Мужчыны таксама ходзяць у абутку на шнуроўцы і ў туфлях з тканіны, якія нагадваюць хатнія пантофлі. Дарэчы, мужчынам летам лепш таксама нацягваць шорты з кашуляй навыпуск. У кашулях павялічаны каўнер, яны нават могуць быць з цэлафану, не кажучы пра нейлонавыя ці шыфонавыя. Штаны ў гэтым сезоне пераважна з манжэтамі, якія зашпільваюцца на гузікі ці кнопкі. Гальштукі з асіметрычным малюнкам. Колеры пераважаюць светлыя — лета ўсё ж такі. Але новы малінавы пінжак таксама мае права на жыццё. Хоць ён і малінавы, затое зусім іншага фасону: у раёне клубоў аблягае, а ў верхняй частцы аб'ёмны з-за нейкай колькасці дробных складак. У мужчынскім адзенні шмат клапанаў, кішэняў, лінія пляча не расшыраецца, а пакідаецца натуральнай.

Натуральнасць даўно ўжо стала дамінуючай. Таму асноўныя колеры ў летнім гардэробе — бледна-пастэльныя: бэжавы, крэмавы, жоўты, салатавы. Па-за канкурэнцыяй белы. Хоць штодня з ног да галавы ў белае апранайцеся, дыскамфорт хіба толькі ў адным адчуеце — на «Арыэль» шмат грошай траціць давядзецца.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

**Здымкі прадстаўлены Беларускім цэнтрам моды.**





## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**28 мая 1881 года** нарадзіўся беларускі археолаг, этнограф і грамадскі дзеяч Іван Луцкевіч. Адзін з арганізатараў і членаў ЦК нацыянальнай партыі леванародніцкага накірунку — Беларускай сацыялістычнай грамады. Быў прыхільнікам тэорыі пра бяскласавасць беларускага народа, лозунга культурна-нацыянальнай аўтаноміі для нацыянальных меншасцей. Ініцыятар стварэння Беларускага музея ў Вільні, першай беларускай гімназіі.

**28 мая 1905 года** Янка Купала ўпершыню выступіў у друку — у мінскай газеце «Северо-Западный край» быў надрукаваны верш «Мужык».

### Народны каляндар

Сёння — **Пахом** — веснавы землеробчы прысвятак, прымеркаваны да дня прападобнага Пахомія. Лічыўся «агародным святам», бо ў гэты дзень садзілі агуркі: *«Сей агуркі на Пахом — будзеш насіць мяхом»*.

### А яшчэ быў выпадак

***Незвычайная кража адбылася нядаўна ў Кішынёве: былі ўкрадзены... вартавыя сабакі!***

Невядомыя рабаўнікі ўварваліся ноччу на адну з будаўнічых пляцовак і, збіўшы вартаўніка, забралі дзвюх вельмі злых вартавых аўчарак. Зараз паліцыя спрабуе высветліць, чаму налётчыкі скралі сабак, нават не зацікавіўшыся дэфіцытнымі будматэрыяламі.

### Цікава...

***Калі лысіна на вашай галаве з'яўляецца вашым галаўным болем, то дапамагчы ў гэтай справе можа толькі сур'ёзны і вопытны ўрач. На прыёме ён раскажа, якія ў вас валасы, у якім даглядзе яны маюць патрэбу, чым іх трэба мыць і г. д.***

Але ёсць і нетрадыцыйны спосаб захаваць прычоску надоўга. Разы два-тры на год трэба астрыгацца як мага карацей, а лепш наогул нагала, ды яшчэ і пагаліць галаву лязом. Практыка паказвае, што ў многіх людзей, ужо добра аблысеўшых, раптам пачынаюць з'яўляцца маладыя «парасткі» там, дзе была, уласна, «пустыня».

З чым гэта звязана? Відавочна, у каранёў валасоў з'яўляецца больш энергіі для росту, паколькі забяспечваць 5-міліметровы волас значна лягчэй, чым доўгую пасму. Па-другое, у халодную пару года скура стараецца сагрэць сябе сама: вось яна і пакрывае сябе валоссем, прабудзіўшы прыродныя абаронныя рэзервы. Некаторыя кароткапоўсцевыя каровы і коні, завезеныя з цёплых краін у халодныя, раптам пачынаюць абрастаць густой поўсцю, на здзіўленне селекцыянерам. Толькі не падумайце, што можна разгульваць у дзесяціградусны мароз без шапкі: цыбулінкі валасоў проста вымерзнуць.

### У свеце

***У джунглях далёкай Замбіі мірна жыве не вельмі вялікі народ мбуэра. У яго ўваходзяць розныя плямёны, у кожнага — свой правадыр, і сярод іх асабліва вылзяляецца шаноўны стары па імені Брус М'Чахара. Дакладней, не ён сам, а яго унікальная хаціна.***

З выгляду яна мала чым адрозніваецца ад жылля іншых супляменнікаў М'Чахары — халупа халупай — галоўнае ў яе ўнутры. Гэта адзіная ў свеце хаціна з уласным ліфтам.

Замбійскія ўлады да гэтага часу ламаюць галовы, якім чынам мог сучасны агрэгат апынуцца ў афрыканскіх джунглях: версій многа, ды ніводная з іх не пацвярджаецца, а сам сямідзесяцігадовы правадыр шматзначна маўчыць. Паглядзець на гэтую дзіўную халупу тым часам з'язджаюцца цікаўныя з усёй Замбіі. Адна бяда: ліфт не працуе, бо ў доме М'Чахары няма нават другога паверха. Ды і электрычнасці ў яго роднай вёсцы ніколі не было.

### Неверагодна

***Забруджванне паветра ў Еўропе за апошнія дзесяць гадоў значна знізілася: адбілася барацьба за змяншэнне таксічнасці выкідаў у атмасферу прамысловых прадпрыемстваў. У выніку зменшылася ўтрыманне аксідаў азоту і серы ў дажджавой вадзе.***

Стала лягчэй дыхаць. Але аднachасова зафіксавана зніжэнне ўраджайнасці многіх сельскагаспадарчых культур: кіслотныя дажджы, аказваецца, уносілі ў глебу азот і серу. А зараз натуральнае ўгнойванне рэзка зменшылася. У выніку асабліва пацярпеў рапс. Яго ўраджайнасць, напрыклад, у краінах Паўночнай Еўропы з 1990 года штогод падае на 5 працэнтаў. Акрамя таго, доследы, праведзеныя ў Германіі, паказалі, што ўнясеннем у глебу дадатковай колькасці серы можна павысіць ураджайнасць пшаніцы і жыта амаль на 20 працэнтаў. Да нядаўняга часу гэту серу прыносілі дажджы, якія паглыналі яе з прамысловага дыму.

### Анекдот

*Жонка, гледзячы ў акно, задумліва гаворыць:*
*— Ну вось, і дождж ідзе...*
*Муж, не адрываючыся ад газеты, кідае ёй:*
*— Скажы, што мяне няма дома.*


ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.



*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*





Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 2602.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 12.30.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12